

**Браніслаў Ямант,** *(5.08.1886 - 4.02.1957),*
*з вёскі Дакудава, мастак, прафесар універсітэтаў Стэфана Баторыя ў Вільні і Мікалая Каперніка ў Торуні, заснавальнік і першы дэкан факультэта прыгожых мастацтваў універсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні, паводле фота Гардзелеўскай.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 ( 55 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2011 г.


## У НУМАРЫ:



***На першай старонцы выкладкі:*** *паклонны крыж на ўездзе ў Ліду з боку Менска і Дзятлава, асвечаны мітрапалітам Філарэтам. Здымак Станіслава Судніка.*



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік і навуковы кансультант
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**



АДРАС РЭДАКЦЫІ:

231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by



**Наклад 300 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 22**
**Часопіс падпісаны да друку 30.09.2011 г.**
**Часопіс надрукаваны 20.06.2012 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 4840 руб.**
**індывід. 6 мес.- 9680 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792






# Першая кананізацыя ў Лідзе

5 жніўня 2011 г. у саборы святых Беларускай Праваслаўнай Царквы стала на аднаго святога больш. У Лідзе мітрапаліт Філарэт правёў набажэнства і кананізацыю святара **Кіпрыяна Клімуца**. У Навагрудскай епархіі апошні раз акт кананізацыі праходзіў 500 гадоў назад. Тады да ліку святых прылічылі святога Елісея Лаўрышаўскага (Вялікага князя Войшалка, старэйшага сына караля Міндоўга). У чэрвені гэтага года на паседжанні Святога Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы да ліку святых прылічаны святар Кіпрыян Клімуц.

Кананізацыя - гэта прызнанне царквой памерлага верніка святым с адпаведным яго шанаваннем. Пакуты за веру, святасць жыцця і народнае шанаванне - гэта асновы для прылічэння да аблічча святых. Цяпер у саборы беларускай праваслаўнай царквы больш за 70 святых, 30 з іх гэта новапакутнікі.

Да новага святога ўжо ў дзень кананізацыі вернікі звярнуліся ў сваіх малітвах. А дзень смерці святара - 9-е верасня - у праваслаўных вернікаў зараз стане днём памяці святога.

У гісторыі царквы ніколі не было такіх маштабных і ўсёахопных, доўгіх і бесперапынных ганенняў, як у 30-40-х гадах мінулага стагоддзя. Ваяўнічыя атэісты абрынулі на Рускую Праваслаўную Царкву ўсю моц рэпрэсій. Праваслаўныя храмы ўзрывалі, абразы секлі і спальвалі, святароў і манахаў высылалі, забівалі. Пакінутых у жывых запалохвалі да таго, што многія нават ад блізкіх хавалі сваю веру. За гэтыя гады нябесная айчына папоўнілася мноствам святых пакутнікаў і спавядальнікаў. Сярод іх і святапакутнік Кіпрыян, прасвітар Ятранскі.

Іярэй Кіпрыян нарадзіўся ў 1897 годзе ў беднай сялянскай сям'і ў вёсцы Альхова Гудзевіцкай воласці Гарадзенскага павету. Яго бацька да старэчага ўзросту працаваў кандуктарам на чыгунцы, а маці вяла хатнюю гаспадарку і выхоўвала дзяцей. У сям'і акрамя Кіпрыяна было яшчэ пяцёра дзяцей - два сыны і тры дачкі, аднак ён быў старэйшым. Калі падрос, набожныя бацькі вырашылі даць сыну адукацыю ў Варшаўскай духоўнай семінарыі. Аднак пачалася Першая Сусветная вайна, і сям'я змушана была эвакуявацца ўглыб Расіі.

У 1917 году юнак прайшоў курс паскоранага навучання ў Маскоўскай Александраўскай пяхотнай вучэльні, затым служыў прапаршчыкам у войску Часовага ўраду ў Саратаве. Тады быў бурны рэвалюцыйны час, і новыя ідэі захапілі Кіпрыяна. У сакавіку 1918-га ён з'ехаў у горад Балагое, дзе быў узяты на службу камандзірам роты ў асобны атрад Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі, пазней працаваў справаводам. А з 1919 па 1921 год знаходзіўся ў Татарстане, тут жа ён ажаніўся, у яго нарадзіліся дзве дачкі.

Здавалася б, як жа так магло здарыцца, што набожны чалавек, ды яшчэ, які атрымаў духоўную адукацыю, апынуўся па адзін бок з багаборцамі?! Пазней, на допыце, сам айцец Кіпрыян гэты факт тлумачыў "спагадай ідэям партыі". Ён таксама засведчыў, што ад сваіх рэлігійных перакананняў ніколі не адмаўляўся. Аднак неўзабаве адбыўся яго разрыў з бальшавізмам...

У ліпені 1921 года, у сувязі з хваробай жонкі і рээвакуацыяй уцекачоў з Заходняй Беларусі, Кіпрыян Клімуц вярнуўся на Гарадзеншчыну, якая ўваходзіла тады ў склад Польшчы. У гэтым жа годзе архіепіскупам Гарадзенскім Уладзімірам ён быў пасвечаны ў святарскі сан. Да 1929 года служыў у розных прыходах Гарадзенскай епархіі, а з 1 студзеня 1930 года да самага свайго арышту з'яўляўся настаяцелям прыходу Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы вёскі Ятра Навагрудскага раёна.

Айцец Кіпрыян прыкладаў нямала высілкаў для ўмацавання ў верніках выратавальнай веры ў Бога. У пропаведзях ён адважна казаў пра памылкі матэрыялізму і атэізму, заклікаў сваю паству захоўваць веру і трымацца Праваслаўнай Царквы. Па яго ініцыятыве ў верасні 1934 года ў Ятранскім прыходзе было заснавана Праваслаўнае народнае брацтва. Сваю дзейнасць ён накіроўваў на выхаванне маладога пакалення ў духу праваслаўя. Гэта выклікала незадаволенасць падпольнай партыйнай ячэйкі КПЗБ.

У верасні 1939 года, з прыходам у Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі, тут пачала ўсталёўвацца тая ўлада, з ідэямі якой змагаўся папярэднія гады айцец Кіпрыян. Ён, нягледзячы на паграджаўшую яму небяспеку, як добры пастыр, не пакінуў свайго прыходу і працягваў жыць у вёсцы Ятра, несці людзям святло веры Хрыстовай. Мясцовыя дзеячы кампартыі арганізавалі сход сваёй ячэйкі, на якім абвінавацілі іярэя Кіпрыяна ў антыкамуністычнай дзейнасці, супрацоўніцтве з польскімі ўладамі, арганізацыі польскага фашызму і іншых надуманых злачынствах. Жыхары сяла Ятра так любілі свайго бацюшку, што пратакол з абвінавачваннямі ў адрас святара Кіпрыяна амаль ніхто не падпісаў. Тым не менш айцец Кіпрыян быў арыштаваны. Яму прыпісваліся "правядзенне антысавецкай агітацыі, супрацоўніцтва з партыяй польскіх фашыстаў і з паліцыяй у мэтах барацьбы супраць камуністычнага руху". Вінаватым сябе айцец Кіпрыян не прызнаў. На допытах трымаўся мужна і з добрай годнасцю, ад сваіх рэлігійных перакананняў не адмаўляўся, нікога з блізкіх




***Турэмныя фатаграфіі Кіпрыяна Клімуца***




***Абраз Святапакутніка Кіпрыяна***

не агаварыў і не абгаварыў. Да арыштаваных, якія не прызнавалі сваю віну і не адмаўляліся ад сваіх перакананняў, ужываліся пакутлівыя катаванні, каб праз фізічнае ўздзеянне атрымаць патрэбныя сведчанні. Гэта былі так званыя "стойкі", "канвеерныя допыты", зняволенне ў карцар, утрыманне ў адмыслова абсталяваных сырых, халодных ці вельмі гарачых памяшканнях, пазбаўленне сну, ежы, вады, збіванне і многае іншае.

4 верасня 1940 года іярэй Кіпрыян Клімуц "як сацыяльна небяспечны элемент" быў асуджаны на восем гадоў папраўча-працоўных лагераў. Для адбывання пакарання яго адправілі ў Каргапольскі папраўча-працоўны лагер Архангельскай вобласці. Ад голаду, холаду, хвароб, здзекаў і непасільнай працы бязвінныя людзі гінулі тут тысячамі. Пайка хлеба і баланда з бульбянымі лупінамі часта нават не даходзілі да тых, хто быў паслабей і не мог за сябе пастаяць. Смерць у лагерах чакала што крок. Зняволеныя валілі лес, пілавалі і раскрыжоўвалі дрэвы, а затым, падцягваючы бярвені да чыгункі, грузілі іх на платформы. Праца тут, як і ў многіх лагерах ГУЛагу, была сапраўды катаржнай. Голад і холад даводзілі людзей да знямогі. Перанёсшы жорсткія пакуты, святар Кіпрыян Клімуц памёр ад знясілення ў Каргапольлагу 9 верасня 1942 года.

Праз амаль паўстагоддзя чалавечая справядлівасць у адносінах іярэя Кіпрыяна была адноўлена: па



заключэнні пракуратуры Гарадзенскай вобласці ад 29 верасня 1989 года іярэй Кіпрыян быў рэабілітаваны. На паседжанні Святога Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы ў снежні 2009 года было разгледжана пытанне пра ўслаўленне святара Кіпрыяна Клімуца ў ліку новапакутнікаў і спавядальнікаў як мясцовашанаванага святога. 13 сакавіка 2010 года Найсвяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл зацвердзіў хадайніцтва Мітрапаліта Менскага і Слуцкага пра здзяйсненне акту кананізацыі святара Кіпрыяна.





***Падчас кананізацыі ў Лідскім Свята-Міхайлаўскім саборы***

# Адышоў у лепшы свет лідскі краязнавец Уладзімір Хрышчановіч

15 верасня 2011 года ў Лідзе на 67-м годзе жыцця пайшоў у іншы свет беларускі нацыянальны дзеяч **Уладзімір Канстанцінавіч Хрышчановіч.**

Уладзімір Хрышчановіч прыйшоў у беларускі нацыянальны рух у пачатку 90-х гадоў. У 1994 годзе быў абраны наменсікам старшыні Лідскай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэньне", а пасля заснавання Партыі БНФ - наменсікам старшыні Лідскай гарадской арганізацыі Партыі БНФ. Адначасова быў кіраўніком Лідскай Слабадской суполкі ТБМ. Вылучаўся кандыдатам у дэпутаты Лідскага гарсавету ад БНФ "Адраджэньне".



У 1999 годзе падчас сумнавядомага расколу БНФ Уладзімір Хрышчановіч застаўся на пазіцыях Зянона Пазьняка і быў абраны старшынём Лідскай гарадской арганізацыі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ (з 2004 года Лідскай раённай арганізацыі), а таксама сябрам Сойму КХП БНФ.

Уладзімір Хрышчановіч быў ініцыятарам і рухальнай сілай многіх адраджэнцкіх праектаў на тэрыторыі г. Ліды і Лідскага р-на.

У. Хрышчановіч прымаў непасрэдны ўдзел ва ўстаноўцы крыжоў на магілах паўстанцаў 1863 года паміж вёскамі М. Ольжава і Мохавічы, крыжоў на магіле ксендза Адама Фалькоўскага ў Лідзе і на месцы бітвы лідскай шляхты з войскамі ваяводы Хаванскага ў Беліцы.

За адраджэнцкую дзейнасць неаднаразова прыцягваўся да адказнасці. За ўдзел ва ўстаноўцы крыжа на магіле ксендза Адама Фалькоўскага ў 1997 годзе У. Хрышчановіч (праваслаўны) быў прысуджаны да штрафу.

Займаўся краязнаўствам, збіраў краязнаўчыя матэрыялы, удзельнічаў у краязнаўчых мерапрыемствах, выступаў з артыкуламі ў друку. Ненадрукаваным застаўся яго матэрыял пра дзеячоў Беларускай незалежніцкай партыі Саковіча, Маракова, Ваўчка. Апекваўся магіламі беларускіх патрыётаў.



*Крыжы паміж Малым Ольжавым і Мохавічамі, якія ўстанаўліваў Уладзімір Хрышчановіч*

Працуючы на Лідскай дыстанцыі шляхоў зносін вёў пастаянную асветніцкую і прапагандысцкую дзейнасць сярод лідскіх чыгуначнікаў, распаўсюджваючы вялікі аб'ём адраджэнцкай літаратуры. Апошнія шэсць гадоў, пасля выхаду на пенсію, штотыднёва распаўсюджваў 35 нумароў газеты "Наша слова" і некалькі нумароў "Лідскага летапісца" (часопіс купляў за свой кошт).

Трымаўся на нагах да апошняга. Памёр, але з шыхту не выйшаў. Хай будзе суцяшэннем яму і нам, што памёр у незалежнай Беларусі, якую так моцна любіў.

Пахаваны ў Лідзе.

# КРОНІКА ЛІДЫ

Вясной 2011 г. завершаны рамонт і заселены палац графа Маўраса ў **Тарнове**.






1 ліпеня 2011 г. пачаў працу супермаркет **“Віталюр”.**

У пачатку ліпеня лідзянка **Карына Шыпіла** заняла другое месца на чэмпіянаце Еўропы па акадэмічнай грэблі (чацвёрка распашная) для спарцменаў да 18 гадоў.



7 ліпеня машыніст брыкетнага прэса торфабрыкетнага завода “Дзітва” **Алег Капцэвіч** і сталяр ААТ “Лідабудматэрыялы” **Валерый Бузмакоў** узнагароджаны медалямі “За працоўныя заслугі”.







7 - 8 ліпеня на чэмпіянаце Беларусі лідзянка **Наталля Карэйва** заваявала два залатыя медалі ў бегу на 800 і 1500 м.

13 ліпеня лідзянін **Валерый Млыннік** перамог у гульні "Што? Дзе? Калі?". Яго пытанне паставіла ў тупік інтэлектуалаў з каманды Алены Патанінай.



Пытанне нашага земляка гучала так:

*- Калі дырэктара Нацыянальнай галерэі ў Лондане Нікаласа Пені спыталі, якая карціна займае першае месца па папулярнасці ў наведвальнікаў галерэі, Пені адказаў: "Дакладна сказаць складана, але, хутчэй за ўсё, гэта карціна Палі Дэлароша "Пакаранне смерцю лэдзі Джэйн Грэй", мяркуючы па тым, што каля яе штогод…"*

Знатакам трэба было скончыць фразу. Капітан каманды Алена Патаніна, выказала здагадку, што гэта карціна выклікае ў наведвальнікаў выставы высокі напал пачуццяў, таму тут спыняецца вялікая колькасць заказаных, якія клянуцца ў вернасці і робяць прапановы адзін аднаму. Не ўсе гульцы падтрымалі гэту версію. Узяўшы дадатковую хвіліну, капітан тым не менш абараніла і агучыла сваю версію. У выніку каманда знатакоў страціла ачко і прайграла лідзяніну.

А правільны адказ да смешнага просты: *"…таму што каля гэтай карціны штогод мяняем паркет"*.

28 ліпеня **Наталля Корсак** з в. Дворышча Лідскага раёна ўзнагароджана ордэнам Маці





4 жніўня на ўездзе ў Ліду з боку Менска і Дзятлава (паміж Ёдкамі і Шайбакамі) асвечаны **паклонны Ефрасіннеўскі крыж**. Асвячэнне правёў мітрапаліт Філарэт.



14 жніўня асвечаны касцёл Святога пакутніка Юрыя ў **в. Беліца** Лідскага раёна. Асвячэнне правёў біскуп Аляксандр Кашкевіч.





1 верасня 2011 г. **новы хакейны клуб “Ліда”** заяўлены ў экстралігу чэмпіянату Беларусі па хакеі. Прафесійная каманда з прадстаўнікоў разнастайных клубаў чэмпіянатаў Беларусі, Расіі, Казахстана і Украіны была сфармавана за паўгода.



6 верасня лідзянка **Кацярына Пышко** выйграла конкурс польскай песні "Мальвы-2011".
Кацярына адразу выйграла рэспубліканскі адборачны этап, затым пасля тыднёвай стажыроўкі ў Польшчы выйграла і сам конурс. Упершыню за ўсю гісторыю фестываля беларуска аказалася лепшай у выкананні польскіх песень з ліку двух дзясяткаў удзельнікаў.
Дзякуючы заваяванню гран-пры конкурсу, дзяўчына зможа запісаць уласны альбом на адной з прафесійных польскіх музычных студыяў.



20 верасня ордэнам Маці ўзнагароджаны **Ніна Андрухавец** і **Ала Гумбер** з Ліды;
**Алена Лясковіч** і **Ірэна Навагародская** з СВК “Світанак-Мыто”;
**Марыя Юферава** з Ёдак.

# Лідскія юбіляры 2011 года

**ГАРДЗЕЙЧЫК Барыс Іванавіч**. Нарадзіўся ў 1901 г. у в. Вялікія Бярозаўцы Астрынскай воласці Лідскага павету. Член партыі бальшавікоў з траўня 1918 г. - партыйны білет № 1337. У 1920 г. вярнуўся з Петраграда ў родную вёску. У 1929 г. выехаў у Францыю, працаваў на вугальнай шахце "Фантан", уступіў у французскую кампартыю. Напачатку лютага 1932 г. ізноў вярнуўся ў родную вёску. Праз тры дні пасля вяртання быў арыштаваны, дапытаны ў Астрыне з катаваннямі, пасаджаны ў Лідскую турму. Восем месяцаў ішло следства. 28 кастрычніка Лідскі іншагародні аддзел Віленскага акруговага суда прысудзіў Гардзейчыка Б.І.за прыналежнасць да КПЗБ і рэвалюцыйную працу да 4 гадоў турэмнага зняволення. У 1936 г. узначаліў Астрынскі падпольны РК КПЗБ, вёў прапаганду сярод працоўных на вузкакалейцы Зубрава - Марцінконіс. 18 верасня 1939 г. у Астрыне пад яго кіраўніцтвам быў арганізаваны часовы рэвалюцыйны камітэт. Абраны старшынём валаснога камітэту, затым да 22 чэрвеня 1941 г. узначальваў Васілішкаўскі райпрамкамбінат.

5 траўня 1942 г. у лесе каля в. Карпанаўцы была праведзена акружная канферэнцыя, на якой прысутнічалі каля 100 прадстаўнікоў былых Васілішкаўскага, Скідзельскага і Шчучынскага раёнаў. Быў абраны членам акружнога камітэту, пазней намеснікам старшыні, са снежня 1942 па сакавік 1943 выконваў абавязкі старшыні. З верасня 1943 г. стаў камісарам партызанскага атрада імя Матросава, а затым камісарам партызанскай брыгады імя Ленінскага камсамолу - да 14 ліпеня 1944 г. Нам старшыні Васілішкаўскага райвыканкаму па будаўніцтве, старшыня Зэльвенскага райвыканкаму, начальнік палітаддзелу Поразаўскай МТС, старшыня калгасу. Узнагароджаны ордэнамі Леніна і "Знак Пашаны", медалямі. *(Плешавеня А. За народную справу.// Гродзенская праўда № 117 (10606) ад 19 чэрвеня 1984 г.)*

**УРБАНОВІЧ Уладзімір Аляксандравіч** нарадзіўся 2 жніўня 1921 года ў вёсцы Пудзіна Лідскага павету ў сялянскай сям'і . Вучыўся ў 3–яй Беларускай няпоўнай сярэдняй школе горада Ліды, затым скончыў Лідскую піднавучальню. Пасля працаваў настаўнікам пачатковых класаў ў Лідскім раёне.



З 1947 года па 1952 год вучыўся завочна ў Гарадзенскім педагагічным інстытуце. Пасля заканчэння працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Райцаўскай СШ Карэліцкага раёна.

З 1959 года - у Валеўскай СШ Наваградскага р-на. Доўгі час працаваў завучам школы, затым настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Быў адным з заснавальнікаў Валеўскага народнага краязнаўчага музея.

Напісаў і выдаў кнігі "Па дарагіх мясцінах" (1964 г.) і "Шляхамі паэтаў і герояў" (1970 г.). Друкаваўся ў часопісах "Народная асвета", "Полымя", а таксама ў газетах "Новае жыццё", "Настаўніцкая газета" і інш.

Узнагароджаны: значком "Выдатнік народнай асветы", граматай Міністэрства адукацыі БССР, уганараваны званнем "Старэйшы настаўнік". Удзельнік ВДНГ.

Памёр 2 лютага 1999 года. Пахаваны ў в. Валеўка. Занесены ў Кнігу Славы Наваградскага раёна.

**КАБЯК Сяргей Цярэшкавіч** (12.09.1931- 20.12.1985). Нарадзіўся на хутары Замошша Баранавіцкага раёна.
Працоўная дзейнасць:
1949-1950 гг. - навучэнец Клайпедскай мараходнай вучэльні.
1950-1951 гг. - інструктар Баранавіцкага абкаму ЛКСМБ.
1951-1953 гг. - курсант двухгадовай школы афіцэраў запасу пры 191 горнастралковым палку ў г. Сталінабадзе.
1953-1954 гг. - інструктар Баранавіцкага абкаму ЛКСМБ.
1-10.1954 г. - інструктар Гарадзенскага абкаму ЛКСМБ.
1954-1957 гг. - першы сакратар Скідзельскага райкаму ЛКСМБ. У 1955 г. стаў членам КПСС.
1957-1958 гг. - першы сакратар Лідскага гаркаму ЛКСМБ.
1958-1959 гг. - сакратар Гарадзенскага абкаму ЛКСМБ.
1959-1960 гг. - другі сакратар Гарадзенскага абкаму ЛКСМБ.
1960-1962 гг. - другі сакратар Астравецкага райкаму КПБ.
5-12.1962 г. - старшыня Астравецкага райвыканкаму.
1962-1965 гг - старшыня Слонімскага райвыканкаму. У 1963 г. скончыў завочную Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС.



*У цэнтры - Сяргей Цярэшкавіч Кабяк*

1965-1968 гг.- старшыня Дзятлаўскага райвыканкаму.

1968-1972 гг. - першы сакратар Лідскага гаркаму КПБ.

1972-1978 гг. - другі сакратар Гарадзенскага абкаму КПБ.

1978 - 13.10.1983 г. - старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму.

13.10.1983 -20.12.1985 г. - першы сакратар Віцебскага абкаму КПБ.

Дэпутат ВС БССР у 1967-71 і ў 1975-85 гг., член Прэзідыюма ВС БССР у 1978 г. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1971-76 гг., член ЦК КПБ з 1976 г.

Узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга (1971,1973), Кастрычніцкай рэвалюцыі (1976), "Дружбы народаў" (1981), медалямі "За працоўную доблесць" (1958), "За доблесную працу ў адзначэнне 100-годдзя з дня нараджэння У.І. Леніна"(1970), "За ахову дзяржаўнай мяжы СССР" (1977), "60 гадоў Узброеных Сіл СССР" (1978), Ганаровай граматай ВС БССР (1966,1968).



27 верасня споўнілася 50 гадоў з дня нараджэння **АНАЦКІ Лявона Яўгенавіча**, старшыні Лідскай арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", якая выконвае функцыі раённай арганізацыі і налічвае каля 300 чалавек.

Лявон Анацка прыняў кіраўніцтва лідскім ТБМ у канцы 90-х, структарызаваў арганізацыю. У дадатак да зарэгістраванай Лідскай гарадской арганізацыі сумеў зарэгістраваць Лідскую арганізацыю, Бердаўскую і Ёдкаўскую суполкі. Такім чынам на Лідчыне стала чатыры зарэгістраваныя структуры ТБМ.

Лявон Анацка вядзе актыўную ТБМ-аўскую працу ў Лідзе і раёне па беларусізацыі штодзённага жыцця Лідчыны, дабіваецца адкрыцця беларускіх класаў, патрабуе ад розных органаў улады весці перапіску пабеларуску. Дзякуючы такім, як Л. Анацка, закон абавязаў чыноўнікаў адказваць на лісты грамадзян на мове звароту.

Лявон Анацка супрацоўнічае з рознымі грамадскімі арганізацыямі і структурамі, найбольш актыўна супрацоўнічае з сяброўскай для ТБМ арганізацыяй - Таварыствам беларускай школы, уваходзіць у кіраўніцтва гэтай арганізацыі.



У ліпені споўнілася 50 гадоў ансамблю песні і танца раённага Палаца культуры **"Лідчанка"**.

# Браніслаў Ямант - носьбіт традыцый Віленскай школы

## *(125 гадоў з дня народзінаў)*

*Культурная атмасфера Вільні - інтэлектуальнай сталіцы краю - фармавалася на працягу стагоддзяў з living разнабаковай дзейнасці шматлікіх выдатных людзей свайго часу, сярод якіх быў і мастак Браніслаў Ямант.*

*Жыццёвы шлях Б. Яманта стаў тыповым для таленавітага маладога чалавека, які нарадзіўся на зямлі Беларусі і вымушаны быў рэалізоўваць свой творчы патэнцыял далёка ад радзімы.*

***М.А. Загідуліна.***

Браніслаў Ямант (5.08.1886 - 4.02.1957), звязаны ў астатнія гады свайго жыцця з Торунем, быў адной з галоўных постацяў Віленскага мастацкага асяродка ў міжваенным дваццацігоддзі. Асяродак віленскіх мастакоў, якія групаваліся ў тым акрэсе галоўным чынам вакол Факультэта прыгожых матацтваў універсітэта Стэфана Баторыя, скансалідаваў дадаткова паўсталае ў 1920 г. Віленсае таварыства мастакоўпластыкаў, на чале якога стаяў Людамір Сляндзінскі.



***Браніслаў Ямант у маладосці***




***Кніга Яна Катлоўскага да 50-годдзя смерці Браніслава Яманта***

Ямант быў сябрам - заснавальнікам ВТМП, у кіраўніцтве таварыства заставаўся да канца яго існавання, а ад 1920 года браў удзел амаль што ва ўсіх яго выставах, выяўляючы пры гэтым вялікую самадзейнасць у мастацкім пошуку. У кульмінацыйны перыяд сваёй творчасці, у трыццатыя гады XX стагоддзя Ямант дасягнуў многіх поспехаў; яму пасля смерці Фердынанда Рушчыца ў 1936 годзе перайшло кіраўніцтва кафедрай пейзажнага жывапісу Факультэта прыгожых мастацтваў Віленскага ўніверсітэта.

Браніслаў Ямант – мастак, з якім час абышоўся па-рознаму: ласкава і не вельмі. Ён не з'яўляецца невядомай постаццю ў польскім мастацкім жыцці – заслужыў сабе памяць як шматгадовы педагог віленскай, а потым торуньскай навучальных устаноў. Але беларусам яшчэ адкрываць і адкрываць Браніслава Яманта – мастака і чалавека. Гэта Ямант разам з Ежым Гапэнам і Стэфанам Нарэмбскім перанёс ажно ў пяцідзесятыя гады жывыя традыцыі сістэмы навучання, а крыху і сістэмы каштоўнасцяў, укладваныя ў студэнтаў прафесарамі з кола Віленскай школы. Працуючы інтэнсіўна і сістэматычна ў віленскай, а пазней у торуньскай майстэрнях, як і ў час шматлікіх падарожжаў, стварыў сотні карцін і малюнкаў, а ў канцавы перыяд таксама і гравюр. Творчасць Яманта будзіла зацікаўленне – і спазнанне – тагачасных мастацкіх крытыкаў, якія прызнавалі яго аднагалосна за аднаго з найвыбітнейшых і адначасова аднаго з найбольш арыгінальных прадстаўнікоў так званай Віленскай школы; выставы, арганізаваныя пасля вайны, умацавалі яго пазіцыі жывапісца (апошнія найбуйнейшыя выставы адбыліся ўжо пасля смерці мастака у 1957 і 1986 гадах у Акруговым музеі ў Торуні). Знаёмства і зацікаўленасць яго мастацтвам не выклікала аднак да пэўнага часу пачатку больш грунтоўнага яго выву-

чэння.

Існуе патрэба ў запаўненні гэтага прабелу ў карціне мастацкіх з'яваў міжваеннага перыяду, тым больш, што творчасць Яманта з сённяшняга пункту гледжання ёсць вельмі цікавая, дзякуючы адкрыццю многіх характэрных рысаў для плыні арганізаваных даследаванняў мастацтва трыццатых гадоў. Плыні, як да гэтай пары найменей даследаванага ў польскай гісторыі, мастацтва, у адрозненне, напрыклад ад польскага авангарду таго часу.

Нешматлікія і часцей выпадковыя выставы, на якіх экспанаваліся фрагменты даробку мастака, арганізаваныя ў апошні час (да сёння не дачакалася рэалізацыі зборная выстава, якая раней планавалася Нацыянальным музеем у Варшаве) з-за сваіх фрагментарнасцяў і выпадковасцяў не маглі аддаць належнага карціне яго творчасці, а часцей яе толькі замазвалі. Пазнанне творчасці Яманта і яе аналіз значна абцяжараны як раскідаласцю працаў, так і адсутнасцю комплекснага, абапёртага на навуковы грунт каталогу яго прац. Гэта ўсё вядзе да таго, што як мастацтва, так і постаць гэтага, шанаванага пры жыцці, мастака-лаўрэата многіх узнагарод айчынных і замежных – з кожным годам становяцца ўсё менш вядомымі сучаснаму аматару.

Ужо ў 1957 годзе Ежы Рэмер, пішучы пра творчасць Яманта з аказіі гэтай пасмертнай выставы, заўважыў: *"... кожнае выказванне павінна абапірацца на дакументацыю. Цяжка было б аднак на гэтым месцы правесці глыбокі аналіз аўры мастака, які заслугоўвае манаграфічнай апрацоўкі з выкарыстаннем поўнага мастацка-навуковага апарату".*

І далей:

*"... маем надзею, што сабраныя на выставе працы спрычыняцца да рэалізацыі такога прадпрыемства, дзякуючы альбомам эскізаў, якія адкрываюць нам, як "таямнічасць" яго мастацкага прызвання, так і мастацкага рамяства, творчасць Яманта становіцца для нас яшчэ бліжэйшай, яшчэ больш зразумелай і яшчэ больш людскай".*[1]

Тым не менш, да гэтага часу такая праца не з'явілася – нягледзячы на прынятыя меры самім мастаком, які перdesignedказаў Нацыянальнаму музею ў Варшаве амаль усю сваю мастацкую спадчыну – у тым ліку 48 альбомаў з эскізамі. Сённяшні артыкул мае заданне паказаць (коратка) стан даследванняў мастацкай творчасці Яманта, а таксама знаёмства са зборам прац гэтага мастака (графіка, малюнкі), якія знаходзяцца ва ўніверсітэцкай бібліятэцы ў Торуні. Аднак перш, чым перайсці да гэтага, належала б для асвяжэння памяці прысвяціць некалькі слоў самому мастаку. Як пісала Ірэна Калашынская *".. быў ён абдораны якасцямі задумаў і характарам, якія аб'ядноўвалі сімпатыі да яго і прызнанне сярод моладзі".*[2] Згаданая аўтарка так акрэслівае асобу мастака: *"Самотны. Замкнёны ў сабе, меў характар нелюдзімы, толькі ў кампаніі выпрабаваных сяброў станавіўся дабрадушным, дасціпным, сардэчным. Пры блізкім знаёмстве з Ямантам можна было спаўна ацаніць яго інтэлегентнасць і вялікую асабістую культуру. Без астатку заняты і прaняты сваім мастацтвам ён з запалам і не шкадуючы часу пасвячаў сябе працы педагагічнай. Яго адносіны да моладзі былі сардэчныя. Ён застаецца жывым у словах адной са слухачак факультэту: "Цешуся, што спазнала, які ён быў добры і адданы вучням".*[3]

Браніслаў Ямант нарадзіўся 5 жніўня 1886 года ў вёсцы Дакудава пад Лідай на Віленшчыне. У 1907 годзе скончыў класічную гімназію ў Вільні – адначасова наведваў Віленскую школу малюнка, якою кіравалі акадэмікі Трутнеў і Рыбакоў. Наступныя два гады пасля гімназіі вучыў права ў Пецярбургу не парываючы аднак з удасканаленнем сваіх мастацкіх здольнасцяў, наведваў вячэрнія заняткі па малюнку пры Акадэміі прыгожых мастацтваў. У 1909 годзе пад час свайго першага падарожжа ў Кракаў і Закапанэ Ямант сутыкнуўся з



**Помнік на магіле бацькі і брата Б. Яманта (Казіміра і Ўладзіслава Ямантаў) на старых Лідскіх каталіцкіх могілках**

творчасцю Яна Станіслаўскага і яго “школай”. Нарэшце праз год кінуў вучобу на факультэце права і вярнуўся ў Вільню. Матэрыяльная сітуацыя прымусіла яго шукаць заробку як настаўніка малюнка ў падвіленскіх дварах. Не занядбаў аднак і ўласнай мастацкай працы. У 1915 годзе першы раз выставіў свае працы ў Вільні.

Першая Сусветная вайна пагнала мастака ў колькігадовае бадзянне: пазней, у 1916-1919 гадах працаваў выкладчыкам малюнка ў віленскіх гімназіях і вывучаў жывапіс на розных курсах. Прызванне педагога, здаецца цалкам яму адпавядала і прынамсі ў пэўнай ступені развівала яго творчасць. Кінуў аднак гэтую працу і прысвяціў сябе выключна жывапісу. Да такога рашэння, безумоўна, спрычыніўся першы значны поспех мастака, які Ямант займеў у 1919 годзе падчас выставы ў варшаўскай Захэнці (купілі тады дзве яго працы). Што раз больш маляваў, а працы яго выстаўляліся не толькі на віленскіх выставах, а здабывалі адзнакі і ўзнагароды і на паказах агульнапольскіх. У 1924 годзе за карціну “Пейзаж з каскадам” ён быў узнагароджаны вялікім залатым медалём, а праз чатыры гады ў Захэнці атрымаў найвышэйшую адзнаку.



***Вільня. Факультэт прыгожых мастацтваў універсітэта Стэфана Баторыя ў пабернардынскіх мурах.*** *Паводле фота Я. Булгака.*

Творчасць Яманта, якая дынамічна развівалася, здабывала што раз большае прызнанне ў Польшчы і па-за яе межамі – як у Еўропе, так і ў Амерыцы. Ад 1930 года Ямант выстаўляўся ў Інстытуце прапаганды мастацтва IPS а за мяжой на выставах Таварыства пашырэння польскага мастацтва на чужыне (TOSSPO). Яго карціны прэзентаваліся на выставах у Парыжы, Бруселі, (1928-1929), Гаазе, Амстардаме (1929), Бухарэсце (1930), Капенгагене (1930-1931), Гданьску (1930), Маскве (1933). Рызе (1934), Берліне і Манака (1935). Прымаў таксама ўдзел у прэзентацыі польскага мастацтва па міжнародных выставах жывапісу, арганізаваных Інстытутам Карнегі ў ЗША (Пітсбург – 1931-1932, 1934, 1937-1938: Сант-Луіс – 1932, Балцімор – 1932, 1935, Сан-Францыска – 1934.)

У трыццатыя гады Ямант дасягнуў поўнай мастацкай сталасці. Былі гэта гады поўнай аддачы творчай працы і найбольшых дасягненняў і поспехаў мастака. Сенат універсітэта Стэфана Баторыя прызначаў яму два разы грашовую ўзнагароду з фонду імя Маршала Пілсудскага за карціны *“Касцёл Францішкан-*



***Вільня. Інтэр’ер дэканату Факультэта прыгожых мастацтваў універсітэта Стэфана Баторыя .*** *Паводле фота Гапэна.*



***Факультэт прыгожых мастацтваў універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні, галоўны корпус пры вуліцы Сянкевіча.*** *Фота 1995 г.*

мастака-жывапісца. Своечасова, бо ўжо ў 1931 годзе стаў старшым асістэнтам на Кафедры пейзажнага жывапісу ў прафесара Фердынанда Рушчыца. У сувязі з хваробай прафесара Ямант ужо з акадэмічнага года 1932-1933 фактычна кіраваў кафедрай, фармальна заняў яе пасля смерці Рушчыца ў 1936 г., у наступным годзе атрымаў званне і пасаду надзвычайнага прафесара пейзажнага жывапісу: на гэтай пасадзе заставаўся да моманту закрыцця ўніверсітэта 15.XII.1939 г. У час акупацыі – хоць у надзвычайных умовах – стараўся працягваць працу мастацкую і педагагічную. Браў удзел у таемных паседжаннях сяброў былой рады Факультэта прыгожых мастацтваў універсітэта Стэфана Баторыя.

*цаў у Вільні"* (1933) і *"Царква ў Драгабучы"* (1934), таксама падчас 32 Міжнароднай выставы жывапісу ў Пітсбургу Інстытут Карнегі купіў яго *"Старыя дамы ў Вільні"*[4]. Матэрыяльныя варункі Яманта значна папраўіліся, дзякуючы чаму ён мог зрэалізаваць даўнюю мару аб выездзе за мяжу. У 1928 годзе Б. Ямант здзейсніў падарожжа ў Парыж і Брусель, а праз два гады з'ездзіў у Італію, дзе наведаў галоўным чынам Рым і Фларэнцыю. У 1928 годзе Ямант зноў пайшоў вучыцца жывапісу на Факультэт прыгожых мастацтваў універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні, дзе займаўся з перапынкамі да 1934 года, і дзе пасля здачы працы з вынікам вельмі добрым атрымаў ступень дыпламаванага

Пасля 2-й Сусветнай вайны Браніслаў Ямант асеў у Торуні. Тут ён актыўна ўключыўся ў адбудову мастацкага жыцця і творчасці ад асноў мастацкага школьніцтва на базе ўніверсітэта, найперш арганізаваў Секцыю прыгожых мастацтваў пры Гуманітарным факультэце ўніверсітэта Мікалая Каперніка і ад 23.VIII.



***Ямант і Несілоўскі***



***Магіла Браніслава Яманта ў Торуні***




***Афіша пасмяротнай выставы Браніслава Яманта ў Toруньскім музеі-ратушы.***




***Мемарыяльная дошка Браніслава Ямантa ў Торуні.***

1945 г. быў прадэканам. Калі ў студзені 1946 г. секцыя ператварылася ў Факультэт прыгожых мастацтваў, Ямант стаў яго першым дэканам. У жніўні таго самага года ён стаў звычайным прафесарам пейзажу і нежывой прыроды, праз сем гадоў атрымаў званне доктара мастацтвазнаўства.

У перыяд пасля 2-й Сусветнай вайны, цесна звязаны з Торунем і яго мастацкім жыццём, жывапісец удзельнічаў у лакальных выставах у Торуні, акруговых выставах Саюза польскіх мастакоў-пластыкаў (ZPAP) у Быдгашчы, у агульнапольскіх выставах і спецыяльных экспазіцыях, як напрыклад, выстава торуньскіх пластыкаў у рамках Года Капэрніка (Торунь-Быдгашч, 1953 і інш.), акрамя таго меў пяць індывідуальных выстаў – у Торуні ў 1947, 1950, 1955, 1957 гг., а таксама ў Быдгашчы ў 1948 г. Памёр Б. Ямант пасля цяжкай хваробы сэрца 4 лютага 1957 года. Праз месяц пасля смерці Ямантa Стэфан Нарэмбскі – блізкі сябар мастака – пісаў: *"Адышоў выбітны мастак. З уласным аблічам, якога ведалі і цанілі, які дар свайго таленту прысвяціў бацькоўскай зямлі і падаў у сваёй мастацкай інтэрпрэтацыі сканцэнтаваную праўду жыцця."*[5]

Як ужо згадвалася ва ўступе, творчасць Браніслава Ямантa не дачакалася грунтоўнай апрацоўкі. Крытычным даробак, прысвечаны мастацтву Ямантa, апрача артыкулаў, змешчаных у Слоўніку польскіх дзеячоў мастацтваў (т. 3) і Польскім біяграфічным слоўніку (т. 10), абмяжоўваецца толькі – што праўда досыць шматлікімі – артыкуламі ў газетах і некалькімі ўступамі да каталогаў яго выставаў. Характар тых прац, роўна як і многія абмежаванні ў вобласці, паднятай у іх праблематыкі, ёсць выразна залежныя ад перыяду, у які тыя публікацыі ствараліся. Мастацтвам Б. Ямантa цікавіліся галоўным чынам ў 30-я гады, а менавіта ў той час, да якога адносяцца найбольшыя поспехі, і калі яно было з'явай мастацка жывой. З таго часу паходзіць большасць артыкулаў, раскіданых па часопісах – гэта перш за ўсё рэцэнзіі з выстаў, якія менш ці больш бегла гавораць пра мастацтва Ямантa, найчасцей у кантэксце прац іншых віленскіх мастакоў – сяброў ВТМП (WTAP). З часам з'яўляюцца артыкулы, прысвечаныя асобе Ямантa. Падобны характар маюць працы, якія ўзніклі пасля вайны. Найбольш іх з'явілася пасля смерці мастака ў 1957 годзе.[6] Некаторыя з тых апошніх публікацый, хоць і ў папулісцкім стылі, рабілі спробы сінтазу завершанай ужо творчасці Ямантa. Але і яны падымалі толькі некаторыя яе праблемы, якія вымагаюць далейшых грунтоўных даследванняў. Узровень тых тэкстаў вельмі няроўны, яны датычацца адрывачных фактаў. У тых публікацыях з'явіліся наогул аднастайныя ў сваіх сцвярджэннях ацэнкі, якія падкрэслівалі вялікую мастацкую індывідуальнасць Ямантa і індывідуальнасць развіцця яго шляху. Выключна моцна акцэнтуе гэта Стэфан Нарэмбскі, супрацоўнік Ямантa па ўнівесітэту Стэфана Баторыя ў Вільні, а потым па ўніверсітэту Мікалая Каперніка ў Торуню: *"ні адна акрэсленая школа і ні адзін аўтарытэт не аказалі перамножнага ўплыву на характар творчасці Ямантa..."*[7]

У часы творнага развіцця Ямантa кожныя не-



***Вугал вуліцы Шварц і Вакзальных завулкаў. Каля 1907 г.***

калькі гадоў з'яўляліся новыя мастацкія кірункі, бурыліся непарушныя, здавалася б, крытэрыі і эстэтычныя каноны. Мастак заставўся аднак досыць далёка ад авангарных плыняў, быў традыцыяналістам як у сродках выражэння, так і ў тэхніцы і нават у падборы прадстаўляных матываў. Вобраз той прыняў свядома.

Індывідуальнасць творчага шляху Яманта і ўласцівасці яго мастацтва вынікалі з двух асноўных прычын: з пэўнай герметычнасці ў сутыкненні з найвыбітнейшымі індывідуальнасцямі і з факту, што яго мастацкая школа мела характар несістэматычны. Ямант ніколі не быў выхаванцам адпаведнай школы ў пэўным значэнні гэтага слова – калі ў 1928 годзе ён зноў пайшоў вучыцца маляванню на Факультэце прыгожых мастацтваў універсітэта Стэфана Баторыя, меў ужо не толькі сфармаваную мастацкую індывідуальнасць, але практычна быў ужо шанаваным і прызнаным мастаком. Найлепей сведчыць пра гэта той факт, што ўжо будучы асістэнтам Рушчыца, ён фармальна не закончыў яшчэ ўніверсітэта, а дыплом мастака атрымаў праз амаль двухгадовы адрэзак часу, у які з поспехам выстаўляў свае творы па розных выставах, маючы значны поспех. Таксама прыналежнасць Яманта да Віленскага таварыства мастакоў-пластыкаў мела адрывачны характар. Мастак выразна адходзіў ад тэарэтычна-праграмных установак ВТМП, далёкі быў ад яго "класіцызму", які падкрэсліваў лінію і змест, і які абапіраўся на італьянскую школу ранняга рэнесансу. *"Культ мастацтва Поўдня і італьянскі квадрацэнтрызм"* – ідэал лідара віленскай школы Л. Сляндзінскага – абсалютна не знайходзілі адлюстравання ў творчасці амаль абсалютнага пейзажыста.

У гэтым месцы трэба звярнуць увагу на неадназначнасць тэрміну *"віленскі асяродак"* – ён хутчэй прыдуманы, чым наогул прыймальны. *"Віленскі асяродак"*, ці *"віленская школа"* атаясаміваюцца звыкла з эстэтычнай арыентацыяйй прэзентаванай Сляндзінскім, называлася *"новым класіцызмам"*, ці – як хочуць некаторыя – *"новым рэалізмам"*. Трэба аднак памятаць, што ў той самы час і на тым самым абшары геаграфічным і культурным існавала другая плынь мастацтва, духоўным праваднікам якога быў Фердынанд Рушчыц. Малярства Браніслава Яманта, улюбёнага ў маляўнічыя завулкі старых гарадоў і рамантычныя пейзажы з магутнымі разложыстымі дрэвамі і вялікімі пакручастымі аблокамі – належыць якраз да гэтай плыні і ёсць яе найлепшым прыкладам.

Напэўна на мастацкую асобу, Ямманта мусіла нейкім чынам уплываць такая вялікая індывідуальнасць, якой быў Рушчыц. Пацвярджае гэта Ядвіга Пуцята – Паўлоўская, якая піша: "*Рушчыц, незвычайны чалавек і мастак, бясспрэчным гіпнозам свайго магутнага мастацкага ўяўлення і дынамізмам колеру аказаў уплыў на станаўленне таленту Яманта."* Той уплыў Рушчыца найлепей відаць у некаторых пейзажах Яманта. А асабліва ў частках неба, дзе падабенства паказу хмар найвялікшае. Але гэтая несумненная зрэшты аналогія ці крэўнасць у творчасці абодвух мастакоў знаходзіцца як бы ў сферы духоўнай. Належала б яе разгледзець у кантэксце іх супольных зацікаўленняў пейзажам Вільні і Віленшчыны і ўласна таго, так часта падкрэсленага самім Рушчыцам, *"генію ўздыму і мастацкага ўвабрання таго духу на фоне віленскай прыроды"*. Ямант акрамя поўнай герметычнасці і сканцэнтраванасці яго мастацтва, быў аднак нейкім чынам спадкаемцам і працягвальнікам рушчыцаўскай мастацкай праявы.

Мастацтва Яманта, такое маналітнае і аднароднае ў агульным пластычным выражэнні, не замерла аднак у творчым развіцці. Акрамя вернасці, якую мастак захаваў у стасунку да выбранай мастацкай канцэпцыі, выразна відзён шлях развіцця яго творчасці, а чарговыя яе этапы былі вынікам сучасных яму з'яваў, што адбываліся ў мастацтве. Генеральна – значна спрашчаючы праблему – можна сказаць, што шлях той ішоў ад лінеярызму да жывапісу.[10]

Першыя працы мастака, маляваныя галоўным чынам пастэльнай крэйдай, у якіх яшчэ адчуваецца сэцэсійная лінеярнасць, выдаюць фашынацыю творчасці Выспянскага. Адбіваецца ў іх таксама рэха мастацтва Чурлёніса, літоўскага мастака, які працаваў у Вільні, а вучыўся ў Кракаве. Некалькі пазней, але яшчэ ў ранні перыяд Ямант свядома навязваў прынцыпы канструкцыі фармістычнага вобразу, дзе над фарбай звычайна дамінавала сутнасць, як вырашальны чыннік у канструкцыі малюнка і яго дынаміцы. У некаторых працах манерычная, дэкарацыйная стылізацыя матываў прыводзіць на памяць творчасць Зофіі Стрыенскай (стылізацыі і пэўнага фармізавання, зрэшты, не




***Старая цэркаўка***



***Хата***



***Вуліца***



***Дом***

пазбавіўся Ямант да канца ніколі). З фармізму ўзяў мастак толькі элементы, блізкія сваёй псіхіцы, якая цаніла лад і пэўную гармонію.

У наступны перыяд можна заўважыць выразны паварот да натуры - менавіта тады мастак стварае такія характэрныя для яго творчасці кампанаваныя пейзажы. *"У гэты час узнікаюць цікавыя пейзажныя кампазіцыі, у якіх рэалізм стасуецца з абстрацыяй, ствараючы эфекты моцныя і поўныя настрою"*.[11] Гэтыя працы сведчаць пра апрабацыю мастака для барацьбы, паднятай кубізмам за рэстытуцыю формы, пры гэтым тое дбанне пра форму у малярстве Яманта ёсць хутчэй вынікам прыналежнасці да віленскага асяродку, якому нават найбольш патрабавальныя крытыкі не былі ў стане закінуць адсутнасці добрага майстэрскага авалодання. Фелікс Любяжынскі ў 1924 г. з нагоды віленскай Выставы мастацтваў і рамёслаў пісаў у т.л.: *"Няма тут ні кубістаў, ні футурыстаў, ані нават рашучага імпрэсіяніста, хоць бы ў форме нагляднай і вельмі змягчанай узятых пад увагу"*.[12]

Спелыя працы мастака характарызуюцца ўсё больш жывапіснай, мяккай трактоўкай цела і прытлумленым каларытам, а адначасова сілай выразу як сутнасцю дынамізму кампазіцыі. Ямант сумяшчае вострыя кантрасты якасныя і светаценевыя наследванні па даўнім галандскім малярстве, а канкрэтна па пейзажах Руйсдаэля.

Некаторыя крытыкі знайходзяць у пейзажах Яманта пэўнае падабенства з англійскім жывапісам, асабліва ў паказе неба, моцнага настроем на навальніцу і таямнічасцю. Не абыйшлося напэўна і без уплыву пейзажаў моднага і паўсюль шанаванага пейзажыста Станіслаўскага, які, як заўважае І. Пуцята-Паўлоўская: *"адкідвае ў сваіх творах усе лішнія тэматычныя дадаткі, адкрывае лятучасць аблокаў, разлітых над прастатой звычайных штодзённых вясновых хатаў"*.[13] Пэўны рысы звязваюць Яманта з галандскімі пейзажастамі 17-га стагоддзя: з іхнімі творамі Ямант пазнаёміўся ў час знаходжання ў Пецярбургу, дзякуючы тамтэйшым багатым зборам еўрапейскага жывапісу. Акрамя галандцаў цікавілі яго таксама барбізонцы, а таксама расейскія пейзажысты 19-га стагоддзя І.І. Левітан і І.І. Шышкін.

Ямант цаніў і ведаў стары жывапіс, успрымаў і асіміляваў яго вартасці, неаднакратна выкарыстоўваў яго здабыткі ва ўласных мастацкіх пачынаннях. Аднак гэта не было паслядоўніцтвам, а хутчэй спантанным прыняццем спадчыны, далучэнне да пэўнай генетычнай лініі мастацтва, намнога старэйшай, чым Рустадэль, Канстабль ці Карат. Ямант меў уласны мастацкі твар,

ствараў мастацтва новае з выбітнымі асаблівымі пластычнымі якасцямі. Стэфан Нарэмбскі тлумачыць гэта так: *“Творчасць Яманта вырасла з шырокага дыяпазону самадзейна ўспрынятых і перажытых уражанняў і роздумаў.* (І далей:) *...ён ішоў уласнай дарогай. Працаваў моцна падпёрты верай у непрамінальныя вартасці, якія ўспрыняў і перажыў з мастацкім даробкам чалавецтва з розных эпох і перыядаў”.*[14]

Гэтыя словы мусіць найлепей акрэсліваюць постаць мастака, з аднаго боку заўсёды ахвотнага да спаткання з творамі даўніх майстроў, а з другога – заўсёды галоднага да што раз новых аспектаў натуры. Ямант, як відаць, уласна на перасячэнні тых дзвюх тэрыторый эксплярацыі адкрыў для сябе пачатковыя прынцыпы станаўлення пластычнай справы.

Але, не гледзячы ні на што, найбольшым узбуджальнікам і мастацкім стымулам быў усё такі кантакт мастака з прыродай. Таксама і ў той перыяд, калі Ямант, знаходзячыся на вёсцы, меў аказію больш блізкіх стасункаў з прыродаю ці *“прыроднай прыгажосцю Віленшчыны і свядомага інтэнсіўнага пераварвання мастацкіх ведаў і атачаўшых яго самых разнастайных вобразаў падвіленскай вёскі”*[15], як і пазней, у часе шматлікіх ваяжаў і выцечак на пленэры за горад – мастак не расставаўся з нататнікам і алоўкам. Пра гэта найлепей сведчыць велізарная лічба захаваных яго накідаў і малюнкаў.

Пленэрныя ўрокі займалі ганаровае мейсца ў мастацкай дзейнасці Яманта. У 1909 г., маючы 23 гады, ён першы раз выехаў у Кракаў і Закананэ, каб маляваць разам з С. Падгорскім, А. Нойманам, В. Леангардам – вучнямі Станіслаўскага. У 1910 – 1939 гг. выязджаў яшчэ на пленэры ў Закананэ, Кракаў, Казімеж, Люблін, Гародню, Львоў, на Балтыку – не лічачы кароткіх але частых выпадаў у ваколіцы Вільні.

Ямант, якому першы творчы імпульс давала натура, маляваў амаль выключна пейзажы. Яго адносіны да натуры мабыць найлепей акрэсліў Ежы Гапэн: *“Натуру Ямант адчуваў душой рамантыка з драматычным запалам: замілаваны сівымі мурамі старагарадскімі, пакрытымі адвечнай плесенню і нахіленымі пад цяжарам гадоў, любіць пагнутыя віхурай, разадраныя перунамі, загубленыя дрэвы, паказвае завулкі старой Вільні і тыя рэшткі даўніх бароў найахвотней у моманце, калі святло якое прадзіраецца праз цяжка навіслыя хмары, надае ім дзіўныя, грозныя, нязвыклыя колеры. ”*[16]

Вывучэнне прыроды аднак не азначала ніколі для Яманта залежнасці. Ён здаваў сабе справу з межаў залежнасці ад яе, а ролю карэкцыйнага чынніка выконвалі, як ужо тут было згадана, скарбы старажытнага музейнага мастацтва. Творы Яманта, не гледзячы на поўны рэалізм, ніколі не былі апісаннем бачанага свету, імітацыяй натуры, а кампазіцыямі, якія *“служаць мастаку для перадачы пэўнага пачуццёвага настрою. Ямантаўскія дрэвы перанасычаны часта рамантычна-трагічным выразам”*[17], - як заўважыла цытавання ўжо тут І. Пуцята-Паўлоўская.

Ямант – рамантык! Гэтае заключэнне насоўваецца, калі мы глядзім на творы мастака, з якіх выпраменьваецца нейкі спецыфічны, няўлоўны настрой вялікай сілы ўздзеяння. У эмацыянальнай сферы хаваецца таксама прычына папулярнасці мастацтва Яманта, які пластычнымі сродкамі выражаў прыгажосць і таямнічасць краявобразу. Глядач становіцца ў апісанай сітуацыі саўдзельнікам перажыванняў мастака.




***Пейзаж з дрэвамі***



***Дрэвы на сонцы***

Работы Яманта, як гаварылася раней, не ёсць фатаграфіямі прыроды. Яго мастацкая тэхніка і метад працы над вобразам іншыя. Незлічоныя эскізы, праўкі і накіды, зробленыя з натуры, у якіх мастак хапае мімалётныя ўражанні або – наадварот – унікліва вывучае выбраны аб’ект, ператвараюцца потым у майстэрні ў атмасферы цішыні і засяроджання, метадам элімінацыі і кампазіцыі элементаў у арыгінальны твор.

У жывапісе Ямант спалучае як стылізацыю, так і частковую дэфармацыю рэальных аб’ектаў. Хаця першай крыніцай, з якой ён ахвотна чэрпаў, была для яго заўсёды натура, сума ведаў, здабытых у самадзейнай працы, накіроўвала цяпер да спробаў нейкіх спрашчэнняў, да шукання сінтэтычнай формы. Метадам працы над малюнкам, які выкарыстоўваўся Ямантам, было адмаўленне метаду імпрэсіяналістычнага. У так апрацаваных работах, задуманых і даведзеных да канца паводле намераў аўтара, няма ўжо выпадковасці. Натура была ў іх падпарадкаваная.

Ежы Рэмер цяпер у разважаннях над завершанай

ужо працай Яманта звярнуў увагу на існаванне амаль невядомага боку яго мастацкай дзейнасці, вельмі істотнага ў непасрэднай красамоўнасці малюнкаў і эскізаў, якія акрэсліваюць род яго чуллівасці, адкрываюць спосабы рэагавання на візуальнае нешта[18]. Ямант, якога ацэньваюць наогул у катэгорыях чыста жывапісных, быў у роўнай меры знакамітым рысавальшчыкам. Ведаў вагу лініі і ўсякія яе ньюансы, умеў яе ўжываць для атрымання задуманых эфектаў. Здаецца, што аналіз рысункаў Яманта дазволіць лепш ахарактарызаваць постаць мастака – можа стаць ключом да зразумення яго мастацтва, а прынамсі можа адсланіць трохі заслону і тэхнічных таямніц. Рысунак, паводле Ежы Сянкевіча – *"гэта як бы тканка думкі пластыка, пераказ яго пошукаў і намераў, больш або менш усвядомленых, ці таксама нават інтуіцыйных. Прачытаны – адсланяе шматкроць мацней і хутчэй непасрэдна індывідуальнасць творцы, чым гэта робяць працы, зашпіленыя на ўсе гузікі замовы, накінутага дыктату прызначэння і звязанага з ім заканчэння"*[19].

Крытыкі адрозніваюць некалькі родаў рысункаў: канструкцыйныя эскізы да будучай кампазіцыі, рысункі дзённікавыя і нарэшце – рысункі якія з'яўляюцца апошняй сфармуляванай формай мастацкага выказвання. Рысункі Яманта, якія знаходзяцца ў зборах універсітэцкай бібліятэкі ў Торуні (а таксама інш.)[20] цяжка было б прызнаць за мастацкую цэльнасць, бы яны не "заарынжаваны" для самастойнага аглядання. Яны з'яўляюцца хутчэй безпрэтэнзійнымі нататкамі з мастацкай майстэрні. Рысунак займаў у творчасці Яманта пазіцыі апорную і службовую ў адрозненне ад жывапісу і нават графікі. Бываў канцэпцыйным эскізам да жывапіснай кампазіцыі, больш або менш закончанай пейзажнай нататкай з пленэру, падрыхтоўкай да больш поўнай рэалізацыі ў іншай тэхніцы. Яго поўная мастац-



***Фантастычны пейзаж***



***Вятрак.***




***Старое дрэва***

кая вартасць відна цяпер у кантэксце жывапісных работ.

Тэматыка рысункаў Яманта тая самая, што і на карцінах. Ёсць тут перш за ўсё эскізы, якія паказваюць багацце форм і абрысаў, існых у прыродзе, пейзажы з матывамі старых, разложыстых – найчасцей самотных і напалову ўжо памерлых дрэў, толькі з часткай лістоты і з тырчашчымі высахлымі галінамі, якія нібы кульці страляюць у вялікая прасторнае неба, пакрытае кучаравымі хмарамі. Ямант, дасканалы назіральнік, дзякуючы значнай тэхнічнай бегласці патрафіў перадаць у сваіх краявобразных уроках дынамічны характар пейзажу. Краявобразы тыя, найчасцей як бы вымерлыя, рэдка з'яўляецца там постаць чалавечая, а калі ўжо – то пададзеная як стафаж – дробны сілуэт, прыгнуты пад нязносным цяжарам, які абапіраецца на кій або палку. Хоць без апісання асаблівасцяў, яна святова схарактары-



***Віленскі завулак. Акварэль.***



***Дождж. Афорт.***

заваная. Заўсёды гэта тая самая постаць, якая так узмоцнена вывучалася Ямантам, спатыкаем яе на многіх аркушах яго эскізнікаў.

Другой важнай тэмай у рысунках мастака з'яўляюцца вулічкі і завулкі старых гарадоў і мястэчак (найчасцей гэта фрагменты любімай Вільні, але таксама тых усіх мясцовасцяў, куды Ямант выбіраўся на пленэры), з часта ўжо разваленамі дамоў і домікамі з пашарпанай атынкоўкай, злучанымі пахіленымі ў розныя бакі платамі і парканамі. Ва ўсім тым бязладдзі знайходзіў Ямант спакой і гармонію. Любіў таксама старажытную архітэктуру дваровага, палацавага або народнага тыпу. З любоўю рабіў таксама эскізы драўляных цэркавак або вясковых касцёлікаў; заўсёды пры гэтым стараўся ўхапіць і захаваць іх характэрны стыль. Будынкі тыя, нарысованыя з вялікім адчуваннем манументальнасці і іхняй індывідуальнасці, заўсёды інтэгральна звязаныя з атачэннем. Гэтая "археалагічна-інвентарызатарская" пазіцыя, якая праяўляецца ў некаторых архітэктанічных эскізах Ямантa характарызавала ўвесь тагачасны мастацкі віленскі асяродак. Для прыкладу можна тут назваць Рушчыца, для якога памнікі мінуўшчыны мелі значэнне рэчаў непаўторных, а таксама Сляндзінскага і Гапэна, якія захоплення тым, што прайшло, што даўнее, выразілі эскізамі абломкі пахавальні Барбары Радзівіл.

Ва ўсіх эскізах Ямантa адчуваецца прастора, над якой распрасцерлася шырокае неба. Неба ў Ямантa так рэдка яснае і спакойнае. Пераважна пакрытае цяжкімі, цёмнымі або падсветленымі сонечнымі промнямі аблокамі – з'яўляецца інтэгральнай (складовай) часткай пейзажнай кампазіцыі. Тыя, пазней – на карціне алейнай ці тэмпeравай – створаныя хмары, намалёваны тлуста, тоўста пакладзены, або моцна насычаны фарбай з адданнем вялікага цяжару матэрыі – у рысунках часта ледзьве пазначаны, нанесены толькі алоўкам, але ўжо маюць сваё месца ў кампазіцыі эскізу.

Нешматлікія ў прасторы кожнага рысунка, пастаянна паўтараныя тыя самыя матывы: самотнае дрэва, вятрак, царква, касцёл, архітэктура дваровая і гарадская – мастак кампануе з дбальнасцю пра захаванне паміж імі раўнавагі. Разложыстае дрэва знайходзіць свой пластычны раўнаважнік у кучаравым воблаку або ў яго адбітку ў вадзе, або таксама ў постаці штафажа – меншага па-памеры, але які ў роўнай ступені прыцягвае ўвагу гледача. Часамі гэтую ролю выконвае светлацень, гульня цёмных і светлых участкаў эскізу.

Ямант рысаваў, будзь тое ў эскізніках, сшытках і розных нататніках, будзь таксама на асобных малых картачках-найчасцей алоўкам (не вельмі мяккім) радзей крэйдкай або пяром. І наколькі жывапісная фактура яго карцін найчасцей цяжкая і важкая, то рысункі лёгкія і лятучыя. Рысункавыя эскізы характарызуюцца мяккасцю лініі і мяккім светлаценевым мадэляваннем. Датычыць гэта перш за ўсё пейзажаў, у якіх аўтар адмаўляўся ад элементаў фармальнай стылізацыі, якімі карыстаўся неаднаразова ў жывапісных працах.

Рысункі Ямантa здзіўляюць тэхнічнай дасканаласцю, але хутчэй уражвае ў іх уніклівасць назірання, якая дазваляе творцу перадаць не толькі знешняе падабенства, але нават пераказаць гледачу клімат. Ашчадныя, лапідарныя ў падняцці тэмаў, але не бедныя – наадварот, накрэсленыя рашучай лініяй яны маюць у сабе рысы індывідуальнасці мастака, асаблівыя ў размяшчэнні і падачы планаў. Ямант карыстаецца адзіночнай, досыць тоўстай або наадварот – далікатнай і тонкай лініяй, заўсёды гнуткай і плаўнай, а ў некаторых выпадках сплеценай, бывае таксама эфектамі якаснымі, якія дасягаюцца ценяваннем, атрымоўваючы тым самым большыя светлаценевыя кантакты. Адрозненні дасягаюцца з дапамогай згушчэння раўнамерна кладзеных або густа наслоеных і часамі перакрыжаваных штрыхоў.

У апошні перыяд жыцця, ад 1951 г., Ямант – з падбухторвання Ежы Гапэна, Стэфана Нарэмбскага і Эдварда Кучынскага – займаўся таксама графікай, ствараючы галоўным чынам афорты. На лакіраванай бляшцы рысаваў лёгкай, дробнай крэскай матывы маляўнічых, пазычаных з карцін Якуба Русдаэля дрэў. Афорт найбольш адпавядаў рысам яго таленту. Кампанаване проста на лакаванай пласціне ёсць спроба падобная да аперавання алоўкам ці пэндзлем. Афорты, як і жывапіс Ямантa, папулярызавалі пейзаж, які злучаў рысы краявіду XVII стагоддзя скампанаваныя з рамантычнымі матывамі і сентыментальным настроем. Афорты Ямантa найчасцей гэта схема карцін, трансфармаваных ў чорна-белую фармацыю. Дзякуючы

гэтаму графіка Яманта стварае інтэгральную цэласць з яго жывапіснай творчасцю і сваім спосабам садзейнічае ў вырашэнні ўласцівых яму мастацкіх задумаў.

На заканчэнне варта дадаць выказванне Ежы Рэмера з артыкула, апублікаванага пасля смерці Яманта, якое набліжае да нас індывідуальнасць мастака і яго стаўленне да мастацкага рамяства. Наколькі ў жывапісе Яманта адчуваецца рамантыка, то ў рысунках, якія ў большасці паказваюць архітэктанічныя фрагменты, бачым цвярозага рэаліста. Рэмер быў сведкам стварэння эскізу да карціны царквы Св. Юрыя ў Драгобычу. Робячы эскіз Ямант выпытваў у Рэмера – гісторыка мастацтва – аб асаблівасцях і мастацкай вартасці царквы, аб гісторыі аб'екта.

*"Аглядаў яе з зацікаўленасцю вартай дапытлівасці даследчыка. Падаецца, што вось у такім стаўленні Яманта да рэчаіснасці, незалежна ад таго, ці была яна творам прыроды, ці таксама творам мастацтва, як справы рук людскіх, ці нарэшце цэлай сукупнасці ўтварэнняў формы, хаваецца нейкая глыбокая праўда пра мастака, мабыць не толькі рамантыка, не толькі назіральніка і не толькі кампазітара-пейзажыста. Праўда тая ёсць у глыбокіх гуманістычных адносінах да прадметаў, да самога іх стварэння, да працы прыроды і чалавека. Наколькі на карцінах Яманта не відаць чалавека, то ў мастацтве яго адчуваем атмасферу сардэчнасці, улюбёнласці, найчуллівага лірызму. А разам амаль усюды акцэнты драматычных перажыванняў."*[21]



**Станіслаў Роліч. Партрэт Браніслава Яманта. Медыярыт.**

У зборах універсітэцкага кабінета мастацтва ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка знайходзіцца 40 асобных рысункаў з 1935-37 гг., два эскізнікі (уключна з 80 аркушамі) з 40-х гадоў, адна тэмпера і 15 афортаў з пачатку 50-х гадоў.

***Ян Катлоўскі.***



***Выстава да 75-годдзя Б. Яманта ў Торуні.***

***Літаратура:***


1. J. Remer, Dzielo Bronislawa Jamontta. Ilustrowany Kurier Polski, 1957, nr 2 (z 10 VI), s. 5.

2. I. Kotoszynska, Wydzial Sztuk Pieknych Uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie, /w:/ Ferdynand Ruszczyc 1870-1936. Pamiqtnik wystawy, Warszawa 1966, s. 116.

3. Tamze

4. /ZET/, Sukcesy malarzy wilenskich. Instytut Carnegie w Pittsburghu zakupuje dzieta wilenskich artystow. Slowo, 1934, NR 338 (z 10 XII), s. 2.

5. S. Narebski, Pamieci Bronistawa Jamontta. Pomorze, Bydgoszcz, 1957, nr 2 (z 14 III), s. 3

6. Dokladna bibliografia dotyczaca prac Jamontta zebrana jest w Slowniku artystow polskich, t. 10, s. 190-191. Wykorzystano takze prowadzony przez Jamontta do 1957 r. album wycinkow prasowych, fotografii dziel i wystaw (Muzeum Narodowe w Warszawie, Dzial Dokumentacji, nr inw. 92750 - Alb. 100).

7. S. Narebski, /wstep do katalogu:/ Wystawa posmiertna prac B. Jamontta 1886-1957, Muzeum-Ratusz, Torun 1957.

8. J. Puciata-Pawlowska. Krajobraz Bronislawa Jamontta. Glos Pomorza, 1947, z 27 IV, s. 4.

9. J. Bulhak, Comoedia, Wilno 1939, nr 2, s. 24.

10. Zob. m.in.: M. Sieroslawska-Furs. Uliczka Zydowska w Wilnie (1934 r.) Bronislawa Jamontta: pejzaz miejski w malarstwie wilehskim lat miedzywojennych (praca magisterska napisana pod kierunkiem B. Mansfelda w Instytucie Artystyczno-Pedagogicznym UMK, Torun 1986, maszynopis). Takze: J. Puciata-Pawlowska, Droga Bronislawa Jamontta, Pomorze, 1955, nr 3, s. 15; S. Narebski, Spuscizna Bronislawa Jamontta, Pomorze, 1957, nr 7, s. 3.

11. K. Kieniewicz. Slowo. Wilno, 1939, nr 37 (z 2 II).

12. F. Lubierzynski. Wilenski Przeglad Artystyczny, Wilno, 1924, nr 3 (z 21 IX).

13. J. Puciata-Pawlowska. Krajobraz Bronislawa Jamontta, op. cit.

14. S. Narebski, Spuscizna Bronislawa Jamontta, op. cit.

15. Tamze.

16. J. Hoppen. Przedmowa. Katalog wystawy obrazow B. Jamontta, Torun, 1947.

17. J. Puciata-Pawlowska, op. cit.

18. J. Remer, op. cit.

19. J. Sienkiewicz. Rysunek polski. Od Oswiecenia do Mlodej Polski. Warszawa 1970, s. 5.

20. Zapoznano sie takze z rysunkami i szkicownikami znajdujacymi sie w innych zbiorach: w Muzeum Narodowym w Warszawie (m.in. 48 szkicownikow), Muzeum Okrogowym w Toruniu (m.in. 11 szkicownikow)

21. J. Remer, op. cit.

# Радзюк Трафім Сямёнавіч

## *105 гадоў з дня нараджэння*

Нарадзіўся 15 ліпеня 1906 г. у сялянскай сям'і ў в. Лошніца Барысаўскага павету Менскай губерні. З малых гадоў працаваў у гаспадарцы бацькоў. Сезонны рабочы на чыгунцы, клеймавальшчык шпалапрапітачнага завода (травень 1925 - сакавік 1927) У 1926 г. уступіў у камсамол. Лістаноша ў пас. Лошніца (сакавік 1927-травень 1928), піянерработнік Барысаўскага райкаму камсамолу (травень-лістапад 1928). Курсант палкавой школы чырвоных камандзіраў, затым памочнік камандзіра навучальнага звяза пры 33 артпалку ў г. Магілёве (лістапад 1928-лістапад 1930).У 1929 г. прыняты ва Ўсесаюзную Камуністычную Партыю бальшавікоў. Студэнт Барысаўскага палітэхнічнага рабфака (лістапад 1930 - травень 1932). Палітрук асобнай роты ВСЧ тылавога апалчэння (травень 1932 - жнівень 1933). Студэнт Менскай Вышэйшай Камуністычнай Сельскагаспадарчай школы імя Леніна (верасень 1933 - студзень 1937). Намеснік дырэктара па палітчастцы Рудзенскай МТС Менскай вобласці (студзень 1937- студзень 1938). Першы сакратар Рудзенскага (студзень 1938 - студзень 1940), затым Камянецкага (студзень1940 - чэрвень 1941) РК КП(б)Б Берасцейскай вобласці.



*"У суботу, напярэдадні 22 чэрвеня 1941 г., увесь дзень прайшоў у падрыхтоўцы да раённага сходу партыйнага актыву, які быў прымеркаваны да падвядзення вынікаў вясновай сяўбы і падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю. На сход прыехаў першы сакратар Берасцейскага абкаму КПБ Міхась Мікалаевіч Тупіцын. Выдатным яшчэ было і тое, што напярэдадні сходу бедната адной з вёсак Вайсковага сельсавета арганізавала новы калгас і назвала яго імем Сталіна. Гэта быў сёмы па ліку калгас у Камянецкім раёне. Партыйны сход праходзіў у дзелавой абстаноўцы. Камуністы ўнеслі шмат прапаноў, накіраваных на ўмацаванне маладых калгасаў, на арганізаваную падрыхтоўку да ўборкі і нарыхтоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў.*

*У 5 раніцы 22 чэрвеня 1941 г. да мяне на кватэру патэлефанаваў Мікіта Пятровіч Кароткін - першы сакратар Жабінкаўскага райкаму партыі і трывожным голасам паведаміў, што станцыя Жабінка і мястэчка падвергліся паветранаму бамбаванню, многія будынкі і гаспадарка чыгуначнага вузла значна пашкоджаны, нашы войскі выйшлі на мяжу і вядуць бой супраць нямецкіх войскаў, якія ўварваліся на нашу тэрыторыю. З Берасцем і Менскам сувязь перапынена, і ўказанняў ніякіх няма.*

*Я па баявой трывозе падняў увесь партыйны і камсамольскі актыў, арганізаваў узброеную ахову найважных аб'ектаў; былі прыняты меры да ўсталявання сувязі з абкамам партыі. У 8 гадзін раніцы з'явіліся першыя параненыя байцы Чырвонай Арміі, якія адразу ж былі шпіталяваны. Спробы ўсталяваць сувязь з абкамам партыі не далі поспеху. У 8.30 было склікана паседжанне бюро РК КПБ сумесна з прадстаўнікамі савецкіх, адміністрацыйных і іншых арганізацый, на якім было прынята рашэнне пра падрыхтоўку ўсіх устаноў і арганізацый да эвакуацыі. Напачатку другой паловы дня назіральныя пасты, усталяваныя на "Белай вежы" далажылі па тэлефоне пра тое, што нямецкія перадавыя часткі знаходзяцца на адлегласці 6-7 км ад раённага цэнтра і ідуць з боку Пелішча і Відомлі. Адзін з найважных шляхоў адыходу быў адрэзаны і таму аддадзена распараджэнне адводзіць людзей і везці маёмасць разам з дакументамі ў кірунку вёсак Угляны, Дварцы, Шрэшава. Гэты шлях адыходу быў прыкрыты пералескамі. Адыходзілі разам з часткамі Чырвонай Арміі.*

*3 ліпеня 1941 г. група кіраўнічых работнікаў Берасцейскай вобласці ў колькасці 19 чалавек, у якую ўваходзіў і я, звярнулася да гомельскага аблваенкама з просьбай пра залічэнне ў дзейснае войска. Нас накіравалі ў г. Навабеліцу, дзе тым часам фармаваліся маршавыя батальёны. Там мы атрымалі прызначэнне і прыступілі да працы."*

Сакратар партбюро Гомельскага запаснога стралковага палка (ліпень 1941): *"Мяне абралі сакратаром партбюро палка. Каля 15 дзён мы знаходзіліся ў Навабеліцы, дзень і ноч займаючыся фармаваннем батальёнаў і адпраўкай іх у дзейсныя вайсковыя часткі. 20 ліпеня мяне і маіх таварышаў выклікалі ў Гомельскі абкам партыі, дзе тым часам знаходзіўся Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, і там былі коратка выкладзены задачы каму-*

*ністаў на акупаванай тэрыторы. Было прачытана некалькі лекцый. Сярод лектараў былі ўдзельнікі партызанскай барацьбы і партыйнага падполля часоў грамадзянскай вайны. За 4 дні мы павінны былі асвоіць стралковую справу, навучыцца вырабляць выбуховыя зарады для разбурэння чыгуначных рэйкаў, вывучыць маршруты верагоднага пераходу ліній фронту, месцы базавання, практыку ўсталявання сувязі, а таксама элементарныя звесткі з вобласці выведвальнай справы."*

У тыле ў праціўніка на выкананні спецзаданняў ЦК партыі (28 ліпеня -25 верасня 1941): *"У ноч на 25 ліпеня 1941 г. наша група ў складзе 15 чалавек на захад ад Азарычаў перайшла лінію фронта, пракраўшыся ў тыл праціўніка ў раёне ст. Рабкар. Далей маршрут праходзіў праз Глуск, Старыя Дарогі. Дасягнуўшы раёна Старых Дарог, каля в. Пасека група патрапіла ў засаду і ў выніку масаванага абстрэлу аўтаматным агнём страціла значную частку асабовага складу. Нягледзячы на страты, захворванні малярыяй і дызентарыяй, пазасталая частка групы ў колькасці сямі чалавек правяла значную працу сярод насельніцтва Старадарожскага, Глускага і Акцябрскага раёнаў па растлумачэнні праўды пра становішча спраў на франтах, пра гераізм савецкіх войскаў і немінучай пагібелі фашысцкай Германіі. На ўсім працягу паходу нас сустракалі з вялікай радасцю і аказвалі ўсялякую дапамогу і падтрымку.*

*У выніку адсутнасці тапаграфічнай карты і няведання мясцовасці наша група патрапіла ў раён, дзе нямецкія карнікі праводзілі прачыстку лясных масіваў. Апынуўшыся паміж в. Зацішша і Ражанае* (цяпер Ражанаў, *В.С.*), *у якіх знаходзіліся нямецкія залогі, нам трэба было фарсіраваць р. Пціч. Але сярод групы былі такія, якія зусім не маглі плаваць і, да таго ж, былі цяжка хворыя. Пціч пасля жнівеньскіх праліўных дажджоў выйшла з берагоў, і магчымасць пераправы ўброд была выключана. Акупанты, строга кантралюючы ўчастак ракі паміж залогамі, забяспечвалі ахову рухомымі пастамі. Пад пагрозай растрэлу гітлераўцы забаранілі мясцовым жыхарам выходзіць са сваіх хат. На працягу сутак на ўзлеску лесу каля в. Ражаное мы чакалі з'яўлення каго-небудзь з мясцовых жыхароў. Да вечара ўдалося заўважыць, што з аднаго з двароў праз гарод прабіраецца стары з касой у кірунку балота. Нечаканая сустрэча з намі каля нямецкай залогі страшна спалохала старога. Ён з хваляваннем сказаў: "Хутчэй уцякайце, інакш вы загубіце сябе і нашых жыхароў; вас, як мышанятаў, пераловяць жывымі". Пасля пераканаўчых довадаў і просьбаў пра неабходнасць здабыць лодку для пераправы на ўсходні бераг ракі, пасля таго як стары пераканаўся, што маюцца параненыя і хворыя, ён зняў шапку, перажагнаўся і заявіў: "Я ўжо пражыў свой век, і мне смерць не страшная", - даў згоду знайсці лодку і схаваўся ў начной імгле. Цяжкія былі хвіліны чакання. Мы выставілі дазоры, хворых адвялі ў бяспечнае месца. І нарэшце, зусім бясшумна, з'явіўся цень, які прыціскаўся да стромкага берага. Гэта быў стары - Давыд Васільевіч Сарнацкі, які з-пад носа нямецкіх патрулёў прыгнаў старую лодку "душагубку". Ён папярэдзіў: "Будзьце асцярожныя, на тым беразе немцы часам робяць засады". Першымі ў лодку селі больш здаровыя партызаны, узброеныя гранатамі і пісталетамі. Больш за гадзіну Давыд Васільевіч у сваім чоўне перавозіў групу. На развітанне мы пацалавалі мужнага старога, сардэчна падзякавалі за высакародны ўчынак.*

*16 жніўня ў в. Пухінічы Ломавіцкага сельсавета адбылася сустрэча нашай групы з групай падпалкоўніка Вусава і батальённага камісара Драніішчава ў колькасці больш за 60 чалавек, якая прабівалася на Ўсход на злучэнне з Чырвонай Арміяй. Асабовы склад абедзвюх груп быў моцна выматаны працяглымі пераходамі; ад холаду і недаядання распаўсюджваліся інфекцыйныя захворванні, многія былі зусім босыя і распранутыя, адзежаператварылася ў лахманы, бароды ператварылі маладых людзей у 70-гадовых старых. І калі групы зрабілі днёўку ў в. Пухінічы, усе жанчыны, як адна былі мабілізаваны мясцовай актывісткай Дзігілевіч Палінай Антонаўнай для аказання дапамогі партызанам у мыцці і папраўцы бялізны і абмундзіравання, быў арганізаваны збор хлеба і прадуктаў. Як родных дзяцей выпраўлялі жыхары вёскі аб'яднаную групу пасля кароткага адпачынку.*

*Здзейсніўшы рэйд па тылах праціўніка на адлегласць больш за 400 км, група правяла вялікую палітычную працу сярод насельніцтвы акупаваных раёнаў, таксама быў здзейснены шэраг дыверсійных актаў на дарогах. Быў набыты неабходны досвед для наступных засыланняў груп і атрадаў у тыл праціўніка. Удзельнікамі групы былі Сысоева Надзея, Лобач, Балабуткін С.Л., Тарасевіч А.І., Яноўскі."*

На лячэнні ў г. Маскве і Кіраўскай вобласці (верасень 1941 -14 студзеня 1942): *"Пасля двухмесячнага лячэння ў студзені 1942 г. быў выкліканы ў Маскву ў ЦК ВКП(б) і адтуль з групай палітработнікаў у колькасці 19 чалавек накіраваны ў распараджэнне ЦК Беларусі. У канцы студзеня выехалі на Калінінскі фронт у распараджэнне члена Ваеннага савета 3-й арміі тав. Панамарэнкі П.К."*

Адказны арганізатар Паўночна-заходняй групы ЦК КП (б)Б (студзень -15 траўня 1942). Камісар школы № 2 Б па падрыхтоўцы падрыўнікоў для партызанскіх атрадаў (15 траўня -25 кастрычніка 1942): *"Быў адказным аргпартработнікам і камісарам спецшколы № 2 Б са студзеня па кастрычнік 1942 г. і займаўся фармаваннем і падрыхтоўкай партызанскіх кадраў пры штабе Паўночна-заходняй групы ЦК Беларусі".*

Упаўнаважаны ЦК КП(б)Б Беларускага штаба партызанскага руху ў тыле праціўніка (25 кастрычніка 1942 - 22 жніўня 1943): *"Напачатку кастрычніка 1942 г. было прынята рашэнне ЦК і Менскага абкаму, у адпаведнасці з якім я павінен быў узначаліць групу партызан і падпольных партыйных і камсамольскіх работнікаў Барысаўскага міжраённага падпольнага цэнтра. Цэнтр тым часам базаваўся ў Бегомльскім раёне, а на чале яго стаяў Павел Антонавіч Жуковіч. Мэта паходу складалася ў тым, каб перадаць*

*кіраўніцтву міжрайкаму ўказанні ЦК і загад Сталіна і дапамагчы ім ажыццявіць гэтыя ўказанні на практыку. Для актыўнага разгортвання партыйна-камсамольскага падполля была вылучана група партыйна-камсамольскіх работнікаў у колькасці 16 чалавек, якія прайшлі падрыхтоўку пры ЦК КПБ.*

*У 20-х днях кастрычніка начальнік штаба Беларускага партызанскага руху тав. Калінін , а ўслед за ім кіраўнік групы на Менскам кірунку тав. Клімаў далі мне падрабязную інструкцыю па ажыццяўленні загаду тав. Сталіна і дырэктывы ЦК КПБ па далейшым разгортванні партызанскай барацьбы ў Беларусі. Да 25 кастрычніка атрад у складзе 60 чалавек быў цалкам сфармаваны і абсталяваны. Нам трэба было перайсці лінію фронту ва ўмовах, калі нямецкія перадавыя часткі актывізавалі свае баявыя дзеянні, узмацнілі залогі, замінавалі ўсе магчымыя шляхі пераходу фронту. Яшчэ ў штабе партызанскага руху, у раёне г. Тарапец, было папярэдне вызначана, што пераход лініі фронту больш мэтазгодна рабіць на ўчастку паміж вёскай Вялікае Малітвена і ўрочышчам Вялікі Мох. Да вечара 27 кастрычніка група ў поўным складзе дасягнула раёна размяшчэння перадавой лініі абароны нашых войскаў. У штабе батальёна мне паведамілі, што батальённая выведка не можа даць якіх-небудзь пэўных дадзеных пра размяшчэнне агнявых кропак праціўніка і ўсёй сістэмы абароны немцаў на выбраным участку, бо ў апошні час не ўдавалася ўзяць языка. Такім чынам, пераход лініі фронта не абяцаў нічога добрага. Начальнік штаба батальёна папярэдзіў мяне, каб я спяшаўся з пераходам фронту і, прынамсі, не пазней 4 гадзін выйшаў з раёна баявых ахоўванняў, бо роўна ў 4 гадзіны, заявіў ён, мы пачнём артылерыйскую апрацоўку перадавога краю абароны немцаў.*

*Прыкладна ў гадзіну ночы атрад дасягнуў перадавых пастоў праціўніка, і неўзабаве быў выяўлены баявым ахоўваннем нямецкіх войскаў. Нечаканы масаваны аўтаматны агонь разрыўнымі кулямі аглушыў і на імгненне выклікаў разгубленасць у нашых шэрагах. Не адказваючы на агонь нямецкіх патрулёў, атрад ухіліўся ад бою, фарсіраваным маршам перабег міннае поле і паўзком, па-пластунску пераадолеў адкрытую і асветленую месяцам мясцовасць. Прыкладна ў 3 гадзіны дасягнулі р. Усвяча, хутка фарсіравалі яе ўброд, затым, перайшоўшы шашу, якая вядзе з Вілейкі на Усвяты, выйшлі на ўзлесак на поўдзень ад в. Вялікае Малітвена. Пасля 5 км кідку атрад спыніўся ў лесе на прывале. Забяспечыўшы належную ахоўву месца прывалу, партызаны пераабуліся, выкруцілі сваё мокрае абмундзіраванне, спехам падмацаваліся сухарамі, а радыст тав. Верас разгарнуў рацыю і далажыў шыфроўкай у штаб партызанскага руху пра тое, што атрад пераадолеў лінію фронту. Паведамілі таксама, што пры прарыве фронту прапаў без вестак камуніст Баярын. Яшчэ не скончыў радыст выбіваць апошнія кропкі-працяжнікі, як на шырокім участку фронту ззаду ад нас здрыганулася зямля і рэхам разнесліся па лесе залпы артылерыйскіх батарэй.*

*Маршрут на Менскі кірунак праходзіў праз Усвяцкі, Гарадокскі, Мехаўскі, Ульскі, Ушацкі, Лепельскі і Бегомльскі раёны. Атраду трэба было здзейсніць шлях, з улікам абыходу буйных населеных пунктаў і гарадоў, у больш за 600 км. Цяжкасці пераходу ўскладняліся яшчэ і тым, што ў складзе атрада было 15 жанчын, членаў партыі і камсамолу, якія па заданні ішлі на партыйную работу. Многія з іх былі недастаткова натрэніраваны, фізічна слабыя, але яны мужна пераадольвалі цяжкасці пераходу. Па дарозе камуністамі атрада праводзілася вялікая тлумачальная праца сярод насельніцтвы. У шэрагу населеных пунктаў чальцы групы выступалі з дакладамі пра міжнароднае становішча, пра поспехі Чырвонай Арміі. З велізарнай увагай слухалі даклад пра 25-годдзе Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі жыхары в. Грэбанцы Ўшацкага раёна, шмат было зададзена пытанняў, на якія сяляне атрымалі вычарпальныя адказы.*

*12 лістапада атрад дасягнуў Бегомльскага раёна, дзе базавалася брыгада імя Жалязняка, камандзірам яе быў капітан тав. Ціткоў Іван Філіпавіч і камісарам тав. Манковіч Сцяпан Сцяпанавіч. Па прыбыцці ў цэнтр размяшчэння брыгады, мною былі сабраны ўсе камандзіры і камісары, сакратары падпольных камітэтаў і выкладзены асноўныя палажэнні загаду тав. Сталіна пра задачы партызанскага руху і дырэктывы ЦК КП Беларусі і партызанскага штаба пра задачы партызанскіх атрадаў на зімовы перыяд. Я запатрабаваў спыніць канцэнтрацыю партызан у раёне возера Палік, і фармаванне буйнога злучэння адкласці на больш позні перыяд. Усе камандзіры і камісары ўхвалілі гэта ўказанне ЦК і прынялі да няўхільнага выканання. Асобныя недысцыплінаваныя асобы пасля былі адхілены ад кіраўніцтва партызанскім рухам.*



*Раённыя партыйныя і падпольныя камітэты ў студзені і лютым 1943 г. пачалі выдаваць вялікім накладам раённыя газеты, улёткі і брашуры, у якіх публікаваліся зводкі Саўінфармбюро, інфармацыя з-за мяжы, пра працоўныя поспехі савецкіх людзей у глыбокім тыле, пра будні партызанскага жыцця і барацьбу супраць нямецкіх акупантаў, пра зверствы нямецкіх войскаў.*



***Чальцы бюро Лідскага райкама партыі. Т.С. Радюк - трэці справа.***

*Праводзілася вялікая палітычная праца сярод насельніцтва.*

*Да вясны 1943 г. тэрыторыя Барысаўскай зоны была агорнута полымем партызанскай вайны. Бегомльскі аэрадром ператварыўся ў Цэнтральны партызанскі аэрапорт Паўночна-усходняй Беларусі, дзе амаль кожную ноч пры лётным надвор'і прызямляліся па 2-3 планёры, гружаныя баявой тэхнікай і інш. матэрыяламі. У траўні немцы накіравалі супраць партызан Барысаўскай зоны больш за 50 тысяч салдатаў. Карнікам былі прыдадзены танкавыя батальёны, артылерыя, авіяцыя. Асноўнай задачай карнай экспедыцыі было поўнае знішчэнне партызанскіх атрадаў якія базуюцца ў Палікаўскіх лясах. Карную экспедыцыю ўзначальваў эсэсаўскі генерал-маёр паліцыі фон Готберг. 15 чэрвеня фон Готберг зрабіў справаздачу перад Гітлерам і паведаміў усяму свету, што знішчана больш за 9 тысяч партызан. Насамрэч партызаны страцілі не больш за 100 чалавек забітых і прыкладна гэтульні ж параненых. Партызаны Барысаўскай зоны выстаялі супраць магутнай карнай экспедыцыі.*

*На 1 жніўня 1943 г. у Барысаўскай зоне партыйнае падполле аб'яднала больш за 300 камуністаў, аб'яднаных у 32 першасныя партыйныя арганізацыі, камсамольцаў-падпольшчыкаў было 1119 чалавек, аб'яднаных у 218 першасных арганізацыях. Акрамя таго 136 камсамольцаў працавалі ў адзіночку і выконвалі асобныя заданні камсамольскага падпольнага цэнтра.*

*Атрымаўшы загад штаба партызанскага руху, я адбыў у Маскву ў ЦК КПБ."*

Інструктар аргінструктарскага аддзела ЦК КП(б)Беларусі ў Маскве і Гомелі (23 жніўня 1943- 6 красавіка 1944), заг. аргінструктарскім аддзелам Берасцейскага абкаму (6 красавіка 1944- верасень 1945). Слухач Вышэйшай школы партыйных арганізатараў пры ЦК ВКП(б) (верасень 1945 -снежань 1946). Намеснік старшыні Менскага аблвыканкаму (студзень 1947 - красавік 1948). Начальнік аддзела Міністэрства мясамалочнай прамысловасці БССР (красавік 1948- кастрычнік 1949), кіраўнік Белптушкапрамтрэста (кастрычнік 1949 -10 студзеня 1951). Першы сакратар Гарадзенскага гаркаму партыі (10 студзеня 1951- 1954), Лідскага райкаму (1954- 55) і Лідскага гаркаму (1955-60).

Пры Т.С. Радзюку ў Лідзе былі адкрыты: музычная школа, кінатэатр "Кастрычнік", школа-інтэрнат, Дом афіцэраў, летні кінатэатр, гасцініца на вул. Кірава, краязнаўчы музей; пабудаваны шматлікія жылыя дамы. Арганізаваны аўтобусна-таксаматорны парк, аўтарамонтны завод, на р. Лідзейцы створана вадасховішча. Пабудаваны пасёлак Першамайскі, пачало выдаваць прадукцыю торфапрадпрыемства "40 гадоў БССР", з'явіліся калгасы - мільянеры.

Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга (1943), Працоўнага Чырвонага Сцяга (1958), медалямі: "Партызану Айчыннай вайны II ступені" (1944), "За перамогу над Германіяй" і "За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне"(1945), граматай Прэзідыюма ВС БССР. На XX з'ездзе Кампартыі Беларусі абраны кандыдатам у члены ЦК (1952). На XXI і XXII з'ездах абраны членам ЦК. Дэпутат ВС БССР 4-га (1955) і 5-га скліканняў (1959). Памёр 12 чэрвеня 1960 г. Пахаваны на Лідскіх могілках у канцы вул. Камуністычнай. Імем Т.С. Радзюка названа вуліца ў Лідзе.



**Пра яго:**

В.Р. Шнявін: *"Трафім Сямёнавіч у любую хвіліну мог прыняць прынцыповае рашэнне, праяўляў вялікі клопат пра людзей. Даводзілася разам з ім выязджаць у калгасы. Хлеба робы Лідчыны з нецярпеннем чакалі прыезду першага сакратара. Ён словам і справай дапамагаў кіраўнікам гаспадарак".*

М.Е. Дадзькоў: *"Трафім Сямёнавіч выяўляў вялікія здольнасці, настойлівасць, быў непрымірымым да ўсяго, што замінала нашаму руху наперад. Працоўныя горада і раёна заўсёды з павагай і любоўю ставіліся да свайго важака".*

Мае дзіцячыя ўражанні: невысокага росту вельмі мяккі, душэўны чалавек з шэрым тварам і глыбокім зачаравальным поглядам. Некалькі разоў бываў у нас дома, з задавальненнем гутарыў з маім дзедам, Міхаілам Емяльянавічам; абодва яны былі родам з Менскай губерні, гаварылі звычайна на беларускай мове.

***Валеры Сліўкін.***

# Наскоў Іван Міхайлавіч

## *100 гадоў з дня нараджэння*

**НАСКОЎ Іван Міхайлавіч** (18.09. 1911-12.12. 1948). Нарадзіўся ў в. Ключнікава Яраслаўскай вобласці. Член УКП (б) з 1940 г. На аператыўнай працы ў органах дзяржбяспекі з сакавіка 1941 г.

З ліпеня 1944 г. працаваў старэйшым аперупаўнаважаным Лідскага аддзела НКДБ. Лейтэнант дзяржбяспекі. Узнагароджаны нагрудным знакам "Выдатнік РККА". Загінуў 12 снежня 1948 г. у в. Паперня. Існуюць дзве версіі яго смерці. Мы іх падрабязна выказалі ў часопісе "Лідскі летапісец" № 3 (11) за 2000 г.

**Першая.** У аддзел паступілі звесткі, што некаторыя бандыты знаходзяць прытулак у в. Паперня. Аператыўная група на чале з Насковым раніцай 12 снежня пачала там агляд жылых памяшканняў. У адной з хат на ложку ляжаў незнаёмы чалавек. Наскоў запатрабаваў у яго дакументы. Чалавек выхапіў аўтамат і стрэліў. Куля мінула. Наскоў кінуўся на бандыта, выбіў у яго з рук аўтамат, адабраў дзве гранаты. Але ў бандыта яшчэ застаўся наган, з якога той стрэліў і смяротна параніў Наскова. Сцякаючы крывёй, чэкіст працягваў барацьбу. Таварышы, якія прыбеглі на дапамогу, убачылі як змярцвелымі пальцамі лейтэнант Наскоў зацiснуў горла бандыта, прыцiснуў яго сваім целам. Праз некалькі хвілін ён памёр.

**Другая**. *"...Наскоў у ходзе правядзення чэкісцкавайскавой аперацыі ў раёне вёскі Паперня вырашыў зайсці да даўняга знаёмага. Але не думаў не гадаў Іван Міхайлавіч, што ў гэтай хаце спіць на ложку верхавод тэргрупы "Клён". У кухні гаспадар замітусіўся і прапанаваў госцю прайсці ў пакой. "Клён" ужо быў напагатове, падрыхтаваўся да сутычкі. Яму, у што б там ні стала, трэба было бясшумна расправіцца з Насковым і непрыкметна знікнуць. Як толькі нічога не падазраваўшы афіцэр увайшоў у пакой, на яго напалі. У маўклівым рукапашным паядынку "Клён" спрабаваў вырваць з кабуры Наскова пісталет. ... Нарэшце зразумеў, што адабраць пісталет у Наскова яму не ўдасца, смяротна параніў лейтэнанта са сваёй зброі, а сам пачаў уцякаць праз акно. Хутка быў забіты пры ўзброенным супраціўленні"* (Сямашка, "Армія Краёва на Беларусі", 1994, с. 222).



Некалькі гадоў назад музей атрымаў успаміны Альфрэда Іванавіча Кур'яна - супрацоўніка Лідскага аддзела МУС у 1945-1983 гг., сябра Наскова, запісаныя ім уласнаручна: *"12.12.1948. Наскоў І.М узяў з сабой салдатаў з палка 3210 (мясцовае насельніцтва звала іх "чырвонапагоннікамі") і адправіўся ў в. Паперню. Пакінуўшы салдатаў на ўскраіне в. Паперні ён пайшоў у хату жыхара гэтай вёскі Сіўрука. Час быў начны. Калі Наскоў пастукаў у дзверы, бандыт адчыніў дзверы і зрабіў выстрал, які пасля аказаўся смяротным. На стрэл прыбеглі салдаты в/ч 3210 і знішчылі бандыта. Параненага Наскова паклалі на санкі і павезлі ў найбліжэйшую лякарню ў в. Ваверка. Па дарозе Наскоў памёр. Гаспадар хаты Сіўрук быў арыштаваны і асуджаны, пасля амністыі праз некаторы час памёр па хваробе.*

*Труна І.М. Наскова была ўстаноўлена ў яго кватэры ў доме № 16 па вул. Ламаносава. 15.12.1948 тут сабраліся яго родныя: маці Паліна Галактыёнаўна, жонка Ганна Дзянісаўна і 6 дзяцей".*

У той жа дзень адбылося ўрачыстае пахаванне на праваслаўных могілках па вул. Савецкай. Жонка і дзеці Наскова неўзабаве з'ехалі на жыхарства ў Душанбэ.



***Родныя каля труны І.М. Наскова***

Рашэннем Лідскай гарадскога савета дэпутатаў працоўных ад 23 лістапада 1967 г. імем І.М. Наскова была названа вуліца, якая вядзе цяпер ад праспекта Перамогі да Старога Паўднёвага гарадка. Пра Наскова неаднаразова публікаваліся матэрыялы ва "Уперадзе" і "Лідскай газеце": М. Афанасьеў (12.12.1967), Ш. Іваноў (13.05.1969), В. Свідэрскі (24.04. 1974), А. Міхайлава (12.12.1997), С. Каленік (19.11. 2009). Але так да цяперашняга часу застаецца невядомым, хто ж смяротна параніў І. Наскова, і хто хаваўся пад мянушкай "Клён".

***В. Сліўкін.***

# 50 гадоў назад футбольная каманда Ліды ўпершыню стала чэмпіёнам Гарадзенскай вобласці

50 гадоў назад, у жніўні 1961 г. футбольная каманда Ліды ўпершыню стала чэмпіёнам Гарадзенскай вобласці.



На фатаграфіі каманды 12 чалавек: Ігар Хілабок (нападнік), Георгій Лятохін (другі брамнік), Леанід Булей (паўабаронца), Усевалад Аляксееў (асноўны брамнік), Аляксандр Белан (абаронца), Збігнеў Грышкевіч (нападнік), Валер Гаршкалёў (паўабаронца), Віктар Яраслаўцаў (цэнтральны абаронца), Франц Кароль (нападнік), Уладзімір Кажухоўскі (цэнтральны нападнік), Станіслаў Казлоўскі (абаронца), Іван Сялевіч (нападнік).

Тады ў горадзе было каля дзесяці футбольных каманд, першынство праходзіла ў жорсткай барацьбе, вылучаліся тры каманды "Прамень", "Абутнік" і "Лакаматыў", з гульцоў гэтых трох каманд збіралі зборную горада.

Гулялі па схеме: 1-3-2-5 - брамнік, тры абаронцы, два паўабаронцы і пяць нападнікаў.

Гараджане ведалі футбалістаў у твар - я і цяпер, праз 50 гадоў, пазнаў іх на фатаграфіі. Яны былі нашымі героямі. У кожнага была свая мянушка. Валер Гаршкалёў - вельмі мяккі, элегантны паўабаронца, які выдатна бачыў поле, меў мянушку "Балярына". Ён пазбягаў сілавой гульні, адзінаборства - і трыбуны бубнілі: “Балярына, балярына”, - але яго пасы насуперак, па краях, на выхад выклікалі здзіўленае захапленне гледачоў. Цэнтрфорварда Ўладзіміра Кажухоўскага клікалі "Кажух". У яго быў хвосткі, добра пастаўлены ўдар - ён прабіваў штрафныя, пенальці, шмат забіваў; калі быў у добрым стане - ён быў нястрымны, ён вымотваў сваіх візаві, рухаўся бесперапынна - "гэтакая ртуць у штрафной пляцоўцы". Брамніка Ўсевалада Аляксеева клікалі "Сева" - ён быў самым высокім у камандзе, добра кіраваў абаронай, мог выцягнуць мяч з "дзявяткі" і тут жа прапусціць "плюху" - гуляў няроўна, але заўсёды артыстычна, яго любілі і ўсё яму прабачалі. Георгі Лятохін стаяў у варотах больш надзейна, але гледачы з Севай сябе адчувалі больш ўпэўнена - "Сева штангу грызі". Цэнтральны абаронца Віктар Яраслаўцаў вызначаўся гульнёй жорсткай, атлетычнай, часам адбойнай. Шчыльна з ім гуляць ніхто не адважваўся, нягледзячы на яго невысокі рост. Левы крайні нападнік Хілабок па мянушцы "Хілы" быў гульцом настрою, забіваў мала, але прастрэльваў выдатна. Леанід Булей пасяваў усюды, у нападзенні і абароне, ён быў маторам каманды.

Вось што ў той год пісалі пра гарадское футбольнае жыццё.

*"На першынстве горада па футболе пасяхова выступае каманда "Прамень" завода электравырабаў і гарадской электрастанцыі. Дружнае нападзенне каманды, дзе вылучаюцца Кажухоўскі, Кароль і Хілабок, у кожнай гульні дамагаецца ўзяцця варотаў суперніка. На рахунку кожнага з іх - да дзясятка забітых галоў. Добра гуляе паўабаронца Гаршкалёў. Няроўна гуляе каманда абутковай фабрыкі".* (І. Бярэзін //Уперад. 1 чэрвеня 1961 г. № 66)

*"У першынстве горада па футболе ўпэўнена лідыруюць энергетыкі. Іх каманда "Прамень" гуляе сладжана, дружна, напорыста. 21 чэрвеня энергетыкі сустракаліся з камандай абутковай фабрыкі. Лік адкрыў прыгожым ударам у "дзявятку" цэнтральны нападнік энергетыкаў Кажухоўскі. Брамнік абутнікоў Алексеў не ў сілах быў парыраваць удар. Неўзабаве Кажухоўскі падвоіў лік. На перапынак каманды пайшлі пры ліку 4:0 на карысць "Праменя". У другой палове гульні абутнікі актывізаваліся. Небяспечна б'юць па варотах паўабаронца Булей, нападнік Сялевіч. За дваццаць хвілін да канца гол улятае ў сетку варот "Праменя". Гол як быццам падшпіліў энергетыкаў, яны зноў кідаюцца ў напад і даводзяць рахунак да 6:1.*

*У гэтай гульні пры падачы вуглавога ўдару гулец абутковай фабрыкі Белан заблакаваў нападніка энергетыкаў Караля. Кароль стукнуў рукой Белана. І гэтага суддзя Урбановіч не ўбачыў. Тады Белан пачаў як цень, ісці за Каралём, імкнучыся нанесці яму ўдар. Трэба сказаць, што абодва футбалісты добрыя гульцы. Злосць павінна быць спартовая.*

*23 чэрвеня на гарадскім стадыёне адбылася таварыская сустрэча па футболе паміж камандамі Ліды і Шчучына. Дождж сапсаваў поле, і гульня вялася ў цяжкіх умовах. У другой палове гульні лідзяне ў адказ на адзін прапушчаны гол адказалі чатырма. Галы забілі: два -Кажухоўскі, па адным Грышкевіч і Аляксееў".* (А. Краска.//Уперад. 27 чэрвеня 1961 г. № 77.)

*"Сустракаліся лідары першынства вобласці па*

*футболе - каманды Слоніма і Ліды. Да гэтай сустрэчы яны прыйшлі без параз. Лік быў адкрыты на першай хвіліне. Недалёка ад штрафной пляцоўкі быў прызначаны штрафны ўдар. Булей магутным і дакладным ударам паслаў яго ў "дзявятку". Слонімцы адказалі штурмам лідскіх варот. За гульню рукой прызначаецца адзінаццаціметровы ўдар, але госці яго не рэалізавалі - мяч патрапіў у штангу. І тут жа напад лідскіх футбалістаў заканчваецца ўзяццем варот. Гол забіў Сялевіч. Перавага гаспадароў поля становіцца відавочнай. Гульня ідзе толькі на адной палове поля. Мяч яшчэ двойчы пабываў у варотах гасцей. У другім тайме нашы футбалісты гулялі слаба, відаць яны задаволіліся дасягнутым. Пасіўнічаў Хілабок. Шмат недакладнасцяў было ў Кажухоўскага. Наогул наша каманда ва ўсіх апошніх сустрэчах гуляе на Кажухоўскага, безумоўна здольнага гульца. Трэба, каб гуляла ўся каманда актыўна, напорыста, працавіта, як у гэтай гульні гулялі паўабаронцы Булей і Гаршкалёў. Сустрэча скончылася з лікам 5:0. Нашы футбалісты ідуць без параз".* (К. Дунаеў // "Уперад" 25 ліпеня 1961 г. № 89)

*"Наша футбольная каманда сёлета яшчэ не гуляла так добра. Яна мела поўную перавагу ў гульні на кубак вобласці па футболе са смаргоньскімі спартоўцамі. Сустрэча нагадвала трэніроўку ў адны вароты. Лік 7:0 кажа сам за сябе. Нашы футбалісты ўвесь час ішлі і ішлі ў нападзенне. Умела кантралявалі цэнтр поля, часта ўключаліся ў нападзенне паўабаронцы Булей і Гаршкалёў. Старанна гулялі ўсе нападнікі: Грышкевіч, Сялевіч, Кароль, Кажухоўскі, Хілабок. Акрамя Хілабка ўсё забівалі галы. Не пашанцавала абаронцам. Ім даводзілася зрэдку ліквідаваць рэдкія напады смаргоньскіх футбалістаў".* (Н. Дзелянкоўскі //Уперад. 29 ліпеня 1961. № 91)

*"У чарговай сустрэчы на першынство вобласці лідзяне сустракаліся з камандай Гарадзенскага сельскагаспадарчага інстытута. З першых хвілін гульні стала ясна, што гарадзенцы - каманда дружная, гуляе зладжана. Уся першая палова гульні прайшла пры перавазе лідзян. Яны добра атакавалі, імкліва праходзілі па краях, білі па варотах. У адзін з такіх вострых момантаў абаронцу госцей нічога не заставалася, як затрымаць рукамі мяч, які ішоў у вароты. Адзінаццаціметровы ўдар. Б'е Кожухоўскі - гол!*

*Другая палова гульні пачалася наступам гарадзенцаў. Гульня ў нашых футбалістаў, як кажуць разляпілася. Адчуваецца стомленасць гульцоў, якія два дні назад гулялі адказную сустрэчу. Асабліва ненадзейна гуляе абарона. Цэнтральны абаронца Яраслаўцаў пасылае мяч абы-куды. У выніку яго памылкі гарадзенцам удаецца зраўняць лік. 1:1".* (А. Краска. // Уперад. 1 жніўня № 92)

*"Футбалісты нашага горада ў пятніцу сустракаліся з віленскай камандай "Світанак", якая ўдзельнічае ў першынстве Літвы ў першай групе. На першых хвілінах госці пасля ўдала разыгранай камбінацыі адкрылі лік. Затым нашы футбалісты ўсё часцей пачалі прарывацца да чужых варот. Вось мяч трапляе ў штангу пасля ўдару Гаршкалёва. Б'е Кажухоўскі - ізноў у штангу. Неўзабаве прызначаецца штрафны ўдар. Госці вышыхтоўваюць "сценку". Закрыты сваімі гульцамі брамнік гасцей не змог узяць мяч прабіты Кажухоўскім. 1:1.*

*Пасля перапынку літоўцы забілі другі гол. Гульня ажывілася. Прарыў Кажухоўскага, якога добра вывелі на ўдар, - і лік ізноў зраўняўся. Незадоўга да канца сустрэчы ў вароты гасцей быў забіты трэці мяч. Лідзяне выйгралі. 3:2.*

*Ва ўсіх звёнах нашай каманды назіралася добрае ўзаемадзеянне. Добра гуляла абарона на чале з Яраслаўцавым. Паўабаронцы Гуркін і Гаршкалёў вельмі дапамагалі нападзенню, яны завязвалі шматлікія напады. Старанна гулялі крайнія нападнікі Караблёў і Грышкевіч".* (А. Ільянок // Уперад. 8 жніўня 1961 г. № 95)

**Два інтэрвію дзесяцігадовай даўніны.**

**Кажухоўскі Уладзімір Уладзіміравіч**. У мінулым цэнтральны нападнік. Рост 168 см. Нарадзіўся 21 лютага 1942 г. Бацька - Уладзімір Віктаравіч, рабочы Лідсельмаша, маці - Леанарда Антонаўна, дзявочае Сварабовіч, з Беняконь, хатняя гаспадыня. Дзед з Бярозы Картузскай. Бацька да вайны працаваў на чыгунцы. Жылі ў хатцы каля крамы "Рамонак". Бацька ваяваў у Польскай Арміі Людовай.

Вучыўся ў 2-й школе, у 1959 г. скончыў. Пайшоў працаваць на ЦЭЦ, жаніўся. Увосень 1961 г. прызвалі ў войска, служыў у Роўна, Магілёве, Менску. Вярнуўся - паклікалі на электравырабы. Прапрацаваў там да 1974 г. На лаках папрацаваў трохі. Апошнія гады перад пенсіяй - у трэцім аўтакамбінаце. Пасля выхаду на пенсію працаваў электрыкам у фірме ПА "Тэхмаш".

Пачынаў гуляць у варотах. Аднойчы, калі гулялі таварыскую гульню і мы прайгравалі, паставіў запаснога брамніка і пайшоў у нападзенне. Забіў, удала згуляў - выйгралі, і застаўся ў нападзенні. Першым маім трэнерам быў Валер Іванавіч Жазуркевіч, ён рыхтаваў школьныя каманды, потым Якушык Міхась Фёдаравіч. Была моцная юнацкая каманда, там мяне ўбачылі. Запрасілі гуляць за ЦЭЦ. Два гады пагуляў. Былі моцныя каманды "Дынама" - турэмная, капітан Літэнка, вельмі магутна гуляў, нападнік, на мяне паўплываў - удар, бег, калі турму расфармавалі ён з'ехаў у Ваўкавыск. У ЦЭЦ трэніраваліся самі, кіраваў камандай Шыманоўскі. У войску гуляў спачатку за полк, у Гародні і Магілёве, потым за СКА Менск, і ў Магілёве за "Спартак". Ледзь не выйгралі ў 1963 г. першынство Беларускай вайсковай акругі. Практычна займаўся футболам, усе ўмовы былі створаны.

Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Ліду, мяне адразу паклікалі на завод электравырабаў. Дырэктар завода Федасеенка паспрабаваў сабраць увесь футбольны цвет горада, вельмі многае рабіла Папова, прыходзіла на гульні. Трэніраваліся мы два разы ў тыдзень, пасля войска самому давялося трэніраваць каманду электравырабаў.

Лепшы мой гол я забіў камандзе абутковай фабрыкі, пад вострым кутом Лятохіну, практычна не павінен быў патрапіць, у дзявятку ды яшчэ з лёту. Мы тады прайгралі. Забіваў у асобных матчах па 5 галоў. У мяне быў добры рывок, высокая стартавая, скакаў

добра, біў з дзвюх ног. У нас дома была карова, прывяжу і гуляць, маці прыходзіла, калі нясе дубец, значыць будзе. Дома ганяў - ставіў лаўкі. З Гаршкалёвым гулялі разам некалькі гадоў. Я ведаў куды ён дасць, ён мяне адчуваў.

Лепшыя.

Лепшы абаронца - Камолаў з "Лакаматыва", ён старэйшы за мяне, гуляў за аўтазавод у Менску, магутны, тэхнічны, з рызыкай гуляў і любіў гуляць. Яраслаўцаў - вельмі вытрыманы на полі, жорсткі. Маркевіч гуляў за "Сельмаш".

Брамнікі - Сева і Рум. Як брамнік Сева Рума пераўзыходзіў, але ў Севы былі моманты, калі нервы сваволілі. Ён сярод брамнікаў лепшы. Лятохін Севе саступаў, але для мяне ён быў вельмі нязручны брамнік - выходжу сам-насам, ці ў яго ці бярэ. Пахомаў яшчэ быў, адчайны, ляцеў у ногі бясстрашна. Паўабаронцаў цэлая група: Гаршкалёў, Сілевіч, Булей, Драздоў, Арэхаў, Белан, лепшы - Булей.

Лепшы нападнік - Франц Кароль, рост, вага, удар. З'ехаў у Гусь Крыштальны галоўным інжынерам. Хілабок - магутны, агрэсіўны, Шубін Валодзя падаваў надзеі.

У 1966 г. загінуў дырэктар завода электравырабаў Федасеенка. Нас пачалі актыўна запрашаць у іншыя каманды, сыходзілі з-за кватэр. Кватэру я, дарэчы, атрымаў на электравырабах.

Жонка мая - бухгалтар. У дзень вяселля была фінальная гульня на кубак горада, мне трэба было гуляць. Мы выйгралі гульню, я гол забіў. Нявеста сядзела на гульні ў белай сукенцы, яе закідалі кветкамі. Ставілася да футболу звычайна.

У 1974 г. сарваў нагу падчас гульні з "Букавінай" - надрыў звязкаў, нага пачала боўтацца, кульгаю дагэтуль. Гуляў трошкі перад пенсіяй за каманду ветэранаў аўтакамбіната.

Тады не пілі. Іншае стаўленне да футболу, калі не трапляў у склад - перажываў.

**Яраслаўцаў Уладзімір Фёдаравіч**. Абаронца. Рост 162 см. Вага 70 кг. Нарадзіўся 9 траўня 1939 г. у Варонежскай вобласці ў пас. Атрожка. Бацька - Яраслаўцаў Фёдар Сямёнавіч - чыгуначнік, маці - Аляксандра Іванаўна. У Ліду прыехалі да вайны. У канцы чэрвеня 41-га нас эвакуявалі, вывезлі. Бацька быў паранены. Пасля вайны яго зноў сюды ў Ліду перавялі. Перавозілі нас усіх сем'ямі. Бацька працаваў памочнікам машыніста, апошнія гады - машыністам. Жылі мы на Данскога. Было нас 5 братоў і 3 сястры, я трэці. Хадзіў у 10 школу. Да войска гуляў за "Лакаматыў". Прыйшоў з войска - каманд шмат было - любыя арганізацыі выстаўлялі свае каманды. Да мяне падышлі: "Ідзі да нас на Завод электравырабаў". Падалі маё прозвішча Федасеенку. На гарвыканкаме тады вырашалі пытанні працаўладкавання. Да войска ў мяне была спецыяльнасць трактарыст-машыніст. Пайшоў я слесарам - інструментальшчыкам, вучыўся ў Паўла Казлоўскага. Дапрацаваўся да 5 разраду. На пенсіі з 1996 г.

У футбол гуляў 20 гадоў з 1960 па 1980 г. Я ўжо перастаў, неяк падыходзіць Сямёнаў: "Віктар Фёдаравіч можаш яшчэ пагуляць. Прыходзь". Я яшчэ пару гадоў пагуляў. Гуляў толькі за Электравырабы і зборную горада. Першынство вобласці фактычна наш завод выйграў. Але базы ў нас не было. Волкаў сказаў: "Я бяру на сябе". Булей шмат даў, фізічна падкачаў, у іх на Абутковай клуб быў. Грошай не плацілі. На першынстве горада ў дзень гульні плацілі 1,5 рублі, на вобласці - па 2 рублі. На гэтыя грошы можна было паснедаць, паабедаць і павячэраць. Потым талоны пачалі даваць. Сюды да нас у Ліду прыязджалі: з Менска інстытут фізкультуры, яны не раз прыязджалі, з Вільні. Шмат самі ездзілі - у Вільню, Менск. Гулялі калектыўна. Усе ўжо жанатыя былі. На футбол ездзілі з сямейнымі скандаламі. Сябар быў - марак, прыехаў у госці, я яго з дачкой пакінуў, жонка на працы была. Прыходжу, ён з ёй на руках матроскую чачотку адбівае. Мыліся пад халоднай калонкай каля стадыёна. Волкаў і Федасеенка ўдваіх на футбол хадзілі, сядуць двое: "Мае выйграюць! "Не мае!" Неяк я вырашыў сысці на абутковую. Там мне лепшыя ўмовы прапанавалі. Я ўжо звольніўся, два тыдні не працаваў. Федасеенка вярнуўся з адпачынку, выклікаў мяне: "Ты што Электравырабы на "Абцас" змяняеш, заўтра ж выходзь на працу". Так я і застаўся. Сябравалі. Вучыўся толькі Хілабок у Малахаўцы і Кароль скончыў тэхнікум. Салдатаў у зборную горада нельга было браць. У мой час гулялі.

Брамнікі: Аляксееў 1938 г.н. пад 190 см., з ім гуляць было лепш, ростам вышэй. Аляксееў шмат шумеў. Лятохін Жора 1937 г.н., "Руды" паслабей на выхадах.

Абаронцы: Пра сябе: нападнікі мяне баяліся. Спартовая злосць была. У мяне мэта была адабраць мяч. Па нагах атрымліваў. Глядзеў за мячом. На мяч ішоў рэзка. Локцем, пад бок - гэта бывала. Казлоўскі Стась - правы абаронца. Аляксандр Белан 1942 г.н.- гуляў за абутковую.

Паўабаронцы: Гаршкалёў - вельмі сціплы гулец, добра бачыў поле, любіў гуляць у пас. Ён гуляў за "Прамень", потым за абутковую. Булей Леанід Аркадзевіч - чэпкі, добра біў штрафныя. Коля Белан - чэпкі, вёрткі, мяч мог патрымаць. Іван Сялевіч "Качка і Ясь" 1939 г.н. - правы паўабаронца. Нападнікі: Хілабок Ігар "Хілы" 1939 г.н. - правы інсайд, высокі, рэзкі, добра ў адборы гуляў, біў з правай і левай. Добра падаваў. Скончыў Маскоўскі інстытут фізкультуры, трэніраваў моладзевую гарадскую каманду, потым у Маладзечна працаваў, потым у Маскву з'ехаў.

Кароль Франц 1936 г.н. - левы інсайд. Высокі, добры ўдар з левай. Скончыў Лідскі тэхнікум, працаваў інжынерам. Кажухоўскі "Кажух" 1942 г.н. цэнтральны нападнік - з нічога мог стварыць гол, чэпкі, шмат крычаў. Грышкевіч Збышак - "Збых", 1943 г.н. - вельмі добры правы крайні нападнік.

Лепшы брамнік Ліды - Аляксееў.

Лепшыя лідскія абаронцы: Сухоцкі Гена, Бутэнка Генадзь - абодва з Абутковай, Віця Сямёнаў 1949 г.н. добра поле бачыў.

Лепшыя паўабаронцы: Гаршкалёў Валер, Захватовіч Рыгор, Булей Леанід Аркадзевіч. Лепшыя нападнікі: Кажухоўскі, Грышкевіч. Каманда 1960-х - лепшая, добра былі фізічна гатовыя.

Футбол моцна не дапамог. Бачыш, з палачкай хаджу.

***В. Сліўкін.***

# Беліцкі павет

Традыцыйна, гаворачы пра пра адміністрацыйную адзінку **Лідскі раён**, мы згадваем яго папярэдніка - **Лідскі павет** - які з 16-га стагоддзя паспяхова праіснаваў да 1939 года, мяняючы сяды-тады межы то ў бок павелічэння, то ў бок змяншэння. Аднак на тэрыторыі Лідскага раёна ў сярэднявеччы існавала яшчэ адна адміністрацыйная адзінка - **Беліцкі павет**.

Беліцкі павет, як адміністрацыйная адзінка існаваў нядоўга. Таму не проста знайсці дакументы, паводле якіх удалося б устанавіць час яго існавання, а таксама геаграфічныя межы.

Сама Беліца - вельмі старажытнае паселішча, а як цэнтр вялікакняскай воласці згадваецца ў запісной кніжцы караля і вялікага князя Казіміра Ягелончыка пад **1486 годам**. Пры гэтым жа каралі і вялікім князі Казіміры Ягелончыку (памёр у 1492 годзе) адзін з маёнткаў **Голдава** ўваходзіць у склад вялікакняскага Беліцкага павету ("Герольд Litherland" № 3-4 (7-8), 2002 г.). Відавочна, што адначасова існавалі і воласць, і павет, Беліцкі павет не з'явіўся на месцы Беліцкай воласці, а быў сабраны з Беліцкай і яшчэ некалькіх валасцей, маёнткаў, двароў недзе каля 1490-га года. Сама ж Беліцкая воласць, як гаспадарчая адзінка прадаўжала існаваць у Беліцкім павеце, як сёння Гарадзенскі раён існуе ў Гарадзенскай вобласці.

У **1515 годзе** Беліца - ужо канкрэтна павятовы цэнтр. Вядомы прывілей караля і вялікага князя Жыгімонта Старога татарыну-талмачу (перакладчыку) Кульзюману (Кулзуману), які перадае яму прыгонных (васалаў) татарына Хазіяша ў Раготнай Беліцкага павету.

*"Жыгімонт, Божай міласцю кароль Польскі, вялікі князь Літоўскі і Рускі, князь Прускі і Жмудскі і інш.*

*Біў нам чалом талмач наш Кульзюман і прасіў у нас тых людзей у Беліцкім павеце, у Раготнай, каторых спярша трымаў татарын Хазіяш, на імя Петка Радывілавіча, і Доўнара, і Яна Вайткунавіча, і Рымкуса, і Мікуса, і Міхна, і Стэцка Саковіча, і Мартына Рустайкавіча, і Біцюса, і землі пустыя нашыя Манайстэпшчыны. Іна мы для яго службы тым яго пажалавалі, тых людзей з іх землямі і з тымі пусташамі Манайстэпічынамі яму далі з усім тым, як іх спярша той Хазіяш трымаў, няхай ён трымае, а нам служыў бы.*

*Пісана ў Гародні, лета Божага нараджэння 1515, дзень індыкта 15."*

Такім чынам на поўдзень Беліцкі павет сягаў на 12 кіламетраў за сённяшняе Дзятлава і ўключаў, як мінімум, населеныя пункты на гэтай дузе: Голдава - Беліца - Раготна.

Зразумела, што паўночнае Панямонне са Зблянамі, Сяльцом, Голдавым, магчыма, і з Лебядой уваходзіла ў гэты павет, прынамсі Збляны паводле інвентара 1627 года адносіліся да Беліцкага староства ("Зодчество Беларуси, XVI - середина VII в." Справочное пособие. Мінск. "Навука і тэхніка". 1991 г. ). Жалудок адносіўся да Троцкага ваяводства, баяры Жалудоцкія хадзілі на службу ў Троцкі замак. Дварэц**у 1516 годзе** адносіўся да Наваградскага павету. Здзецел (Дзятлава), які знаходзіцца паміж Раготнай і Беліцай, у канцы 15-га - пачатку 16-га стагоддзя адносіўся да Троцкага ваяводства.

Беліцкі павет геаграфічна быў заціснуты паміж Троцкім паветам (ваяводствам) і Наваградскім паветам, але ў Перапісе войска Вялікага Княства Літоўскага **1528 года** стаіць асабняком.

Па Перапісе войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 года Беліцкі павет павінен быў ставіць 12 коней:

***"БОЯРЕ БЕЛИЦКОГО ПОВЕТУ***

*Свиридовъ маеть ставити конь. Ян Мнекусъ маеть ставити конь. Матеи Мартинович маеть ставити конь. Авкгуштын в Межиречи плебанию мает, а сам у повете Белицьком маеть ставити конь. Юреи Довкгилович мает ставити конь. Довкгяловая вдова мает ставити конь. Станис Проствилович мает ставити конь. Омъброжеи Янович мает ставити конь. Криштофъ Бартькович мает ставити конь. Си-дор Климович мает ставити конь. Кн(я)зя Масалског(о) казак мает ставити 2 кони."*



У тым жа Перапісе войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 года запісана таксама: *"... Княз Мартуза Малікбашич в Белицком повете в Роготнои маеть ставити 2 ко-ни. Исупъ Кудаи Бактыевич з Белицы ж кон..."*

Павятовымі цэнтрамі ў гэты час былі ў бліжніх ваколіцах Васілішкі, Астрына, Скідзель, Наўгародак, Крэва, Ашмяна, Меднікі, Эйшышкі. Ні Ліда, ні Слонім, ні Ваўкавыск, ні Гародня павятовымі цэнтрамі не былі,

## Прыблізнае размяшчэнне Беліцкага павету







хаця той жа Лідскі двор ставіў 86 коней.

Найбольш верагодна, што Беліцкі павет праіснаваў да адміністрацыйнай рэформы 1565-66 года, калі з ранейшых валасцяў намесніцтваў і паветаў былі ўтвораны новыя вялікія паветы, як складовыя часткі ваяводстваў. У выніку рэформы ў нашым рэгіёне былі ўтвораны Лідскі, Слонімскі, Наваградскі паветы, паміж якімі і быў падзелены Беліцкі павет. Падзел быў праведзены найпрасцейшым спосабам па Нёману і Моўчадзі, г. зн. па натуральных межах. Пазней гэтыя натуральныя межы будуць парушаны, і лідскія землі перабяруцца за Нёман, на паўднёвы бераг.

Фактычна і праўдападобна Беліцкі павет перад падзелам - гэта частка сённяшняга Дзятлаўскага раёна і прынёманская частка Лідскага раёна.

Беліцкая валасць існавала да ўтварэння павету, паралельна з паветам і пасля яго ліквідацыі. Першы вядомы дзяржавец Беліцкі (1505 г.) князь Юры Аляксандравіч Гальшанскі (1480-1536 гг.) З 1507 года намеснікам Беліцкім стаў маршалак гаспадарскі, староста Лідскі і інш. Юры Іванавіч Ільініч, будаўнік Мірскага замка. У 1528 г. дзяржаўцам Беліцкім з’яўляецца Юры Мікалаевіч Радзівіл (1480-1541).

У 1557 годзе ва “Ўставе на валокі” Беліца - сярод “дзяржаў” (“дзяржанняў”) - вялікакняскіх уладанняў, якія знаходзяцца ў закладзе ў Радзівілаў.

Пасля 1557 года кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст падарыў землі Беліцкай валасці ў вечнае валоданне князю Мікалаю Радзівілу “Рудому” (1512 - 1584). У 70-я гады 16-га стагоддзя Мікалай Радзівіл “Руды” арганізаваў у Беліцы кальвініцкую грамаду. Больш за 80 гадоў у Беліцы збіраліся кальвініцкія сіноды, дзякуючы чаму мястэчка стала еўрапейскі вядомым.

Беліца абазначана на карце Макоўскага 1613 года.

Лепшыя гады Беліцы прыйшліся на пачатак 17-га стагоддзя, дзякуючы Радзівілам.

*На грунце матэрыялаў, пададзеных сайтам “Павет” матэрыял скампанаваў*
***Станіслаў Суднік.***

# Беліца ў першай палове 17-га стагоддзя

**БЕЛІЦА**. Паселішча на правым беразе Нёмана, пры ўпадзенні ў яго рэчак Маўчадкі і Нёманкі, паўстала як феадальны замак, каля якога паступова сфармаваўся пасад. У сярэдзіне XVI ст. Беліца аддадзена каралём Жыгімонтам Аўгустам князю Мікалаю Радзівілу Рудому, які ў 1553 г. перадаў прыходскі касцёл, што існаваў тут да гэтага, кальвіністам. Была таксама праваслаўная царква, дзейнічала пераправа цераз Нёман. У XVI - XVII стст. Беліца - мястэчка, цэнтр павету (буйнога староства).

Развіццё мястэчка ў першай палове XVII ст. ілюструюць інвентары 1627 і 1652 гг. У 1627 г. Беліца мела складаную архітэктурна-планіроўную структуру, якую складалі рынкавая плошча, 8 вуліц і завулак. Усяго лічылася 284 пляцы, з якіх 56,5 пуставалі. У 1626 г. забудова на 69,5 пляца згарэла. Заставаліся забудаванымі 158 пляцаў, на якіх значылася 170 двароў.

**Рынак** быў забудаваны ў 4 рады. З 26 участкаў 22 займалі па цэлым пляцы, астатнія - па 0,5 і 2 пляцы. Магістральнымі вуліцамі з'яўляліся **Габрэйская**, **Арлоўская**, **Лідская** і **Дакудаўская**. Габрэйская ішла ад рынка да панскай сядзібы, астатнія злучалі гандлёвую плошчу з дарогамі на Ліду, Арлова (сучасная Орля) і Дакудава. На іх лічылася адпаведна 20, 21, 27 і 28 участкаў. На Габрэйскай вуліцы размяшчалася габрэйская школа, на Дакудаўскай - рэфарматарскі збор са школай. Вуліцы былі забудаваныя нераўнамерна, хоць па шчыльнасці і набліжаліся да адпаведнага адзінства забудовы. Астатнія вуліцы не мелі непасрэднай сувязі з рынкам. Вуліца **Палявая**, самая вялікая ў мястэчку, налічвала 23 забудаваныя ўчасткі і 43 пляцы "пагарэлыя і пустыя", звязвалася з рынкам кароткім завулкам (4 пляцы). Вуліца **Нёманская** выходзіла да ракі і ўключала 55 участкаў (14 пустых), злучалася з рынкам вуліцай **Папярэчнай**, якая мела выгляд завулка (3 аднапляцавыя двары). Акрамя яе ад рынку ішла яшчэ адна вуліца **Папярэчная** (тупіковая, з 2 пляцамі).

Такім чынам, у 1627 г. у мястэчку меліся магістральныя веерныя, падоўжныя і папярэчныя вуліцы і завулкі. Гаварыць аб квартальнай планіроўцы яшчэ нельга, бо папярэчныя вуліцы не развітыя. Але тэндэнцыя да фармавання такой планіроўкі прасочваецца. Адметнай прыкметай было тое, што самымі працяглымі з'яўляліся не магістральныя, а падоўжныя вуліцы, якія ішлі да ракі і поля. Іх сувязь з рынкам ажыццяўлялася з дапамогай малых вуліц-завулкаў. Забудова была аднастайнай: з 158 забудаваных участкаў 144 мелі стандартны аднапляцавы надзел. Мяшчане валодалі ворнай (81 валока) і агароднай зямлёй.

Да 1652 г. архітэктурна-планіроўная структура Беліцы прынцыпова не змянілася. Дадаліся дзве папярэчныя вуліцы (адна з іх вяла ад рынка на могілкі), а старая "пярэчніца", якая ў 1627 г. яшчэ толькі складалася, атрымала выйсце да Нёмана. Забудова мястэчка прыкметна вырасла - да 234 двароў. На рынку значылася 28 участкаў, рэгулярна размеркаваных па чатырох лініях. Забудова шчыльная, сярэдні памер участка 3-4 пруты. Габрэйская вуліца павялічылася на 6 двароў. Дыферэнцыяцыя памераў дваровых надзелаў па баках вуліцы выяўлялася ў тым, што з аднаго боку пляцы мелі плошчу 3-4, з другога - 6 прутоў. Лідская вуліца павялічылася на 2 двары. Адзін яе бок забудаваны аднастайна (13 пляцаў па 6 прутов, 14 "дымоў"), супрацьлеглы (13 пляцаў з 15 "дымамі") мела ўчасткі памерам ад 3 да 8 прутов. Дакудаўская вуліца скарочана на 2 участкі. Былая вуліца Палявая, атрымаўшы выйсце на віленскую магістраль, стала іменавацца **Віленскай**. У параўнанні з 1627 г. яна зменшылася з 66 да 45 участкаў. Але, улічваючы тое, што ў 1627 г. 43 пляцы не былі заселеныя, можна лічыць, што ў цэлым гэтая вуліца не рэгрэсавала, захаваўшы аднароднасць забудовы (большасць двароў займала ўчасткі ў 3-4 пруты). Верагодна, вуліца Нёманская была пераназваная ў **Дворную**, якая вяла ад панскай сядзібы да ракі. Забудова вырасла да 64 участкаў.

Такім чынам, нягледзячы на адпаведны рост мястэчка, яно да сярэдзіны XVII ст. усё ж не дасягнула планаваных памераў. У гэты час існавалі і так званыя "валавыя" пляцы (35 участкаў за вуліцай Дворнай і 33 за Віленскай). Верагодна, гэта было прадмесце, якое яшчэ рыхтавалася пад засяленне, бо ўсе ўчасткі пуставалі. Разнахарактарнасць забудовы і адсутнасць адзінага стандарту сядзібных участкаў сведчаць аб тым, што забудова мястэчка складалася стыхійна, хоць і набыла некаторыя рысы рэгулярнасці. Лік ворных зямельных валок да 1652 г. (у параўнанні з 1627 г.) скараціўся з 81 да 66, з якіх утвораны 226 надзелаў. Было таксама 246 агародных участкаў, размешчаных у канцах Віленскай і Дворнай вуліц. З прычыны гэтага тэрыторыя паселішча была выразна падзелена на сялібную і вытворчую зоны.

Габрэйская і Дворная вуліцы вялі да княжацкай сядзібы. У 1627 г. яна падраздзялялася на двор, фальварак, абору і гумнішча. Двор размяшчаўся на беразе Нёмана. Ён быў прастакутным у плане, агароджаным з трох бакоў частаколам і замётам. З боку ракі агароджы не было, таму прыбярэжны ландшафт арганічна ўваходзіў у структуру комплексу. На ўездзе з боку мястэчка стаяла брама - двух'ярусны будынак каркаснай канструкцыі. У ніжнім ярусе знаходзіліся вялікія двупольныя вароты з брамкай, збітыя з дошак і ўсталяваныя на бягунах. Над праездам размяшчалася зальнае памяшканне з 4 вокнамі без шыбаў, завершанае гонтавым шатром і бляшаным купалам з флюгерам. Наверх з падворка вяла крытая гонтай вонкавая лесвіца, агароджаная з бакоў дошкамі. Верагодна, гэтая зала выкарыстоўваўся як вартавое і абароннае памяшканне.

Двор меў ярка выяўленыя рысы жылога комплексу. У цэнтры падворка размяшчаўся галоўны сядзіб-

ны дом, акружаны кветнікам, ля ўязных варот - яшчэ 2 жылыя дамы, кухня з кухонным флігелем; у тыльнай частцы двара - лазня, 3 жылыя дамы, 2 піўніцы, вялікая стайня, свіран.

Найболей архаічны выгляд меў "стары дом" каля ўязных варот, пабудаваны, верагодна, яшчэ ў XVI ст. Ён уяўляў сабой традыцыйнае трохкамернае жыллё з дзвюмя **хатамі** (у арыгінале *изба* ў значэнні "асноўны пакой") праз сені, уваход афармляў ганак з балюстрадай; страха гонтавая. Такі ж выгляд меў другі "стары дом" ля варот - двухкамерны, які складаўся з хаты і сеняў. У тыльнай частцы двара дамы мелі больш складаную кампазіцыю. Напрыклад, "стары домік ад саду" уяўляў сабой варыянт развіцця трохкамернай планіроўкі з дзвюмя хатамі праз сені. У сенях знаходзіліся два цагляныя пячныя коміны, тут жа былі адгароджаныя дзве гаспадарчыя каморы; у дамах - зашклёныя вокны ў алавяных рамах з аканіцамі, кафляныя печы, сталы і лавы. З кожнай з хатаў злучаўся пакой - неабаграванае аднааконнае жылое памяшканне, з якога быў выход у туалет. Дом меў гонтавую (верагодна, вальмавую) страху, вяршыню якой ўпрыгожвалі два металічных флюгеры. Чацвёрты дом па планіроўцы амаль аналагічны папярэдняму. Яго адрозненне ў рашэнні цэнтральнага блока памяшканняў складалася ў тым, што замест дзвюх тыльных камор утварыўся "бакавы" пакой, у сенцах уладкованы кухонны агмень. Да тарцоў прыбудаваны 2 квадратныя ў плане алькежы, некалькі прыпаднятыя адносна ўзроўню падлогі ў іншых памяшканнях. Звонку сцены мелі гліняную абмазку. Кампазіцыя дома ствараласся на кантрасным спалучэнні спадзістага асноўнага аб'ёму і вежападобных шатровых алькежаў. Стрэхі вянчалі 4 металічныя флюгеры.

Пяты дом, названы "крыжовым", уяўляў сабой прастакутны ў плане аднапавярховы будынак з мезанінам у цэнтры. Перад уваходам размяшчаўся агароджаны дошкамі ганак. Цэнтральную частку складалі сені і "бакавая" хата. У правай палове дома знаходзілася вялікая сталовая (6 чатырохстворкавых вокнаў, кафляная печ), у левай - хата, пакой і туалет. Дом меў гонтавую страху крыжападобнай формы (са шчытамі ў тарцах і ў завяршэнні мезаніна, які ўключаў дзве хаты і туалет), увянчаную 2 флюгерамі.

Галоўны дом - пабудова палацавага тыпу са складанай архітэктурна-планіроўнай структурай - дзяліўся на жылую і парадную часткі. Цэнтральны вузел складалі вялікія сені, асветленыя двума вокнамі, якія мелі тры коміны, кухонны агмень, разьбяныя дзверы і цагляную падлогу. З сеняў праз праём з двухстворкавымі разьбянымі дзвярамі (з геральдычнымі малюнкамі) траплялі ў сталовую, засланую дубовымі дошкамі. Яна асвятлялася 8 шасцістворкавымі вокнамі, апраўленымі




***Беліца.*** *Дом з алькежамі княжага двара. Галоўны фасад і план. Рэканструкцыя па інвентары 1627 г. 1 - сенцы; 2 - хата; 3 - пакой; 4 - туалет; 5 - алькеж.*




***Беліца.*** *“Крыжовы” дом княжага двара. Галоўны фасад, планы мезаніна і жылога паверху. Рэканструкцыя па інвентары 1652 г. 1 - сенцы; 2 - хата; 3 - камора; 4 - алькеж; 5 - сталовая; 6 - туалет; 7 - ганак.*

разьбянымі ліштвамі. Тут знаходзіліся буфет, афармлены балясамі, печ з паліванай кафлі з гербамі Радзівілаў, завершаная 4 вежачкамі. Над уваходам размяшчаўся балкон для аркестра, у які траплялі з другога паверху. Пасярод памяшкання з бэлькі перакрыцця звісала на жалезным ланцугу масіўная каваная жырандоля ў выглядзе кароны з 16 люстрамі.

На другі паверх можна было патрапіць толькі па вонкавай лесвіцы, якая злучала ганак ніжняга і галярэю верхняга паверхаў. Галярэя атачала верхнюю частку дома з трох бакоў. З яе траплялі ў верхнія сені, з якіх двое дзвярэй вялі на балкон сталовай і ў залу.

Супрацьлеглая жылая частка дома спланаваная па анфіладнай сістэме. З сеняў першага паверху разьбяныя дзверы вялі ў пакой, які меў 2 акны з разьбяной ліштвай і аканіцамі, печ з паліванай кафлі, камін. З ёй такімі ж дзвярамі злучаўся другі пакой з 3 вокнамі, кафлянай печчу, завершанай двума вежкамі; на сценах віселі тры партрэты. Адгэтуль праз унутраныя сенцы можна было патрапіць у трэці пакой і алькеж, якія злучаліся адзін з адным. Паміж трэцім пакоем і вялікімі сенямі размяшчалася ў тыльнай частцы хаты анфілада з 4 пакояў, у якой паслядоўна чаргаваліся памяшканні з камінным і камінна-пячным абагрэвам.

Своеасаблівая была вырашана аб’ёмна-prасторавая кампазіцыя дома. Ён быў пабудаваны з брусоў на каменным падмурку. У інвентары паказана, што дом быў пакрыты гонтай “у адзін дах”, г. зн. страха, нягледзячы на розную вышыню абодвух крылаў дома, была агульнай. Двухпавярховая частка з параднымі памяшканнямі завяршалася трыма купаламі: вялікім у цэнтры, абабітым белай бляхай і волавам, і двума малымі па баках, увянчанымі спічакамі з флюгерамі. У выніку ствралася поўная дынамікі асіметрычная кампазіцыя, у якой дамінавала парадная частка будынка. У той жа час асіметрыя ў нейкай меры ўраўнаважвалася вежападобным алькежам жылой часткі.

Кухонны дом меў тыповую трохкамерную структуру. Цэнтральным элементам з’яўляліся сені з кухонным агменем (з комінам на 4 слупах) і каморай у тыле. Справа нахадзілася вялікая пякарня з 3 цаглянымі “хлебнымі” печамі, злева - жылы блок, які ўключаў хату і 2 гаспадарчыя каморы. Страха гонтавая. Побач з гэтым будынкам стаяла кухня - аднакамерная зрубная пабудова, крытая дранкай, з вялікім агменем усярэдзіне. Лазня была трохкамернай, з белай хатай і лазневым памяшканнем праз сенцы. Яна завяршалася мезанінам, куды траплялі па лесвіцы з сеняў праз вонкавую галярэю. Гонтавы дах упрыгожвалі тры флюгеры. Вялікая стайня - значны па памерах прастакутны ў плане будынак з двухстворкавымі варотамі, збітымі з пілаваных дошак каванымі цвікамі “у тры рады” і ўсталяванымі на ўкапаных у зямлю драўляных бягунах (уверсе бягуны ўмацоўваліся ў адмысловых антабах). З боку падворка сцены канструктыўна ўзмацнялі падпоры, якія нагадвалі драўляныя контрфорсы.

Фальварачны падворак размяшчаўся непадалёк ад княжага двара, з боку якога ў агароджы знаходзілася трох’ярусная брама. У ёй над праездам размяшчалася вялікае зальнае памяшканне, акружанае адкрытай кансольнай галярэяй з балюстраднай агароджай, да якой з падворка вяла адкрытая вонкавая лесвіца. Па ўнутранай лесвіцы з залы другога яруса траплялі ў верхнюю залу, якая мела некалькі меншыя памеры ў плане, чым ніжняя, і абнесена па перыметры галярэяй. Будынак

завяршаў гонтавы шацёр, увянчаны металічным флюгерам. З боку поля ў агароджы размяшчалася другая брама - двух’ярусная, з залай над праездам, галярэяй і шатровай гонтавай страхой. Акрамя брамаў, былі яшчэ крытыя гонтай вароты да садоў і агародаў.

На падворку фальварка размяшчаліся 3 жылыя дамы, саладоўня, бровар, лазня, 4 свірны, стайня, 2 хлявы. Найболей простым па планіроўцы быў дом пастуха - традыцыйны трохкамерны будынак з белай і чорнай хатамі праз сені. З апошняй злучалася неабаграваная камора. У сенях знаходзіўся адкрыты кухонны агмень. Дом быў пакрыты над чорнай хатай саломай, над белай хатай і сенямі - дранкай. Флігель для работнікаў (“домік перад варотамі”) меў шасцічасткавую планіроўку: сені, дзве белыя хаты і тры каморы, прычым каморы пры хатах з’яўляліся спальнымі альковамі, камора пры сенях мела гаспадарчае прызначэнне. Такімі ж планіроўнымі рысамі адрозніваўся і дом аканома. Яго асаблівасці складаліся ў тым, што камора пры адной хаце была ператвораная ў жылы пакой, а ў сенях уладкованы кухонны агмень.

Саладоўня ўяўляла сабой трохкамерны будынак з сенямі ў цэнтры, якія злучалі хату і вазоўню. Бровар складаўся з сеняў і хаты. У сенях знаходзіўся горан з умураваным у яго вялікім піўным катлом. Хата з’яўлялася жылым памяшканнем, не мела перакрыцця. У каморы, прыбудаванай да хаты, была дашчаная столь. Лазня - двухкамерны будынак з сенямі-прылазнікам і лазневым памяшканнем з курнай печчу-каменкай. З 4 свірнаў тры з’яўляліся простымі аднапавярховымі будынкамі з засекамі ўсярэдзіне для захоўвання збожжа. Чацвёрты свіран быў двухпавярховым, са склепам (піўніцай). У склеп вяла крытая дранкай “шыя”, абкладзеная ўсярэдзіне прасмаленым дрэвам. Над свірнам знаходзілася сырніца, збудаваная з тонкіх брусоў, з невялікім “прыганкам”, на які вяла вонкавая лесвіца.

Да фальварка адносіліся гумнішча і абора. У гумнішчы, агароджаным дылямі і плотам (у дадзеным выпадку плеценым частаколам), знаходзіліся тры вялікія адрыны і 38 пераплотаў азяроду. Адна з адрын прызначалася для захоўвання неабмалочаных снапоў, другая сумяшчала функцыі пабудовы для захоўвання снапоў і іх малацьбы, г. зн. была роднасная гумну. У двух яе супрацьлеглых сценах былі ўладкованыя вялікія двухстворкавыя вароты. Трэцяя адрына прызначалася выключна для малацьбы снапоў, г. зн. фактычна з’яўлялася крытым токам. Да яе была прыбудована асець. Абора ўяўляла сабой самастойны гаспадарчы комплекс, не звязаны планіроўна з астатнімі часткамі сядзібы. Яна размяшчалася на супрацьлеглым беразе Нёмана. У аборным дварыдзённіку знаходзіліся вялікі хлеў з плеценымі сценамі, сырніца, свіран са склепам і жылы дом даглядчыкаў жывёлы - ускладнены варыянт трохкамернага жылля. У сенцах адгароджаная кухня з агменем, сцены якой у супрацьпажарных мэтах былі абмазаныя глінай. Правую частку дома складала вялікая чорная хата-пякарня з 3 вокнамі і глінабітнай печчу, у левай размяшчаліся белая (чыстая) хата і камора. Страха саламяная. Маёнтку належылі ставок і дзве рыбныя сажалкі.

У 1649 г. сядзіба перабудоўваецца, што было звязана з пажарам, які знішчыў шэраг будынкаў, у тым ліку і галоўны дом. Як паказвае інвентар 1652 г., сядзіба некалькі скарацілася па складзе пабудоў і стала больш кампактнай па планіроўцы. Пры гэтым прыкметна ўзрасла роля фальварка ў агульнай структуры ансамбля.

У 1649 г. замест яруснай Брамы на галоўным уездзе ў княжы двор пастаўленыя звычайныя двухстворкавыя вароты на драўляных бягунах. Каля варот захавалася апісаная ў інвентары 1627 г. вялікая стайня. Побач з ёй стаяў спіхлер са склепам. Яго гонтавы дах вянчала драўляная “галка”.

Галоўным у двары стаў стары “крыжовы” дом. Пры перабудове ў 1649 г. яго прынцыпова не змянілі, толькі да адной з хат далучаны алькеж, з пакоя ўтворана камора. Былі перароблены вокны - усе сталі “адчынятымі”, з акяніцамі і 8 жалезнымі прутамі, устаўленымі ў шуфляды. У перабудаванай з пакоя каморы захаваўся камін, з прычыны чаго яна не згубіла жылых функцый. Пры ёй з’явілася новая каморка, якая з’яўлялася таксама сенцамі, якія злучалі гэтую частку дома з падворкам. Новы алькеж быў двухпавярховым: унізе знаходзіўся падклет, наверсе - жылое памяшканне. Верагодна, алькеж меў характар параднага памяшкання - яго дзверы былі ўпрыгожаныя разьбой, усярэдзіне знаходзілася балюстрадная галярэйка тыпу антрасолі. Астатнія памяшканні прынцыпова не змененыя. З сенцаў па лесвіцы трапլялі ў верхнюю хату над ганкам, у якой было 4 акны і “печ дзівоснай кафлі белапаліванай”. Супрацьлеглая частка мезаніна некалькі змененая: замест пакоя - камора з адным акном без шыбаў і акяніц. У інвентары асоба падкрэсліваецца, што гонтавая страха хаты крыжападобнай формы, са шчытамі на ўсіх чатырох фасадах. Калі раней дом меў у завяршэнні два флюгеры, то пасля перабудовы ён атрымаў і трэці флюгер - над алькежам. Такім чынам, кампазіцыя дома ўскладнілася, стала асіметрычнай, больш дынамічнай і маляўнічай.

Чацвёрты дом двара названы ў інвентары 1652 г. “старым”. Яго сцены абмазаны звонку глінай, перад уваходам збудаваны ганак у тэхніцы “пруского мура”, які меў значныя памеры. У сенцах захавалася кухня, але яна стала асобным памяшканнем. У правай хаце 3 акны ў алавяных рамах “з прытворкамі засовістымі” і 22 жалезнымі прутамі, новая зялёная кафляная печ, 2 стала, лавы ля сценаў. Алькеж захаваў старое месцазнаходжанне. У гэтай частцы дома, дзе раней быў пакой з туалетам, утварыліся камора і каморка з туалетам. У каморы збудаваны камін і “хлебная” печ, дзякуючы чаму яна стала пякарняй. “Бакавая” хата пры сенцах атрымала сувязь з правай групай памяшканняў праз камору. Левая частка дома захавалася ў ранейшым выглядзе, толькі пакой была ператвораная ў камору і адсутнічаў туалет. У сувязі з гэтымі пераўтварэннямі планіроўка дома набыла анфіладныя рысы.

Далей інвентар 1652 г. называве тры “старыя апалыя” дамы. “Домік ад саду” (трэці ў папярэднім апісанні) захаваў ранейшую планіроўку, але жылыя пакоі пераўтвораныя ў каморы. Другі дом (“будыніна над Нёманам”) у інвентары 1627 г. адзначаны як лазня.

Да 1652 г. гэты будынак быў некалькі перабудаваны: жылая частка падзелена на хату і камору, знік мезанін, у завяршэнні адсутнічалі флюгеры. Лазня стала парной, з двума палкамі. Трэці дом, які быў у 1627 г. кухонным флігелем, зусім здрахлеў: у некаторых памяшканнях адсутнічалі дзверы, "страха апалая, гонтай крытая... шчыт адзін увесь выпаў..." Побач з гэтым домам над Нёманам стаяла старая кухня, "апалая" і "пустая". Пры двары існавалі два сады: адзін з грушамі і яблынямі, другі са слівамі і вішнямі.

Такім чынам, рэканструкцыя двара ў 1649 г. мела частковыя характар і выражалася ў рамонце і перабудове некаторых будынкаў.

Да фальварка ад двара вяла двух'ярусная брама каркаснай канструкцыі. Верхняе памяшканне атачала балюстрадная галярэя і завяршаў гонтавы шацёр з галавой, "галкай" і флюгерам. Справа ад брамы знаходзіўся дом аканома. Ён не быў прынцыпова зменены, толькі пакой пры адной хаце пераўтвораны ў камору і прыбудаваны "у зямлі" ганак, агароджаны дошкамі і крыты гонтай. Да 1652 г. зніклі адзначаныя ў інвентары 1627 г. "домік перад варотамі" і дом пастуха.

Забудова фальварачнага двара насіла перыметральны характар. У цэнтры знаходзіўся двухпавярховы са склепам свіран. Да склепа (піўніцы) вёў вонкавы ўваход з двума дзвярыма: вонкавымі рашэцістымі і ўнутранымі глухімі. Першы паверх выкарыстоўваўся як складское памяшканне, меў глінабітную падлогу і бэлечную дашчаную столь; на другім паверсе - сырніца з асобным уваходам праз вонкавую лесвіцу і галярэю, 4 незашклёныя акны з кратамі ў выглядзе "простых" баляс. Будынак завяршала двухсхільная гонтавая страха з тарцовымі дашчанымі шчытамі. У падворку захоўваліся старыя свірны - аднапавярховыя будынкі пад саламянымі стрэхамі, з засекамі ўсярэдзіне. Інвентар 1652 г. апісвае таксама "нова перарobленую" стайню, разгароджаную на малое і вялікае памяшканні, пакрытую саломай. Каля варот, якія вялі ў поле, пабудаваны два новыя спіхлеры, аб'яднаныя ў агульны корпус і завершаныя адзіным гонтавым дахам.

Абора перанесена на тэрыторыю фальварка, паміж фальварачным дваром і гумнішчам. Новая архітэктурна-планіроўная сувязь зрабіла лішнімі розныя жылыя і гаспадарчыя пабудовы, якія існавалі раней у складзе аборы, таму яе структура спрасцілася, стала больш кампактнай. У 1652 г. абора ўяўляла сабой замкнёны квадратны ў плане комплекс з унутраным дваром-дзённікам у цэнтры, па перыметры якога размяшчаліся 5 вялікіх рубленых хлявоў, пакрытых саломай. Да іх прыбудаваны 2 малыя хлявы. У разрывах паміж пабудовамі знаходзілася двое варот: да фальварачнага двара і гумнішча.

У забудове гумнішча таксама адбыліся адпаведныя змяненні. Калі ў 1627 г. малацілі і захоўвалі снапы ў адрынах, то ў 1652 г. існавала толькі адна адрына, прызначаная для захоўвання сена. Яна мела плеценыя сцены, саламяную страху, заснаваную, верагодна, на сохах. Для абмалоту снапоў служылі стадола і гумно. Гумно ў адрозненне ад стадолы мела акрамя току "прыстаронкі" уздоўж дзвюх падоўжных сценаў для захоўвання неабмалочаных снапоў. Стадола ж уяўляла сабой крыты ток; мела ў тарцы прыбудаваную асець. Існавала таксама шопа, дзе складаліся снапы перад асетной сушкай. Перыферыйныя часткі гумніща займалі два рады азяродаў на 15 і 11 праслаў. Такім чынам, уся гуменная вытворчасць прадугледжвала паветраную сушку снапоў з наступнай іх малацьбой у гумне і агнявую - у асеці, пасля чаго малацілі ў стадоле. Параўнальны аналіз тэрміналогіі інвентароў 1627 і 1652 гг. паказвае, што толькі да сярэдзіны XVII ст. у дадзенай мясцовасці фармуюцца ўстойлівыя паняцці: "гумно", "стадола" і "адрына".

Паміж фальварачным і княжым дварамі да 1652 г. склаўся асобны комплекс, які ўключаў жылы дом, саладоўню і квасную хату. Жылы дом, прызначаны для "гаспадыні" саладоўні, быў трохкамерным, з сенцамі ў цэнтры, хатай і каморай у правай і пякарняй у левай частцы. Меў глінабітныя падлогі, дашчаныя бэлечныя столі, вокны, забяспечаныя акяніцамі на драўляных бягунах, двухсхільную страху з дранкі са шчытамі ў тарцах. Саладоўня ўяўляла сабой двухкамерную зрубную пабудову, якая складалася з квасной хаты і азніцы. Хата ўключала сенцы і пакой з "простай" (верагодна, курнай) печчу.

Маёнтку належалі Беліцкая пушча, 13 азёр, 2 ставы на р. Магільне, стаў на Нёмане каля лідскага гасцінца з аднаколавым млыном. На наваградскім гасцінцы стаяла карчма, якая называлася "Занёманскай". Яна разам з пераправай цераз Нёман здавалася ў арэнду. Уяўляла сабой значны па памерах будынак трохкамернай планіроўкі з заездам у цэнтры які меў 2 вялікіх варот і 2 жолабы ўздоўж сценаў. Справа размяшчалася хата для пастаяльцаў з каморай для захоўвання купецкіх тавараў, злева - другая хата, у 1652 г. яшчэ не дабудаваная. Ва ўсіх памяшканнях, акрамя заезду, былі глінабітныя падлогі і дашчаныя бэлечныя столі, у хаце -2 акны ў драўляных рамах, печ з "простай" кафлі, 2 лавы, стол, лаўка. Увесь будынак завяршала агульная саламяная страха. Да тарца карчмы быў прыбудаваны дом арандатара, не апісаны ў інвентары.

У цэлым развіццё дадзенай сядзібы можна разглядаць як працэс фармавання адасобленых функцыянальных зон (жылых, гаспадарчых, вытворчых), аб'яднаных у адзіную тэрытарыяльную сістэму, якая першапачаткова была некалькі раз'яднаная, але ў 40-я гады XVII ст. стала больш кампактнай.

***Ю. А. Якімовіч.***

(Паводле "Зодчество Беларуси, XVI - середина VII в." Справочное пособие. Мінск. "Навука і тэхніка". 1991 г. )

---

*ЦДГА Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 176, арк. 1-4 аб; 39-52 ;*

*Там жа, спр. 179, арк. 2-29.*

# Лідскі астрог і яго лёс

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай, а галоўным чынам ужо пасля вайны 1812 года на тэрыторыі заходніх рэгіёнаў Беларусі пачала ўкараняцца пенітэнцыярная сістэма Расейскай Імперыі, пачалі будавацца расейскія турмы і іх асноўны від для нашых зямель астрогі. Астрог, як турма, у першую чаргу прызначаўся для ўтрымання перасыльных вязняў, а паколькі асноўным і самым цяжкім пакараннем у Расійскай Імперыі была катарга, то гэтых перасыльных катаржнікаў было поўна па ўсёй Расіі. Катаржнікі ішлі ў асноўным пехатою ў кайданах або без кайданоў. Падарожжа такое да Сібіры магло цягнуцца і год, і два.

Астрогі будаваліся спачатку ў губернскіх гарадах (у Менску - у 1825 г.), а пасля і ў павятовых.

У пачатку сакавіка 1831 года ваеннаму генерал-губернатару Віленскаму і Гарадзенскаму быў выдадзены загад *“...знайсці магчымасць будаўніцтва ў павятовым горадзе Лідзе астрога для размяшчэння палонных інсургентаў”*[1].

Месца пад астрог было выбрана ў канцы вуліцы Каменскай, на Гарадзенскім тракце *(цяпер гэта комплекс будынкаў Лідскай друкарні, адрас: Ленінская, 23)*.

Найбольш стары план Ліды вядомы нам - гэта план 1798 года, які захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве ў Маскве[2]. Копія гэтага плана прыведзена ў кнізе А. Краўцэвіча[3].

На тэрыторыі ўчастка, дзе меўся быць пабудаваны гарадскі астрог, у канцы XVIII стагоддзя знаходзілася рэдкая драўляная забудова. Па А. К. Краўцэвічу на тэрыторыі ўчастка не было сярэднявечнага селішча[4]. Астрог будаваўся на новым пляцы.

Можна думаць, што на працягу аднаго двух гадоў у горадзе Лідзе гарадскі астрог быў пабудаваны

На плане павятовага горада Ліды 1842 года[5] на тэрыторыі ўчастка ў легендзе пад літарай “і” паказаны “Гарадскі астрог”.

Паводле “Будаўнічага Статуту Расійскай Імперыі”[6] ў частцы патрабаванняў для турэмных будынкаў і астрогаў, такія будынкі ў абавязковым парадку павінны былі абносіцца сцяной, прычым мураванай. Як часовая з’ява ў цэнтральных губернях дапускаўся драўляны частакол (у заўральскіх і сібірскіх губернях мураваная



*План горада Ліды 1798 года.*

1. РДВГА, Масква, фонд 1243, воп.11, справа 23, аркуш 12аб.
2. Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў у Маскве (далей РДВГА),фонд 846, вопіс 16, справа 21529, частка 3, аркуш 49.
3. Крауцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст. Мінск, 1991, ст. 100.
4. Там жа, с. 99.
5. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў горадзе Гародні, фонд 11, вопіс 6, справа 297, аркуш 2.
6. Будаўнічы Статут Расійскай Імперыі. Спб 1891, дадатак X, с. 11.




***План Ліды 1842 года.***

сцяна не была абавязковай). На плане 1842 года ўчастак, заняты пад астрог быў абнесены мураванай сцяной[7], ці была такая сцяна на момант пабудовы, або гэта быў частакол, устанавіць не ўдалося.

На плане 1842 года відаць што астрог складаўся з двух будынкаў рознага памеру. З паўднёвага боку - двухпавярховы мураваны будынак з камерамі для вязняў. Паводле “Будаўнічага Статуту Расійскай Імперыі” абавязковай умовай для памяшканняў з камерамі для вязняў[8] была наяўнасць мураваных перакрыццяў са скляпеннямі (у тым ліку і са скляпеннямі на швелерах-рэйках). Праект двухпавярховага будынка астрога ў горадзе Ліда прадугледжваў драўляныя перакрыцці. Праз Ліду тады яшчэ не праходзіла чыгунка, а дастаўка коньмі рэек-швелераў з бліжэйшых станцыі Гародні або Вільні была звязаная са значным падаражэннем такога будаўніцтва.

Будынак на паўночным баку ўчастка пазначаны на генплане 1869 года і ўключаны ў эксплікацыі як мураваны вартавы дом з трыма пакоямі[9]. У цяперашні

7. РДВГА, Масква, фонд 1243, воп. 11, справа 23, аркуш 12 аб.

8. Будаўнічы Статут Расійскай Імперыі. Спб 1891, дадатак X, с. 11.

9. ИП Басов Е.П. Здания типографии г. Лида, ул. Ленинская, 23 Гродненской области. Объект 03.10 - КНИ. Комплексные научные исследования (изыскания). Исходные данные, пояснительная записка. Чертежи. Захоўваецца ў бухгалтэрыі Лідскай друкарні.




***План Ліды 1842 года, пад літарай “і” доследны ўчастак.***




***Узноўлены план астрога:*** *1. Двухпавярховы будынак з камерамі для арыштантаў (вядомы да 1842); 2. Вартавое памяшканне (пабудаванае да 1842 г.); 3. Новы будынак, пабудаваны да 1869 г.; 4.Мураваная сцяна.*

час гэты будынак на ўчастку адсутнічае. На тым жа плане быў пазначаны "новазбудаваны мураваны будынак кухні, пральні, лазні і склада. Гэты будынак часткова адпавядаў аднаму з будынкаў, які існаваў да 2010 года.

Фактычна дакументальна недзе каля 1869 года Лідскі астрог перастае існаваць, а комплекс яго будынкаў пачынае называцца **Лідскі турэмны замак**.

У 1992 годзе Дзяржаўна-камерцыйнае кіраванне па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў архітэктуры Гарадзенскага аблвыканкама зрабіла капіяванне матэрыялаў па гісторыі архітэктуры Гарадзенскай вобласці ў Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве ў Маскве. Былі вывучаныя матэрыялы па "Перабудове Лідскага турэмнага замка Гарадзенскай гу-




***План друкарні, сумешчаны з планам астрога:*** *1. Двухпавярховы будынак (вядомы да 1842); 2. Страчанае вартавое памяшканне; 3. Новы будынак, пабудаваны да 1869 г.; 4.Мураваная сцяна, прыбудаваная ў 1908 г.; 5. Будынак, пабулдаваны пасля 1869 года; 6. Прыбудова, пабудаваная каля 1908 г.; 7, 8, 9, 10. Прыбудовы і будынак, пабудаваныя друкарняй пасля 1964 г.; 11. Галоўны ўваход, пабудаваны ў 1908 г.*

берні 1869 года"[10]. Былі зробленыя выпіскі з чарцяжоў планаў "А" і "Б" турэмнага замка і экспелікацыя. План "А" з'яўляўся генпланам усяго ўчастка, на якім быў зафіксаваны двухпавярховы мураваны будынак, аднапавярховы мураваны будынак з паўночнага боку ўчастка і новы аднапавярховы з усходняга боку ўчастка. На плане "Б" былі адлюстраваныя праектны план новага мураванага аднапавярховага будынка для Лідскага турэмнага замка.

Да 1869 года з усходняга боку ад двухпавярховага аб'ёму збудавана аднапавярховы цагляны будынак для гаспадарчых мэт (будынак кухні, пральні, лазні і склада) з усходняга боку ўчастку, а пазней да канца 19 стагоддзі, на адлегласці 8 м на ўсход яшчэ адзін. Падчас рамонтаў 1903-1908 гадах будынка злучыліся цаглянай прыбудовай, утварыўшы адзіны аб'ём.

У 1903-1908 гадах колішні комплекс будынкаў Лідскага астрога, а цяпер Лідскай турмы падвяргаўся рамонту, што відаць з двух каштарысаў, якія захоўваюцца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў горадзе Вільні. Не выключана, што менавіта ў гэты перыяд драўляныя перакрыцці двухпавярховага будынка былі замененыя на мураваныя са скляпеннямі на рэйках-швелерах. Тады абсалютна лагічнай з'яўляецца датыроўка Лідскага БТІ "1908 год" - у практыцы падатковыя інспектары датавалі пабудову часта па даце апошняга рамонту або перабудовы. У гэтыя гады аднапавярховы мураваны будынак быў абкладзены характэрнай жоўтай цэглай.



Лідская турма на Каменцы. Відзён асноўны корпус і вартавая вышка

У Лідскай турме сядзелі ў зняволенні ўдзельнікі рэвалюцыйных падзей 1905-07 гадоў. У польскі перыяд дуследны аб'ект зваўся "Турма на Каменцы" або проста "Каменка". 21 верасня 1933 года тут быў павешаны Манькоўскі Міхаіл Міхайлавіч, 56 гадоў, прыгавораны 20 верасня Віленскім вайскова-палявым судом да смяротнай кары за выведніцкую дзейнасць на карысць СССР. У 1936 годзе тут утрымоўваліся ў зняволенні найболей актыўныя ўдзельнікі штрайку на фабрыцы "Ардаль" і шклозаводзе "Нёман". Так у чэрвені 1936 года тут утрымоўвалася адразу каля 70 рабочых шклозавода "Нёман".

У гэты час справа ад уваходу на вуглу стаяла вартавая вышка. Вышка была мураваная, са шкляной страхой і зашклёнымі бакавымі шыбамі. Вартавы быў захаваны ад ветру і мог бачыць двор і тэрыторыю за сцяной. Выгляд вежы захаваны на адным з малюнкаў.

У канцы 30-х і пры "Першых саветах" турма на Каменцы выкарыстоўвалася па прызначэнні. Прынамсі Анатоль Кулеш, 1927 г.н. памятае, што ў 1940 годзе на вышцы стаяў вартавы. Хлопчыку запомніўся штык, які пабліскваў у месяцавым святле. Пры "Першых саветах", відаць, быў пабудаваны і барак




Схема размяшчэння будынкаў Лідскай турмы на Каменцы (паводле А. Куляша): 1- уваход; 2-на пешым паверсе вартавое памяшканне, на другім лазарэт; 3-карцар; 4-вартавая вышка; 5-корпус зкамерамі; 6-кухня; 7-лазня; 8-пральня; 9-сталоўка; 10-туалет; 11-драўляны барак; 12-газоны.

10. РДВГА у Маскве, фонд 1956, вопіс 1, справа 15, аркуш 7.

(на схеме пазіцыя 11).

Сцяна вакол турмы была рассунута і ахапіла значна большую плошчу, чым тая якая прадугледжвалася для астрога. Паводле Анатоля Куляша ўся сцяна была складзена з аднатыпнай цэглы. Трэба думаць, што вартавое памяшканне, лазарэт, карцар, вышка і сцяна будаваліся ў адзін час, падчас капітальнага рамонту 1908 года.

Пра турму ў час вайны даюць уяўленне ўспаміны польскага афіцэра Драмовіча, якому давялося там сядзець:

***"У вязненні на Каменцы***

*І вось Вольф аднаго ранку паведаміў мне, што заўтра а 10-й гадзіне я павінен быць ў Кайлера ў гэбітскамісарыяце. Я папытаўся, з якой мэтай. Ён адказаў, што не ведае, мусіць, і фактычна не ведаў. Калі ў вызначаны час наступнага дня я прыйшоў у пакой-пачакальню перад вядомым мне ўжо з даўна абшырным кабінетам Кайлера (калісьці былі гэта школьныя класы, цяпер трохі пераробоеныя, маёй гімназіі), дзверы кабінету прыадчыніліся, і я адразу каля вялікага стала з некальнімі крэсламі пры акне заўважыў двух рослых нямецкіх жандармаў у касках, з вісеўшымі на грудзях бляхамі.*

*- Гэта той! - сказаў Кайлер і, зрабіўшы невялікае паўкола, усеўся за бюро і пачаў нешта там пісаць. Жандармы падышлі да мяне. адзін з іх адазваўся па нямецку: "Bist du Verhaftet" ("Ты арыштаваны"), а другі пачаў мяне абмацваць і абшукваць кішэні. Забралі мае дакументы і дробныя прадметы асабістага ўжытку, з педантызмам расклалі на стале. Пасля чаго жандарм сказаў мне ісці з ім. Рабілася ўражанне, што ўсё, што датычыла маёй асобы, было ўжо перад тым дакладна абгаворана і падрыхтавана. Я асабіста быў дзіўна спакойны і зусім не зламаны гэтым неспадзяваным арыштам. Пасля вываду мяне з будынка гэбіткамісарыяту, ідучы ў суправаджэнні двух жандармаў, я жадаў толькі сабе, каб нехта знаёмы мяне заўважыў і мог паведаміць найбліжэйшым пра мой арышт. Нажаль, на ўсім адносна кароткім маршруце, які ішоў проста да турмы на Каменцы каля вул. 3-га Траўня, я не ўбачыў нікога са знаёмых.*

*Пара моцных удараў ботам жандарма ў жалезную браму, і акенца "жыдок" адкрылася, а праз хвілю са скрыгатам ключа адчыніліся дзверы ў браме. Каля ўзброенага карабінам нямецкага ахоўніка стаяў ужо нейкі сяржант з ТОДТ-а з моцна пасівелым на скронях воласам, катораму адразу з адпаведнай суправадзілаўкай перадалі мяне жандармы, і самі адразу пайшлі. Вартаўніком, які праводзіў мяне праз вартоўню да турэмнай камеры, як пазней аказалася, быў бельгіец, які нават слаба размаўляў па-нямецку і ўцэлым быў непрыхільна настроены да немцаў, якія мабілізавалі яго некалькі месяцаў перад гэтым.*

*Маленькая камера з нарамі з дошак. На іх складзены два коцы (байкавыя коўдры). Столік на металічных ножках, а збоку табурэтка. У куце прымітыўны мыцельнік. Вялікі бляшаны збан і два старыя вядры. Высока ўгары закратаванае акенца - адзіная слабая крыніца святла. Вартаўнік-бельгіец ужо на ўваходзе з'арыентаваўся, што мае дачыненні з палякам, трохі як бы польшчыў, нешта там ламанай нямецкай мовай гаварыў, што мы знайходзімся ў падобнай сітуацыі, і адыходзячы абяцаў мне заўтра раніцай прынесці снеданне. Заскрыгатаў ключ у замыканай камеры, а я разаслаўшы коцы, лёг на нары і пасля некалькіх хвілін хаатычных роздумаў заснуў.*

*Мой побыт у вязніцы, пакуль яшчэ кароткі, не ўвёў мяне ў стан прыгнечанасці, або занепакоенасці пра мой далейшы лёс. Усё ж немцы ў адносінах да мяне не маюць ніякіх абцяжвальных довадаў. Да цвёрдай пасцелі і халодных начэй я прывык яшчэ ад вераснёвай кампаніі 1939 года. Турэмны паёк: кава, кавалак чорнага хлеба, нейкі там суп - Бог ведае чым запраўлены - а да таго дзве кароткія прагулкі на працягу дня ў суправаджэнні гаваркога, але, наогул, прыемнага вартаўніка - бельгійца. Ад яго даведаўся, што адзіным вязнем на тэрыторыі ўсёй турмы ў сапраўднасці з'яўляюся толькі я. Астатнія, гэта хутчэй не вязні, а габрэі - работнікі, можа з дзвесці чалавек, якія днём агулам працуюць у горадзе, а на ноч пад наглядам вартаўнікоў (бельгійцаў, галандцаў і немцаў пажылога ўзросту) вяртаюцца ў турму, каб пераспаць у тым вось бараку, які знайходзіцца пасярод турэмнага пляцу, а наступнаю ранняй гадзінай зноў рушыць на працу.*

*Ужо падчас маёй першай прагулкі бельгіец прыадчыніў дзверы барака, каб паказаць мне тую начлежку. Унутры барак на абодва яго бакі запаўнялі два рады дошак, пакладзеных адна пры другой па ўсёй даўжыні барака. На дошках ляжалі ў беспарадку часткі вопраткі, нейкія скруткі, лахманы. Тут могуць, як казаў мне з усмешкай бельгіец, маладыя яўрэі (паколькі большасць з групы працоўных яўрэяў складала моладзь абоега полу) гізаваць узаемна цэлую ноч. Бо з-за недахопу месцаў спяць адно пры другім, як сардыны ў бляшанцы.*

*- Яны ўжо ведаюць, што іх чакае, то на астатак няхай сабе пажывуць! - жартаваў вартаўнік.*

*Калі я спытаў, колькі ў прынцыпе ёсць тых вартаўнікоў у турме і то рознай нацыянальнасці для нагляду за такой вялікай колькасцю яўрэяў, бельгіец адказаў, што не шмат, можа з дванаццаць, не лічачы людзей, занятых на кухні і ў майстэрні, якая зараз не працавала.*

*Я хацеў хоць раз убачыць тых яўрэяў, якія ішлі на працу або з працы. Можа заўважыў бы там каго-небудзь са знаёмых яшчэ са школьных гадоў. Разам з тым, так складвалася, што я ў гэты час знайходзіўся ў замкнёнай камеры, і толькі раз да маіх вушэй дайшла гаворка і воклічы яўрэяў, якія вярталіся з працы.*

*Праз некалькі дзён ад пачатку майго ўвязнення, недзе так у поўдзень, калі я ў суправаджэнні майго вартаўніка адбываў сваю паруххвілінную прагулку па турэмным пляцы, у праходзіўшым міма мяне беларускім паліцыянце ў чорным мундзіры і нямецкіх сапёрскіх ботах я пазнаў малодшага брата маёй таварышкі з гімназіі, поўненькай і сімпатычнай*

*бландынкі. С. Р. Праходзячы каля мяне гэты паліцыянт уціснуў мне ў руку змяты шматок паперы разам са словамі: "Чакаю адказу адразу".*

*Мінула хвіліна, і калі мой вартаўнік-бельгіец зацікавіўся нейкай варонай, якая падскоквала і кульгала на краі пляцу, зірнуў у паперку: "Хочам пану дапамагчы з уцёкамі. Ці вы згодныя?" - напісаў нехта тоўста алоўкам. Паперку я адразу схаваў у кішэню, бо і бельгіец прыблізіўся да мяне выразна развяселены.*

*- Быў ды добры бульён, бо птушка была тлустая, але, хоць кульгавая, паляцела за мур! - пажартаваў дзе па-польску, дзе па-нямецку.*

*Я тым часам абдумваў змест цыдулкі. Каб хаця гэта не правакацыя? Хто яе прыслаў? Але перш за ўсё гэта паляк і ведаў мяне па сольных, дэкламатарскіх выступленнях на школьнай эстрадзе.*

*Калі мы ўжо ў трэці раз абходзілі драўляны барак - яўрэйскую начлежку, я заўважыў паліцыянта, які ішоў у нашым кірунку. Мінаў нас, і я, гледзячы яму ў вочы, кінуў адно слова: "Згода."*

*Наступнага дня, недзе так пад абед у дзвярах маёй камеры заскрыгатаў ключ. На гэты раз дзверы адчыніў не бельгіец, а сам начальнік турмы, таўставаты і сіваваты сяржант ТОДТ-у.*

*- Да цябе госці! Пайшлі за мной, - буркнуў коратка.*

*Я прыгладзіў валасы і рушыў уніз сходамі за немцам у вартоўню. Ужо праз прыадчыненныя дзверы згледзеў маю гаспадыню, паню К. і яе сястру панну В. Прывіталі мяне вельмі сардэчна. Але толькі словамі, бо сяржант не дазволіў ім да мяне наблізіцца, а прынесеную імі куртку і пачак з правізіяй сам мне ўручыў. Быў пры тым яшчэ настолькі стрыманы, што не грэбаўся ў тым пачку, а можа і таму, што сам таксама атрымаў ад пані К. нейкі значны пакунак, найпраўдападобна з прадуктамі.*

*У нямецкай вартоўні мы ўселіся насупраць на шырокіх лавах. Раздзяляў нас стол з тоўстай бляхі. Сяржант стаяў збоку і прыслухваўся да нашай размовы, хоць, з пэўнасцю можна сказаць, не шмат у ёй разумеў.*

*Размова ў прысутнасці немца ў нас неяк не клеілася. Пані гаварылі мне, што з цяжкасцю атрымалі пропуск у гэбітскамісарыяце на спатканне са мной. Прычым самым грунтоўным аргументам было тое, што затрымалі мяне ў адным пінжаку. А мне патрэбна нейкая цяплейшая вопратка, бо ночы халодныя, і днём часта яшчэ бывае холадна. Панна В. была выразна змяртвелая ад страху, але суцяшала мяне, што напэўна неўзабаве мяне выпусцяць, бо я канешне ні ў чым не вінаваты, ды і турма, у якой я аказаўся, не такая і суровая, як тая другая пры вуліцы У. Сыракомлі, дзе сямейнікам вязняў наогул не даюць пропускаў на спатканне. Я са свайго боку дзякаваў ім за памяць і добрае сэрца, прасіў, каб перадалі прывітанне і супакоілі брата, а таксама, каб яму паведамілі, што я пачуваюся тут не згорш. Я сам хвілямі задумваўся, чаму мяне памясцілі якраз тут, каля паказной групы яўрэяў, прызначаных - як усё часцей чулася і паўтаралася - да ліквідацыі. А можа турма на Сыракомлі ўжо так перапоўнена, што ўласна я ёсць тым першым у чарзе на засяленне турэмнага будынка пры вул. 3 -га мая на нова, хаця было звыш відавочна, што ён вымагаў генеральнага рамонту.*

*У адрывачнай плыні слоў мне было цікава даведацца, адкуль пані дазналіся пра маё ўвязненне. Не пачуў яшчэ на гэта адказу, як у дзвярах вартоўні ўбачыў майго ахоўніка-бельгійца ў таварыстве нейкага немца, апранутага па-тырольску ў батфордах, паляўнічай куртцы і зялёным капялюшыку з пяром на галаве. Гэты тырольчык размахваў перад носам сяржанта нейкім пісьмом. Хацеў спаткання з вязнем, г.зн. са мной з мэтай заслухвання - размовы і самнасам. Захоплены знянацку з'яўленнем тырольчыка, сяржант нават не пазнаёміўся са зместам, мільгаўшага ў яго перад вачыма пісьма і адразу даў мне знак, каб выйшаў з вартоўні на падворак, дзе тырольчык, узяўшы мяне за локаць, правёў цераз пляц аж пад турэмны мур і толькі тут, да майго здзіўлення абазваўся па-польску:*

*- Пан павінен уцякаць і цяпер!*

*- Як гэта? - я паглядзеў на яго з недаверам, - якім спобабам гэта зрабіць? Акрамя таго пані засталіся ў вартоўні.*

*- Нічога ім не будзе. Пайшлі да той бяздзейнай вартавой вышкі! - падагнаў мяне тырольчык.*

*Драўляныя дзверы ў мураванай вышцы былі забіты цвікамі наглуха. Спрабуем іх вырваць голымі рукамі. Марна, дзверы ані здрыгануліся. Чым бы іх тут падважыць? Аглядваемся навокал і амаль аднačасова бачым нешта блішчастае на зямлі паблізу ад барака - гэта кінутая некім з работнікаў кірка. Цяпер уціснутым у паз вастрыём вываждваем дзверы. Мураванае нутро вежы-галубятні без лесвіцы цалкам пустое, толькі ўнізе напоўненая чорнай вадой. Не вядома якой глыбіні: уверсе падзабруджаны шкляны дашак ў выглядзе стажка. У адной з трохкутных рам некалькі выбітых шыбак.*

*З адтулін па шыбах на часцёва пакрышаную цагляную сцяну вышкі падае сонечная смуга святла.*

*Уцячы можна толькі цераз дашак. Толькі як туды дабрацца? І тут у той сонечнай смузе бачым тырчаўшыя тут і там паміж цаглінамі вялікія паржавелыя цвікі, якія засталіся ад зліквідаванай драўлянай лесвіцы, што вяла даўней да зашклёнай будкі, якая была назіральнай пазіцыяй турэмнага ахоўніка. А таму будзем узбірацца па цвіках аж да збаўнага, зашклёнага дашка.*

*- Няма часу! - тыролец ужо злёгку папіхаў мяне ў кірунку сцяны, дзе тырчалі паміж цаглінамі вялікія штыры. - Толькі глядзі, каб не ўпаў ! - чую за сабою яго голас і сухі трэск зачыненых дзвярэй.*

*Абапёршыся плячыма аб сцяну паволі, ступня за ступнёй пасоўваюся па няроўным камяністым краі фундамента. Пада мной яма, напоўненая чорнай, як смала вадой з нерухома леглымі на яе паверхні некалькімі жоўтымі надгнілымі лістамі клёну. Асцярожна хапаю пальцамі, а потым усёй далонню спачатку адзін, а потым другі цвік, спрабуючы, ці досыць моцна*

*тырчаць у муры. Нязначны нахіл тулава ўлева і другая выцягнутая рука хапаецца за тырчаўшы некалькі вышэй цвік. Цяпер цалкам на вясу прыляпляюся да сцяны, і адначасова шукаю апору для сваіх ног у шчылінах і няроўнасцях месцамі пакрышанай цэглы Выцягнутыя рукі згінаюцца і выпрамляюцца па-пераменна, падымаючы ўвесь мой корпус на тыя некалькі сантыметраў уверх. Ціск пашчарбаных плешак цвікаў на далоні, з якіх адна ўжо крывавіць, што раз мацнейшы, але болю не адчуваю. І тут нейкі штыр, сыпнуўшы скрушанай вапнай вывальваецца са сцяны. У апошнюю хвілю хапаюся далонню за іншы цвік, на шчасце моцна ўбіты у шчыліну між цаглін і міма волі паглядаю ўніз у цёмную пашчу невядома на колькі глыбокай вады, запоўніўшай чэрава галубятні. Яшчэ пару хватаў, рухаў тулава і... нарэшце чапляюся за адну з бэлек, якая служыць асновай і апорай для шклянога дашка вышкі. Цяпер адной рукой адхіляю рухомую трохкутную раму зашклёнага дашка, уціскаю пад яе галаву і ўжо грудзямі ўспіраюся на бэльку, што атачае мур вартавой вышкі. Нада мной віднеецца чыстае блакітнае неба, чуцён лёгкі і свежы павеў ветру, а ніжэй расцягнулася зялёныя прастора агародаў, дзе над адным з загонаў завіхаецца сагнутая жанчына у каляровай хустцы на галаве. Гляджу ўніз. Там пад вышкай стаяць два маладыя хлопцы. Убачылі мяне і адразу паўголасам клічуць, каб скакаў на зямлю.*

*-Высока! - адказваю - Прынясіце які канат, шнур.*

*-Няма часу, скачы, падтрымаем!*

*Прапускаю ногі праз шчыліну паміж фрамугай і дашкам, які ціснуў мне на плечы. Бачу яшчэ выпрастаную постаць жанчыны, якая жагнаецца на голас і ўжо напалову з вісу спадаю на зямлю, дзе хлопцы прытарможваюць цяжар майго цела. З падзення на калені падхватваюся адразу, а хлопцы ўзялі мяне пад рукі і выправадзілі з агароду праз нейкую дзірку ў плоце з драцяной сеткі. Пасля, віляючы паміж забудовамі, мы дабраліся да чыгуначнага пераезду і праз пару хвілін аказаліся ў густа застаўленай домікамі і агародамі чыгуначнікаў Слабадзе.”*



***Схема размяшчэння будынкаў Лідскай дзіцячай калоніі (аўтар А. Кулеш): 1- уваход; 2-школа; 3-жылы корпус; 4-сталоўка; 5-кухня; 6-лазня; 7-пральня; 8-спартовае збудаванне; 9-туалет; 10-уваход у майстэрню; 11-зялёныя газоны; 12-пляц для шыхтаванняў; 13-памяшканне для аховы (першы паверх), лазарэт (другі паверх); 14-карцар .***

## План-схема размяшчэння аб’ектаў калоніі



***1 - адміністрацыйны будынак калоніі; 2 - склад; 3 - газоны; 4 - піларама; 5- цэнтральная прахадная. (Аўтар А. Кулеш.)***

**Агульны выгляд Дзіцячай працоўнай выхаваўчай калоніі МУС. 50-я гады XX стагоддзя, г. Ліда. Малюнак А.Ф. Куляша.**



*Драўляная хата , крайняя справа - адміністрацыйны будынак калоніі, лявей і ззаду - склад.*

Як відаць з успамінаў, турма падчас вайны была ў некалькі занядбаным стане, прынамсі вартавая вышка не функцыянавала. Аднак у 1941-44 гады турма выкарыстоўвалася немцамі. Існуе распаўсюджанае меркаванне, што на турэмным двары праводзіліся расстрэлы.

У 1947-51 гадах тут знаходзілася дзіцячая працоўная калонія для малагадовых злачынцаў. Тут збіралася беспрытульная моладзь з усяго Савецкага Саюза.

З 1951 года ў гэтым будынку размяшчаліся дапаможныя службы лідскай турмы (пакоі для варты, сталовая, пральня), а з 1964 года адміністрацыйныя і дапаможныя памяшканні Лідскай друкарні, паколькі ў 1964 годзе ўвесь былы комплекс гарадской турмы быў перададзены Лідскай друкарні, якая займае яго і зараз.



*Лідская калонія. 1950 г. Арка 1908 г. Фота добра пацвярджае малюнак.*

У 1965 годзе ў будынках быў праведзены рамонт (адпаведныя дакументы захоўваюцца ў бухгалтэрыі Лідскай друкарні) і прыстасаванне памяшканняў пад друкарню. Была знесена сцяна і ўваход з аркай. Паступова двухпавярховы будынак аброс прыбудовамі, быў пабудаваны аднапавярховы будынак пад гараж і склад.

Падчас падрыхтоўкі да “Дажынак-2010” у Лідзе было праведзена дасканалае абследаванне аб’ектаў Лідскай друкарні і ў першую чаргу аднапавярховага будынка, гісторыя якога пачынаецца з 1869, і які аказаўся ў найбольш дрэнным стане. Асаблівыя ўмовы эксплуатацыі гэтага будынка на працягу многіх дзесяцігоддзяў - пральня, кухня, сталоўка - прывялі да таго, што сцены літаральна згнілі. Былі выпрацаваны рэкамендацыі наступнага зместу:

*“Прымаючы ва ўвагі тую акалічнасць, што будаўніцтва турм і астрогаў выконвалася паводле “Будаўнічага Статуту Расійскай Імперыі”, у частцы*

*будынкаў дадзенага тыпу, “Гарадскі астрог” у г. Лідзе пабудаваны паводле палажэнняў дадзенага дакумента. Досыць поўнае ўяўленне аб ім можна атрымаць з плану г. Ліды 1842 года.*

*Простая функцыянальная схема збудавання забяспечвалася прастакутнай у плане тэрыторыяй з высокім плотам і двума будынкамі. Асноўны двухпавярховы (для ўтрымання зняволеных) размяшчаўся ізалявана ў цэнтры ўчастку, што забяспечвала для варты надзейную ахову людзей., якія знаходзіліся ў ім.*

*Пабудова аднапавярховага доследнага аб’екта паслужыла пачаткам паступовага разбурэння першапачатковай планіроўнай схемы комплексу, а ўлічваючы прастату архітэктурнага рашэння пабудовы, пачала мяняцца важная горадабудаўнічая сітуацыя ў гэтым раёне (уезд з боку Губернскага горада Гародні).*

*Значным этапам пагаршэння паслужыла размяшчэнне ў былой турме Лідскай друкарні.*

*Захаваны аб’ект гістарычна-культурнай спадчыны (двухпавярховы будынак) “аблеплены” прыбудовамі гаспадарчага прызначэння, а краявідныя перспектывы, якія адкрываюцца з пабудаванай над чыгункай эстакады, канчаткова абвастрылі горадабудаўнічую сітуацыю на ўездзе ў цэнтр горада.*

*Рэкамендуецца:*

*1. Захаваць ролю аб’екта гістарычна-культурнай спадчыны ў будынка № 23 па вул. Ленінская, у г. Лідзе (двухпавярховы) у навакольнай забудове вуліцы.*

*2. У перспектыве змяніць функцыю аб’екта, вызваліўшы яго ад прыбудоў, зрабіць рэканструкцыю.*

*3. Доследны аднапавярховы будынак, які хоць і меў адносіны да першапачатковай гістарычнай функцыі комплексу і аднолькавы паштовы адрас, не лічыць гістарычна-культурнай каштоўнасцю, бо ён будаваўся ў некалькі этапаў па меры ўзрастання ўтылітарных патрэбнасцяў турмы, архітэктурна асобныя аб’ёмы будынка не ўвязаныя паміж сабой і супярэчаць першапачатковай пабудове дадзенага тыпу будынкаў.*




***План Лідскай друкарні да 2010 г.:*** *1. Двухпавярховы будынак (з былымі камерамі для арыштантаў, вядомы да 1842); 2. Новы будынак, сфармаваны каля 1908 г. з двух будынкаў 19-га стагоддзя; 3, 4, 5. Прыбудовы і будынак, пабудаваныя друкарняй пасля 1964 г.*




***План Лідскай друкарні пасля 2010 г.:*** *1. Двухпавярховы будынак, вядомы да 1842; 2, 3, 4, 5. Прыбудовы і будынак, пабудаваныя друкарняй пасля 1964 г.; 6. Бетонны плот.*




***Ахоўная шыльда на будынку друкарні. Безумоўна ўтрымоўвае памылку. Павінна быць напісана: “... першая палова XIX ст.”***



***Комплекс Лідскай друкарні, Ленінская, 23. Перад 2010 г.***



***Лідская друкарня, Ленінская, 23. Пасля 2010 г. Здымак С. Судніка.***

*4. У выпадку атрымання ў Міністэрстве культуры дазволу, зрабіць разборку доследнага аднапавярховага будынак (па просьбе ўладальніка і ўлічваючы дрэнны тэхнічны стан) як першы этап рэканструкцыі комплексу.*

*5. Пры выкананні добраўпарадкавання тэрыторыі якая вызвалілася пазначыць брукаваннем або зялёнай загараддзю страчаную агароджу ў межах гістарычных памераў, прадстаўленых на чарцяжы стратыграфіі аб’екта.”*[11]

Рэкамендацыі былі выкананы ў частцы, прадугледжанай на першы этап. Аднапавярховы будынак былога Лідскага астрога другой паловы 19-га стагоддзя быў знесены. Ад астрога застаўся толькі двухпавярховы будынак, у якім зараз размяшчаюцца асноўныя вытворчыя магутнасці Лідскай друкарні.

*Матэрыял скампанаваў*
***Станіслаў Суднік.***

11. ИП Басов Е.П. Здания типографии г. Лида, ул. Ленинская, 23 Гродненской области. Объект 03.10 - КНИ. Комплексные научные исследования (изыскания). Исходные данные, пояснительная записка. Чертежи. Захоўваецца ў бухгалтэрыі Лідскай друкарні.

# Вырашэнне жыллёвага пытання ў Баранавіцкай вобласці ў 1940-41 гг.

14 лістапада 1939 года, 3-я пазачарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла закон "Аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад БССР", завяршыўшы працэс уз'яднання краю. Гістарычная справядлівасць гэтай падзеі сёння ўяўляецца бясспрэчнай. Аднак, чым далей, тым ясней становіцца, якую жахлівую цану заплацілі за гэта ні ў чым не вінаватыя людзі - жыхары "Ўсходніх Крэсаў".

Па некаторых падліках, у выніку ўз'яднання ў молах рэпрэсій патрапіла больш за 130 тысяч жыхароў Заходняй Беларусі, з якіх каля 30 тысяч было расстраляна. Аднак гэта толькі вяршыня айсберга.

Падпалкоўнік запасу **Аляксандр Татаранка** з Баранавіч (нарадзіўся ў г. Лідзе, выхоўваўся ў Лідскім дзіцячым доме) пяць гадоў па макулінках збіраў матэрыял для кнігі "Недазволеная памяць: Заходняя Беларусь у дакументах і фактах. 1921-1954" (2006), якая стала сапраўднай сенсацыяй, але дагэтуль не выйшла сур'ёзным накладам. Сягоння гісторык, які даследуе рэгіянальныя архівы, і ў якіх да яго ніхто не быў, працуе над новай кнігай. У цэнтры яго ўвагі - палітыка савецкай улады на тэрыторыі былых "Ўсходніх Крэсаў" у міжваенны перыяд.

Адзін з асноўных аспектаў гэтай палітыкі - нацыяналізацыя ў былой Баранавіцкай вобласці.

## Вырашэнне жыллёвага пытання па-сталінску

Плануючы вайну ў Еўропе, Сталін не думаў будаваць жыллё функцыянерам партыі і НКУС, якія масава пазапаўнялі "вызваленыя" тэрыторыі. Вырашэнне жыллёвых задач у рамках плана бачылася адназначна: забраць яго ў вызваленых ад "польскай няволі". Органам, які адказваў за стварэнне жыллёвага фонду, стаў Баранавіцкі аблвыканкам і яго структуры - фінансавы аддзел, жыллёвае кіраванне, абласное бюро інвентарызацыі. Пачынаючы са снежня 1939-га выканкам пачаткаў штампаваць рашэнні рэпрэсіўнай скіраванасці. Так, у 1940 годзе адбылося 46 паседжанняў, наступствам якіх сталі 1187 рашэнняў, 409 з іх - аб прымусовай нацыяналізацыі ўласнасці. За першую палову 1941 года выканкам збіраўся 22 разы, разабраўшы 839 пытанняў, 184 з якіх мелі рэпрэсіўнае адценне.

Менск скрупулёзна адсочваў працэсы, якія адбываюцца ў вобласці. Разумеючы, што ў мястэчках дамінавала габрэйскае насельніцтва (напрыклад, у Баранавічах габрэі складалі звыш 45 тысяч чалавек, што ўдвая перакрывала іншае насельніцтва), новая ўлада шмат у чым абапіралася на габрэйства - тутэйшае і "ўсходнікаў", якіх спешна сюды накіравалі. Па-першае, габрэяў супрацьпаставілі іншым нацыянальным групам. Па-другое, іх рукамі вырашалася кватэрнае пытанне і, як аказалася, за іх жа кошт.

9 чэрвеня 1940 года з 17 аддзелаў Баранавіцкага аблвыканкаму 11-цю кіравалі габрэі. Некаторыя аддзелы, напрыклад, адукацыі, на 95% былі ўкамплектаваныя імі. Кіраўнікамі большасці кантрольных, судовых, праваахоўных, фінансавых і гандлёвых арганізацый абласнога і раённага звяна таксама сталі габрэі. Прычым падобная карціна назіралася і ў іншых заходніх абласцях.

## Фатальная рэгістрацыя

На вясну 1940 года на выканкамаўскім уліку лічылася каля трох тысяч дамоў і кватэр. Падставай для ўліку стала рашэнне аблвыканкаму ад 21 снежня 1939 г., якое патрабавала *"да 25.10.1939 правесці інвентарызацыю і ўлік усёй кінутай безгаспадарнай маёмасці, інвентару, таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў у кінутых дамах, кватэрах, складах, крамах і маёнтках і залічыць у прыбытак дзяржавы"*.

Да лета 1940 года фармаванне фонду жылля набыла настолькі шырокі размах, што наспела пытанне цэнтралізацыі кіраўніцтва гэтым працэсам. У ліпені засноўваецца адмысловы орган - Камісія аблвыканкаму па правядзенні муніцыпалізацыі і нацыяналізацыі. Пад яе кантролем нацыяналізацыя ажыццяўлялася ў самой брутальнай форме. Пры гэтым шырока скарыстоўваліся наступныя тэхналогіі: узяцце пад ахову дамоў і кватэр, улік, складанне спісаў дамоў, падлеглых адбіранню, абмер жылля, рэгістрацыя домаўладальнікаў, папярэджанне, ушчыльненне, высяленне і канфіскацыя.

Пад прыгляд бальшавікоў патрапіла прыкладна 10 тысяч дамоў, кватэр і маёнткаў.

Абмерам дамоў плошчай большай за 113 кв. м. займалася мясцовая адміністрацыя. Усіх жыхароў вобласці ўлады абавязалі з'явіцца з 25-га студзеня па 1 лютага 1940 года ў пашпартныя сталы з нацыянальнымі пашпартамі і дакументамі на права пражывання. У выпадку нез'яўлення прадугледжваліся адміністрацыйныя меры - штраф да 100 рублёў. Рэгістрацыя была першым крокам да будучай трагедыі.

## "Ушчыльненне" і высяленне

Каб забяспечыць жыллём службоўцаў сярэдняга звяна, паўсюдна выкарыстоўвалася "ўшчыльненне". Па дадзеным пытанні прынята больш за 300 нарматыўных актаў. Першы -пастанова Прэзідыюма аблвыканкаму ад 20 снежня 1939 г., якая дазваляла павятовым выканкамам *"праводзіць ушчыльненне домаўладальнікаў у дамах, што падлягаюць нацыяналізацыі і муніцыпалізацыі, а таксама правесці ўшчыльненне ў дамах лекараў, якія займаюць лішнюю плошчу"*.

Вось яркі прыклад таго, як афармлялася "ўшчыльненне". 24 студзеня 1940 года аблвыканкам прыняў пастанову "ушчыльніць домаўладальніка Мірскага Самуіла Давыдавіча, які пражывае ў гор. Баранавічы па вул. Камсамольскай № 5, дом мураваны двухпавярховы, памер (даўжыня 15,8 на 11,9)", у якім Баранавіцкаму гарсавету прапаноўвалася *"правесці ўшчыльненне Мірскага Самуіла Давыдавіча, паводле палажэння аб квадратуры на чальцоў яго сям'і". "Наш дом абмяралі і, паводле патрабаванняў муніцыпалітэта, прыйшлі да высновы, што ён занадта вялікі і да нас можна падсяліць жыхароў. Салдаты НКУС абшукалі дом, адшукваючы тое, што мы маглі схаваць"*, - успаміналі Мірскія.

Масава высяляць пачалі з моманту самога ўступлення Чырвонай Арміі на тэрыторыю Польшчы - 17 верасня 1939 г., на што паказвае пратакол аблвыканкаму № 2 за 29 снежня 1939 г.

Паводле пастановы аблвыканкаму, на вызваленне жылля давалася 10 дзён. Аднак так было толькі на паперы. Сярод архіўных дакументаў не выяўлена ні аднаго спісу домаўладальнікаў, якія атрымалі апавяшчэнне аб высяленні, бо няма і тыпавых бланкаў (паведамленняў) аб высяленні.

*"У вачах жыхароў стаялі слёзы. Іх позіркі бегалі па халодных і самазадаволеных тварах рабаўнікоў, як бы шукаючы магчымасць адсунуць напаўшую бяду. Але словы "літасць" і "людскасць" у лексіконе савецкай улады не значыліся. Загадаўшы сабрацца і зачытаўшы вердыкт аб высяленні, людзей, не шкадуючы ні 80-гадовых старых, ні маці з немаўлятамі на руках, вышпурвалі, як сабак, на вуліцу"*, - успамінаў адзін з відавочцаў эпохі.

Толькі ў адзін дзень -17 снежня 1940 года - армію валацуг папоўнілі баранавіцкія 770 домаўладальнікаў. Да лета 1941-га абласны фонд жылля (па сутнасці, жыллё для савецкай наменклатуры) налічаў 2635 кватэр і дамоў.

Такія маштабныя высяленні людзей па нацыянальнай і сацыяльнай прыкмеце і з эканамічных меркаванняў у сціслыя тэрміны планава не ажыццяўляліся ні ў адной краіне свету, акрамя нацысцкай Нямеччыны.

Ушчыльненне праводзілася да 22 чэрвеня 1941 года.

Нацысты, колішнія саюзнікі і аднадумцы Сталіна, пойдуць па апрабаваным шляху, засяліўшыся ў хаты і кватэры, нацыяналізаваныя бальшавікамі ў 1939-1941 гадах.

## Езуіцкія метады

Засталося нямала дакументальных ілюстрацый таго, як, фармуючы жыллёвы фонд, савецкая ўлада не цуралася нават самых езуіцкіх метадаў.

Напрыклад, з 1940 года жыхароў Заходняй Беларусі прыцягвалі для аднаўлення разбураных дарог. Прычым нярэдка акрамя працоўнай павіннасці людзі аплачвалі і самі рамонтныя работы. Так, 13 жніўня 1940 года загадчык Шчучынскага райкамунгасу выпісаў *"рахункі гр. Шчучына Каплану Іцку 1263 руб. 52 кап., гр. Скубскаму Янкелю - на суму 343 руб. 44 кап. і інш. грамадзянам на брукаванне вуліц і кладку тратуара"*.



***Жыхары Заходняй Беларусі пад польскай няволяй***

Аб масавым характары штрафных санкцый сведчыць пастанова Баранавіцкага аблвыканкаму № 577 ад 21 чэрвеня 1940 г. *"Аб фактах парушэння рэвалюцыйнай законнасці ў асобных раёнах вобласці"*. З яго выцякае, што *"шэраг старшыняў РВК груба парушаюць рэв. законнасць, у выніку чаго пастановы РВК, якія выносяцца, з'яўляюцца асабліва няправільнымі, як напрыклад: пастанова Дзятлаўскага райвыканкаму за № 16 па матывах "За сабатаж у гандлі з боку шэрагу гандляроў" - аштрафавалі Пушкіна на 10 000 руб., Кагана на 5000 руб., Кобана на 5000 руб., Дварэцкага на 4000 руб., Бутынскага на 2000 руб., Гярцоўскага на 3500 руб"*.

Ужо 17 верасня 1939 года бальшавікі пачалі захопліваць хаты і кватэры польскіх службоўцаў і заможных грамадзян, якія пакінулі іх, асцерагаючыся за жыццё. Калі лепшае жыллё дасталося "ўсходнікам" першай хвалі, адміністратары з мясцовых вылучэнцаў, імкнучыся займець жаданыя метры, не цураліся замахнуцца на школьныя будынкі. Такія факты насілі масавы характар. Усяго толькі некалькі прыкладаў:

Вёска Вуглы, былая пачатковая школа (на 80 вучняў) выкарыстоўваецца пад кватэры службоўцаў. Рашэнне вынес Сялянскі Камітэт; в. Пятровічы, былая ПШ (на 80 вучняў) захопленая пад кватэры самавольна; Наваградак, няпоўная СШ № 5 (60 вучняў) таксама самавольна прыстасаваная пад кватэры; в. Малыя Сцяпанішкі Мастоўскага раёна, ПШ (30 вучняў) мясцовыя службоўцы самавольна прыстасавалі пад свае кватэры.

Адным са спосабаў забірання ўласнасці ў “заходнікаў” была “добраахвотная” нацыяналізацыя, гэта значыць адмова ад уласнай маёмасці. Так, напрыклад, пастанова аблвыканкаму № 1441 ад 23 лістапада 1940 г. паведамляе: *“Лічыць мылаварны завод перададзеным добраахвотна і бязвыплатна, паводле пісьмовай заявы гр-на Шапіра ад 28.9.-40. Райкамбінату”.*

Паўсюдна практыкаваліся падробкі. Адміністратары наўмысна адносілі дамы, якія спадабаліся - нават з гаспадарамі - да разраду безгаспадарных пабудоў. Вывучэнне крыніц - спісаў аб нацыяналізацыі, пракурорскіх пратэстаў і іншых дакументаў - дае такую карціну: па спісах да пустуючых дамоў аднесеныя больш за 135 домаўласніцтваў, па скаргах - 457, у многіх з якіх жылі людзі.

Пасля з’яўлення абласной камісіі па нацыяналізацыі спісы домаўладальнікаў, якія паступаюць для забірання, папраўляліся асабіста нам. старшыні аблвыканкаму Рафаілам Сяржантам. Сутнасць праўкі зводзілася да аднаго: раней прынятае рашэнне аб нацыяналізацыі замянялася фармулёўкай “муніцыпалізаваць”. Ні аднаго пазітыўнага рашэння аб вяртанні жылля камісія, якая працавала да 22 чэрвеня 1941 года, не вынесла.

## Рабуй нарабаванае!

Пры гэтым службоўцы, чырвонаармейцы, чэкісты і мясцовыя жыхары выносілі з “заможных” дамоў усё, што толькі можна было панесці. Грошы і сямейныя ўпрыгожванні нярэдка тут жа, на месцы, дзялілі і распіхвалі па кішэнях. Не грэбавалі пасцельнай і ніжняй бялізнай, посудам і прадуктамі сілкавання... Астатняе асядала на складах, якія знаходзіліся ў веданні старшыняў раённых спажыўсаюзаў. Што з імі было ў рэальнасці, відаць з дакументаў.



***Жыхары Заходняй Беларусі перад вызваленнем***

Дзятлава і раён - *“мука, крупы, цукар, кандытарскія вырабы і інш. дастаўляліся на дом працаўнікам выканкамаў”*;

Ляхавічы і раён - *“старшыня ГарСА тав. Чушакоў адпускаў гарэлку і інш. прадукты па цыдулках”*;

Жалудокскі раён - *“мясцовае кіраўніцтва маёмасць дзяліла паміж сабой”*;

Паўсюдна - тое, што засталося (не сапсавалася), *“ішло ў рознічны гандаль”*.

Вядома, што ўлік руху прадуктаў не вёўся. Вялікая частка харчоў раскрадалася да паступлення на склад.

На складах жа захоўваліся і каштоўнасці - золата, срэбра, дыяменты, карціны, кнігі... Дакументальна пацвярджаецца наяўнасць дзвюх адмысловых камісій, якія праводзілі іх ацэнку, пачынаючы з верасня 1939-га і сакавіка 1941-га. Канфіскаванае багацце павінны былі адправіць у Маскву ў распараджэнне Кіравання каштметалаў НКФ СССР. Аднак каштоўнасці, як і маёмасць, разбазарваліся і раскрадаліся. Да цяперашняга часу невядома колькі, калі і куды адправілі каштоўнасцяў з тэрыторыі вобласці ў 1939-41 гадах.

## У пошуках справядлівасці

Скаргі ўладам і ў пракуратуру на крадзёж асабістых рэчаў, збіванне і няправільную нацыяналізацыю дакументальна адсочваюцца з пачатку 1940 года. У большасці сваім заяўнікі патрабавалі адмены пастановы аб муніцыпалізацыі і, вядома, вяртання жылля. Так, з 156 скаргаў, якія паступілі ў пачатку 1940 года, 138 было індывідуальных, 18 - калектыўных.

Кім былі заяўнікі? Уладальнікамі гасцініц - 19, крамаў - 12, пякарняў - 4, каўбасных фабрык - 5, саматужных майстэрняў - 2, швейнай майстэрні - 1, цагельняў - 2 , складскіх памяшканняў - 8, гаражоў - 2, аптэк са складскімі памяшканнямі - 5, лячэбнай установы - 1, паравых млыноў - 3, электрастанцый - 2...

Нацыянальны склад скаржнікаў быў наступным: палякі -12, беларусы - 9, рускія -1, габрэі - 281.

Як выцякае з дакументаў, заявы і скаргі службоўцамі не разглядаліся. Сем’і, выкінутыя на двор, station адказаў на свае заявы не атрымлівалі. Адказы “скаржнікам”, як іх звалі ў выканкамаўскіх кабінетах, зводзіліся, як правіла, да аднаго: *“Рашэнне аб нацыяналізацыі (муніцыпалізацыі) вынесена правільна”.*

## 87% пацярпелых - габрэі

Усё, што ўдалося ўстанавіць, дае падставы сцвярджаць: нацыяналізацыя з’яўлялася формай рэпрэсій, накіраваных, па-першае, на забеспячэнне савецкіх службоўцаў жыллём, па-другое, ухіленне найбольш заможнай часткі насельніцтва. Выбарачны аналіз 167 пастаноў аблвыканкаму аб нацыяналізацыі

(муніцыпалізацыі) вызначае 3782 пацярпелых, аналіз 150 заяў і скарг на адмену нацыяналізацыі - яшчэ 350. Дакранаючыся да нацыянальнага аспекту, у першым выпадку габрэі склалі 3658 чалавек, палякі -151, беларусы - 28, рускія - 2, татары -13. У другім: габрэі - 328, палякі -15, беларусы - 6.

Цікавыя дадзеныя ўтрымоўваюцца ў трэцяй групе дакументаў - пастановах аб адмене нацыяналізацыі. Заяўнікі прасілі адмяніць рашэнні Часовых кіраванняў аб нацыяналізацыі. Праўда, знайсці гэтыя рашэнні не ўдалося. Нават калі іх няма, то наяўныя сведчаць аб тым, што пацярпелых было нашмат больш. Засноўваючыся на прыблізным арыфметычным разліку, можна гаварыць аб 8 тысячах уладальнікаў нерухомасці, якія сталі закладнікамі кватэрнага пытання Да вышэйсказанага варта дадаць, што 87% ад агульнага ліку складаюць габрэі.

Што ж стала з людзьмі, якіх пакінулі без прытулку над галавой і сродкаў да існавання?

Іх няма сярод ахвяр палітычных рэпрэсій - у ліку дэпартаваных і асуджаных.

Паколькі ўласнікаў жылля нельга аднесці да буйнога бізнэсу або да чыноўнікаў (у няшчасных спісах такіх былі адзінкі), улада падрыхтавала ім долю, аб якой можна толькі здагадвацца. Пакуль жа здавольваемся дакументам, датаваным красавіком 1941-га. Гэта рапарт афіцэра НКУС, якім агучана колькасць беларускіх габрэяў-вязняў канцэнтрацыйных лагераў - 58 852 чалавек. Калі гэта не яны, узнікае пытанне: куды згінулі 10 тысяч жыхароў Баранавіцкай вобласці - палякаў, беларусаў, рускіх, габрэяў і татараў?

Адным з нявысветленых бакоў нацыяналізацыі з'яўляецца лёс забраных каштоўнасцяў. Каб знайсці адказы на гэтыя пытанні, неабходна асобнае і самастойнае даследаванне з прыцягненнем зацікаўленых бакоў - Польшчы і Беларусі. Затым будзе лагічным ставіць пытанне перад Расіяй як пераемніцай СССР аб выплаце кампенсаванні пацярпелым ад нацыяналізацыі, якіх абавязкова варта аднесці да ахвяр палітычных рэпрэсій, і вярнуць назад вывезеныя каштоўнасці.



*Вясковая школа ў Заходняй Беларусі*

## Дакумент эпохі

*"Абласны Выканаўчы Камітэт пастанаўляе:*

*Зацвердзіць пастанову Лідскага гарадскога выканаўчага камітэту ад 16 чэрвеня 1940 года аб муніцыпалізацыі домаўласніцтваў, якія належаць:*

1. безгас. плошча 50,87 кв. м.
2. Глазману Арону Самуілавічу, 299,81 кв. м.
3. Шлесбергу Саламону, 131,07 кв. м.
4. Казубоўскаму Сцяпану Сцяпанавічу, 282,91 кв м.
5. Урбановічу Браніславу Людвікавічу, 230,81 кв. м.
6. Тэненбаўму Гіршу Шаевічу, 127,71 кв. м.
7. Дубчанскаму Абраму Майсеевічу, 173,22 кв. м.
8. Стасевічу Ўладзіславу Адольфавічу, 114,74 кв. м.
9. Флейшану Зельману Давыдавічу, 130,70 кв. м.
10. Гойда Перлі, 190,41 кв. м.
11. Бяркові Гені Ёселеўне, 186,66 кв. м.
12. Кулевічу Іосіфу Францавічу, 129,92 кв. м.
13. Байкальскай Фруме, 154, 96 кв. м.
14. Нябульскаму Шалому Гіршавічу, 349,32 кв м.
15. Ілютовічу Еселью Ільічу, 146,83 кв. м.
16. Пупко Іце Абрамаўне, 134,13 кв. м.
17. Ліпінскай Сцяфаніі Францаўне, 154,80 кв. м.
18. Жабіцкай Еліжбеце Канстанцінаўне, 296,38 кв. м.
19. Ліпковічу Ізраілю Хаімавічу, 118,92 кв. м.
20. Марыне Дробкінай - Каток, 174,31 кв. м.
21. Розембер Хаі Іцкаўне, 179,27 кв. м.
22. Шайпуку Канстанціну Антонавічу, 174,76 кв. м.
23. Вайну Абраму Есілевічу, 119,65 кв. м.
24. Пайдаковай Ганне Андрэеўне, 175,40 кв. м.
25. Шытніцкаму Ісаку Ізраілевічу, 140,01 кв. м.
26. Дубінскай Леі - Рохс Барысаўне, 118,47 кв. м.
27. Ламбургу Гіршы, 165,00 кв. м.
28. Драгуцкай Сіме і Гетэлью Лёву, 238,05 кв. м.
29. Высманцкай Хаі Абрамаўне, 127,49 кв. м.
30. Ілютовічу Якаву Аронавічу, 320,62 кв. м.
31. Дваржэцкаму Берку, 177,51 кв. м.
32. Станецкаму Гешалю Абрамавічу, 128,32 кв. м.
33. Арлоўскай Фейзе Нявахаўне, 174,63 кв. м.
34. Хоміч Эміліі Іосіфаўне, 140,38 кв. м.
35. Сахану Міхелю Нявахавічу, 141,15 кв. м.
36. Абялевічу Абраму Шмуйлавічу, 191,74 кв. м.
37. Абрамовіч Голдзе Шмуйлаўне, 128,33 кв. м.
38. Рыжай Надзеі Пятроўне, 117,98 кв. м.
39. Беранштэйну Арону Давыдавічу, 135,71 кв. м.
40. Ясіноўскаму Ісаку Зузелевічу, 145,56 хв. м.
41. Пупко Рэўцы Лазараўне, 125,78 кв. м.
42. Лютовіч Хане Эльеўне, 179,94 кв. м.
43. Габуру Міхаілу Рыгоравічу, 166,29 кв. м.
44. Сапожнікавым Янкелю - Нотэлю, 151,87 кв. м.
45. Вільтас Казіміры Іванаўне, 174,07 кв. м.
46. Важынскай Ганне Антонаўне, 182,78 кв. м.
47. Голуб Двосе Мардухаўне, 198,60 кв. м.
48. Баярскай Двейры Гіршаўне, 186,67 кв. м.
49. Шымковічу Вітману Натанавічу, 127,33 кв. м.
50. Вінкоўскаму Ною Есілевічу, 156,57 кв. м.
51. Красоўскай Іпаліце Пятроўне, 149,91 кв. м.
52. Гярштовічам Абраму і Рахелі, 114,93 кв. м.

53. Плотніку Самуілу Барысавічу, 194,19 кв. м.
54. Фрыдманам Ёселю, Ганне, Блюме, 140,78 кв. м.
55. Дзяшкевічу Фаме Адамавічу, 181,90 кв. м.
56. Шпількоўскім Хане і Міне Майсееўне, 153,59 кв. м.
57. Кагановічу Мордуху Юделевічу, 123,12 кв. м.
58. Доршыну Іосіфу Бенціёнавічу, 128,73 кв. м.
59. Стрыйпу Івану, 60,04 кв. м., безгас.
60. Гяршовіч Марыі, 38,58. кв. м.
61. Адамовічу Ўладзіславу, 44,28 кв. м.
62. Купінскай Сары, 95,41 кв. м.
63. Шыманскаму Фадзею Гіляравічу, 181,36 кв. м.
64. Шымялевічу Міхалу, 71,41 кв. м.
65. безгас., 79,83 кв. м.
66. Бушменавай Веры Рыгораўне, 126,96 кв. м.
67. Шмуклер Злаце Гершаўне, 130,97 кв. м.
68. Пасынскаму Ісаку Абрамавічу, 171,91 кв. м.
69. Жуку Баніфаду Мацвеевічу, 281,63 кв. м.
70. Каплан Еляніне Львоўне, 185,01 кв. м.
71. Ляйбовічу Зеліку Іцкавічу, 187,49 кв. м.
72. Мілевічу Іосіфу Антонавічу, 225,00 кв. м.
73. Гродзенчыку Абраму Якаўлевічу, 160,87 кв. м.
74. Танюкевіч Ядвізе і Станіславу, 153,69 кв. м.
75. Ілютовічу Захару Янкелевічу, 153,60 кв. м.
76. Бярковіч Росе, 251,03 кв. м.
77. Хаецкаму, 164,75 кв. м.
78. Брэму Веніяміну Хаімавічу, 176,16 кв. м.
79. Балаевіч Анастасіі Міхайлаўне, 123,66 кв. м.
80. Каляку Мікалаю Аляксеевічу, 143,65 кв. м.
81. Роўба Антону Ігнацьевічу, 224,94 кв. м.
82. Баярскаму Цалею, 375,72 кв. м.
83. Місюковіч Надзеі Фёдараўне, 145,12 кв. м.
84. Дубчанскаму Абраму Майсеевічу, 152,94 кв. м.
85. Маўшовіч Руве Шмуйлаўне, 150,12 кв. м.
86. Сакалоўскаму Вульфу Хаімавічу, 123,18 кв. м.
87. Мастоўскаму Давыду, 92,65 кв. м.
88. Руткоўскай Вользе Іванаўне, 115,32 кв. м.
89. Бортніку Васілю Браніслававічу, 129,47 кв. м.
90. Рэцкаму Віктару Андрэевічу, крама, 42,58 кв. м.
91. Рыбаку Янкелю-Фрумза Абрамавічу, 120,66 кв. м.
92. Клінцевічу Канстанціну, 181,65 кв. м.
93. Калясінскаму Івану, 220,27 кв. м.
94. Махначовай Юзэфе, 150,60 кв. м
95. Фрэнзан Хене Гіцелеўне, 156,16 кв. м.
96. Гербядзоўскай Стысі, 172,48 кв. м.
97. Запольскаму Хаўнору, 113,04 кв. м.
98. Навапрутскай Соні Майсееўне, 183,23 кв. м.
99. Шпількоўскаму Лейбе Нахманавічу, 212,90 кв. м.
100. Пупко Захару Ёселевічу, 114,14 кв. м.
101. Каган Леі, 127,16 кв. м.
102. Дразду Сігізмунду Адамавічу, 211,51 кв. м.
103. Кунцэвічу Вітольду, 541,40 кв. м.
104. Крайповічу Мойшы Мардухавічу, 116,83 кв. м.
105. Ляйбовічу Рону Зелікавічу, 114,00 кв. м.
10б. Шулькіну Абраму Аўсеевічу, 303,37 кв. м.
107. Наркунскаму Абраму Лейбавічу, 164,36 кв. м.
108. Букоўскай Сусане Леанардаўне, 195,78 кв. м.
109. Бернікер Цырлі Ізраілеўне, 128,37 кв. м.
110. Мясніку Ёселю Янкелевічу, 136,09 кв. м.
111. Усціновіч Алене Міхайлаўне, 143,72 кв. м.
112. Ілютовічу Ізраілю Ліпавічу, 217,63 кв. м.
113. Кузміч Юзэфе Карлаўне, крама, 19,68 кв. м.
114. Астрынскай Рыўцы Майсееўне, крама, 19,68кв.м.
115. Льву (Леў) Хаіму, крама, 10,54 кв. м.
116. Камянецкай Леі Мендзялееўне, крама, 13,68 кв. м.
117. Жыжамскай Міне, 170,80 кв. м.
118. Межву Івану Якубавічу, 227,29 кв. м.
119. Шмуйловічу Якубу, 429,7 кв. м.
120. Воранаўскай Бодзе Лейбаўне, 212,72 кв. м.
121. Палячак Хасі, крама, 10,73 кв. м.
122. Клышка Марыі Ігнац., 185,24 кв. м.
123. Мурыну Сцяпану Іосіфавічу, 194,54 кв. м.
124. Абрамовічу Іосіфу Іосіфавічу, 158,68 кв. м.
125. Пяркоўскай Іосіфе Людвікаўне, 216, 72 кв. м.
126. ..................................................... 243,73 кв. м.
127. Зяльдовіч Шэйне Абрамаўне, 207,42 кв. м.
128. Пупко Абраму Зелікавічу, 392,02 кв. м.
129. Сперскаму Міхаілу Канстанцінавічу, 147,53 кв. м.
130. Хрулю Браніславу Францавічу, 155,02 кв. м.
131. Астроўскай Уладзіславе Ўладзіміраўне, 214,46 кв. м.
132. Пупко Гіршу Носелевічу, 116,87 кв. м.
133. Катлярскаму Шлеме, 146,58 кв. м.
134. Фуксу Майсею Давыдавічу, 194,17 кв. м.
135. Лехвяровіч Еленіі Аляксандраўне, 150,31 кв. м.
136. Васілеўскаму Міхаілу Ніканоравічу, 335,57 кв. м.
137. Антановічу Антону Аляксандравічу, 187,60 кв. м.
138. Монскаму Веніяміну Нахманавічу, крама, 16,56 кв. м.
139. Урбановічу Адаму Іосіфавічу, 567,10 кв. м.
140. Пуйдаку Адаму Вікенцьевічу, 199,93 кв. м.
141. Баярскаму Палку Шлемавічу, 312,28 кв. м.
142. Высоцкаму Казіміру Іосіфавічу, 130,67 кв. м.
143. Салянскаму Марыяну Вікенцьевічу, 134,52 кв. м.
144. Лебедзеву Івану Іванавічу, 291,42 кв. м.
145. Тумялевіч Ганне Казіміраўне, 600,72 кв. м.
146. ............................................ дом, 115,76 кв. м.
147. безгас., 98,08 кв. м.

Залічыць муніцыпалізаваныя домаўласніцтвы ў жыллёвы фонд Лідскага гаржылкіравання.

Намеснік старшыні аблвыканкаму -
Абраменка".

Раздрукавана з беларускага парталу TUT.BY паводле інтэрвію **Аляксандра Татаранкі** з дазволу гісторыка.

**На фота:** жыхары Заходняй Беларусі. З асабістага архіву Аляксандра Татаранкі.

Такім чынам і ў Лідзе пытанне з забеспячэннем жыллём савецкіх функцыянераў вырашалася гэтак жа, як і ва ўсёй Баранавіцкай вобласці. Застаецца толькі здагадвацца пра лёс выселеных з уласных дамоў. Прынамсі пад № 64 у гэтым спісе ідзе слынны лідскі краязнавец Міхал Шымялевіч. Вядома, што сям'я Шымялевіча была вывезена ў Казахстан. Магчыма, нехта з чытачоў знойдзе знаёмыя прозвішчы і паведаміць пра лёс выселеных людзей, а ў гэтых 147 дамах іх жыло каля тысячы.

# “Для мяне паэзія – свята, а ў гэтым свяце шмат маіх сяброў”

## *Івану Гушчынскаму – 60 год*



Пазнаёміцца з Іванам Гушчынскім мне давялося ў самым канцы 90-х гадоў, калі я час ад часу наведваўся да паэта Віктара Бачарова, які працаваў на пасадзе дырэктара 13-ай школы г. Ліды. У той час тут працаваў і Іван Сцяпанавіч. Прызнаюся: я не ведаў, што паважаны І. Гушчынскі – таксама лідскі творца. Пра тое, што ён з’яўляецца паэтам, я даведаўся ў кнізе Бачарова “Дембель неизбежен”, дзе ў нізцы сяброўскіх шаржаў змешчаны верш “Мастацтва патрабуе ахвяр”. Адступлюся і скажу, што гэта адзіны беларускамоўны вершаваны твор Віктара Мітрафанавіча (у той час так казаў мне ён сам) напісаны як пародыя на верш “Толькі не будзі яе ты ранак…” Івана Гушчынскага. Далей маё знаёмства з паэзіяй Івана Гушчынскага прадоўжылася ў альманасе “Ад лідскіх муроў”, у падборках твораў літаратурнага аб’яднання “Суквецце” пры “Лідскай газеце”. Аднойчы я звярнуўся да Івана Сцяпанавіча з вершаваным пытаннем:

*Ляцяць кудысьці мае словы,*
*Вятрыскам разагнаныя,*
*Я без іх, як без падковы,*
*Конь не падкаваны.*
*Як злавіць іх, падкажыце,*
*Мае сябры-паэты,*
*Як усцішыць гэты вецер,*
*Адкрыйце мне сакрэты!*

Ён усміхнуўшыся, мне адказаў: *“Паспрабуй адчуць у паэзіі рытм і рыфму, вось тады гэты вятрыска і ўсцішыцца”*. Для мяне, паэта-пачаткоўца, гэтая парада мела важнае значэнне.

Успамінаю цікавы момант. Аднойчы ў госці “Літаратурна-музычнай гасцёўні” Лідскага радыё быў запрошаны Іван Гушчынскі. А паколькі па ўстаноўленай традыцыі, радыёпраграма праходзіла ў жывым эфіры, любы слухач мог задаць пытанне выступоўцу па тэлефоне. Гэты шанец выпаў мне: я спытаў у госця, калі ўбачыць свет яго паэтычны зборнік. Мяне Іван Сцяпанавіч заўпэўніў: зборнік выйдзе, ва ўсякім разе рыхтуецца і з кожным новым творам паўнее… Гэтае пытанне я яму напамінаў пры сустрэчах пасля неаднаразова, на якое атрымліваў: *“Павінен вось-вось выйсці…”*

І нарэшце наступіў доўгачаканы час. У чэрвені 2010 года паэт мне паведамляе прыемную навіну: на Купалле павінна выйсці ягоная кніжка. Чаму менавіта на Купалле? Урэшце-рэшт раскрылася гэтая затаемнасць: 7 ліпеня – дзень яго нараджэння. Узгаданая дата яшчэ больш усхвалявала: гэты ж дзень – дзень народзінаў беларускага нацыянальнага паэта - прарока Янкі Купалы – незвычайнае супадзенне! У гэты дзень, калі расцвітае папараць-кветка, навароджанаму даецца шчасце, якое ўсміхнулася імяніннікам Янкам (Іванам): усясветнаму Янку Купалу і лідзяніну Івану Гушчынскаму. Ну чым не шчасце быць паэтам?! А які ж ты паэт, калі не маеш сваёй кніжкі?! І. Гушчынскі яшчэ раз даказаў сваё прызванне ў сваім томіку вершаў “Ідзі і вяртайся”, які падпісаў мне так: *“Сябрук Алесь! Каб я не так доўга чакаў тваёй кніжкі, як ты маёй”*. Гэты подпіс быццам уваходзіць у вызначэнне “ты – мне, я – табе”. Ну што ж, калі так, то кніга аўтара артыкула рыхтуецца і з кожным новым творам папаўняецца.

Аднойчы мне ў рукі трапілі ўласнаручныя лісты, у якіх Іван Сцяпанавіч занатаваў свае невялічкія ўспаміны з жыцця. Чытаючы гэтыя рукапісы, адразу адчуваецца, што яшчэ з маленства ў асобе паважанага І. Гушчынскага сфармаваўся вобраз дасціпнага жартаўніка, майстра на штукарствы. Але падкрэслю, што гэтыя жыццёвыя эпізоды ў яго ўзнікалі і ўзнікаюць хіба што знянацку, ці, калі казаць літаратурным тэрмінам, экспромтам. Гэта яшчэ адна прыступка, на якой зазначаны творчыя гумарыстычныя вартасці нашага таленавітага лідзяніна. А вось і гэтыя занатаваныя радкі ўспамінаў (падаюцца ў арыгінале):

*“1. Дзень нараджэння – Купалле.*

*2. З дзяцінства адчуваў вялікую цягу да тэхнікі і мастацтва. З братамі разабралі і перанеслі дахаты замежную сеялку, каб дома зрабіць з яе не меней, чым самалёт. Абыйшлося. Стаў скульптарам. Прыйшлося таксама адмовіцца, бо суседу вельмі не спадабалася*



**1970 г. Пасля студэнцкай вечарыны: з правага боку І. Гушчынскі, з левага М. Мельнік.**

*наша скульптура. Яго каню – таксама. Гняды спужаўся і выкінуў нашага суседа ў гліністы роў, поўны вады."*

А далей аўтар успамінаў раскрывае сваю затаемнасць, як у яго сфармавалася цяга да творчасці:

*"3. Пазней паспрабаваў пісаць вершы. І да гэтай пары ніхто не супраць.*

*У дзяцінстве вельмі любіў казкі. Прыдумваў свае. А для тых, хто змяшчаўся на нашай печы, я быў папулярным ілгуном.*

*Нешта сталае і сур'ёзнае пра паэзію ўпершыню пачуў ад малодшага настаўніка рускай мовы і літаратуры Міколы Міцкевіча.*

*Свае "шэдэўры" пачаў друкаваць у школьнай газеце. Пазней, у інстытуце, Віктар Бачароў – рэдактар інстытуцкай літаратурнай газеты, надрукаваў некалькі маіх вершаў. Вельмі шмат карысных і сардэчных парад атрымаў ад нашага любімага выкладчыка Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча.*

*Па сённяшні дзень для мяне паэзія – свята, а ў гэтым свяце шмат маіх сяброў".*



**1971 г. Ля дома-музея песняра беларускага народа Якуба Коласа.**

Да гэтага ўсяго трэба дадаць, што паважаны Іван Сцяпанавіч нарадзіўся 7 ліпеня 1951 года ў вёсцы Парэчча Лідскага раёна. У 1968 годзе скончыў сярэднюю школу. У 1972 годзе закончыў філалагічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў школах



**1973 г. У салдатах (сяло Краснае, Маладзечанскі раён, інжынерна-сапёрны батальён).**

Лідчыны. У 1973-1974 гг. служыў у шэрагах Савецкай Арміі ў Беларускай вайсковай акрузе. Некаторы час працаваў на заводзе "Лідсельмаш". У друк увайшоў з 1974 года. З'яўляецца актыўным сябрам літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты".

Трэба адзначыць, што творчасць І. Гушчынскага не праходзіць бясследна. Яго неаднаразова вылучалі ў лік найлепшых творцаў Лідчыны. У 2006 годзе пры рэдакцыі "Лідскай газеты" у літаратурнай суполцы "Суквецце" праводзіўся творчы конкурс, прысвечаны В. Таўлаю. І. Гушчынскі за ўдзел у ім атрымаў 2 месца. Незадоўга пасля гэтай нагоды, ужо ў 2008 годзе,

паэтычны талент Івана Сцяпанавіча зноў не застаўся пры боку. У творчым конкурсе, аб’яўленым раённым выканаўчым камітэтам і рэдакцыяй “Лідскай газеты”, прымеркаваным да 685-годдзя заснавання г. Ліды, паважаны творца атрымаў таксама ўзнагароду. Яго верш “Я – лучнік твой” быў заўважаны журы з прафесарска-выкладчыцкага калектыву Гарадзенскага купалаўскага ўніверсітэта. Паэт быў узнагароджаны заахвочваючай прэміяй.

Лідчына і сапраўды багата на таленты, якія ўпрыгожваюць і ўзводзяць горад на паэтычную прыступку.

Томік І. Гушчынскага, які лёгка можа схавацца ў кішэні ўвабраў цэлы душэўны збор паэтычнай шматграннасці. Зборнік “Ідзі і вяртайся”, прысвечаны аўтарам сваёй маме, змяшчае ў сабе вершы, напісаныя ў розныя гады. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Васько ў прадмове пазначае: *“У сваёй творчасці Іван Гушчынскі ідзе ад жыцця да паэзіі, а да жыцця – праз паэзію. Карціць сказаць, што тэмы для сваіх вершаў ён не высмоктвае з пальца, а шукае іх у роднай вёсцы, на прасторах дарагіх яго сэрцу палеткаў, на дарогах Лідчыны і вуліцах горада, у асяроддзі сяброў і людзей, знаёмых і незнаёмых, ва ўсмешках дзяўчат, мігценні зорак і г. д.”*.

Паэзія тут living рознатэмавая: з грамадзянскім чуццём, філасофскім разважаннем, гумарыстычным поглядам. Зборнік кранае чытача душэўнасцю, сваеасаблівай эмацыянальнай прачуласцю, глыбінёй думак. Не забывае паэтычная душа і тое, што звязвае паэта, - гэта жыццёвыя карані родных мясцін. У адным з вершаў “Мая прыстань” аўтар прызнаецца:

*Упэўнены ў адным: ёсць месца, дзе*
*я захаваў стары, надзейны якар.*

*…А пірс пусты даўно пільнуе мама,*
*бліжэе далеч ад яе вачэй.*

У такім тэмавым кірунку ёсць і вершы “Малюнак дзяцінства”, “Гармонік грае”, “Дома”, “Вяртанне ў любы сэрцу край”, не забывае і свой горад у вершы “Я – лучнік твой”:

*З даўніны, як здалёку, рэкі*
*ў заўтра, як у мора, усе цякуць.*



***2006 г. Узнагароджванне за ўдзел у конкурсе, прысвечанаму паэту Валянціну Таўлаю.***

*А горад мой над ціхаю Лідзейкай*
*вякі дзявоцкім іменем завуць.*

Задумваецца аўтар і пра свой незвычайны дзень нараджэння:

*Кукавала зязюля ў бары:*
*ку-ку-раз,*
*ку-ку-два,*
*ку-ку-тры.*
*Можа ёю імя мне абрана*
*рана-раненька на Івана…*
*…Кукавала зязюля ў бары,*
*як сказаць,*
*ці то многа,*
*ці мала?*
*Скукаванае шчыра пражыў?*
*Што ж зязюля не скукавала?..*

Прысвячае паэт і верш свайму аднадзённаму імяніннікуЯнку Купалу (“Песні Купалы”):

*Кветкай шчасця цяжкога*
*зорка з неба ўпала*
*ў лес дрымучы і цёмны,*
*у лес нядолі людской.*
*Дзеўкі й хлопцы ў Купалле*
*дарма шчасце гукалі –*
*на якой яно сцежцы,*
*у старонцы якой?*

Назва зборніка Івана Гушчынскага нясе рэфрэнаўскі вокліч – загад: “Ідзі і вяртайся”, верш, які прысвечаны аднаму са сваіх сяброў-паэтаў – В. Бачарову. Героя верша вучаць бацькі, сястра, сябры, даюць яму жыццёвыя парады перад нязведанай дарогай: “*ад зла не хавайся*”, “*будзь моцным, сынуля*”, “*зграшыў, дык пакайся*”, “*з сябрамі не цесна на шумным Парнасе*”. Але да ўсяго гэтага герою напамінаюць: “*Ідзі і вяртайся*”.

Прысвяціў аўтар свайму сябру і іншыя вершы: “Падаюць яблыкі, падаюць яблыкі”, “Пастух”. Ёсць прысвячэнні М. Мельніку (“Сярэбраныя пеўнікі”, “Наша слова”), Л. Вінніку (“Патухлая зорка”), У. Мельнікаву (“Мастацтва і жыццё”), У. Васько (“Грузчык”), Г. Зубрыцкаму (“Праўда і страх”), С. Сліўко (“Смарагд – не камень”) і інш.

Пра тое, што І. Гушчынскі з’яўляецца ў нейкім сэнсе гумарыстам, я ўпэўніўся чытаючы радкі ў вышэй названым зборніку. Умее Іван Сцяпанавіч убачыць незвычайнае харастворыцце жыцця ў жанры гумару. Верш “Як свата стryглі” высмейвае цырульніка, які добра падпіты падстрыг свата так, што “*валасы з-пад тае меркі каб маглі, то ўсталі б*”, а ўсё з-за таго, што “*ты ж* (жонка) *паставіла, скупая, малую пасуду*”. І дадае аўтар у якасці маралі, што “*як цябе, ці ты стрыжэш – не забудзь пра дзверы*”. Гумарыстычным пяром напісаны “Тост”, “Чый дзед большы”, “Цёшчына загадка”, “Пекла”, “Кум” і іншыя.

Напэўна няма паэта, які б не пісаў вершы на інтымную тэматыку?! Іван Сцяпанавіч адзін з іх. У яго




**2007 г. Сярод сяброў літаратурнага аб'яднання "Суквецце" на вечары памяці паэта Леаніда Вінніка.**



**2007 г. Сярод літаратараў Лідчыны на вечары памяці паэта Смарагда Сліўко.**

*спіною адчуе крылы, хто ідзе ўсё жыццё да цябе*", "*у забытай тузе і знямозе, хто абняў і цалуе цябе*".

Як і сказана вышэй, зборнік невялікага памеру і з невялікім накладам асобнікаў. Але знайсці ў гэтым выданні можна вялікія каштоўнасці як мастацкіх сродкаў (што вельмі важна для паэта), так і жыццёвых разваг і парад. Важна, што паэт бачыць тыя з'явы, якія не ўяўляюцца простаму чалавеку. Лірычны герой (ці ён жывая ці персаніфікаваная істота) І. Гушчынскім надзелены шматлікімі рысамі, мікравобразамі. Паэт параўноўвае ("*станцыя, як запісная кніжка*"), параўноўвае і разам з тым адухаўляе ("*горад крылы – вуліцы раскінуў*", "*душы пялёсткі... паляцелі*", "*зямля напухла пад падталым лісцем*"), увасабляе ("*халады прыгарцуюць на спінах вятроў*"). З густам паэт увіхаецца складанымі мастацкімі сродкамі пры адлюстраванні прыроднага хараства. Спалучаючы тропы – метафару і эпітэт, як наватворны паказчык (метафарычны эпітэт) ("*ноч узяла ў пуховыя далоні твой твар з усмешкай дня*", "*намаляваў у паўзмроку невыразна туман пушысты лесу ўздых"*), І. Гушчынскі надае пры гэтым ажыўленчую асаблівасць твору. Фарбавальнымі сродкамі – метафарай падаецца і такая якасная фраза "*спадзяванняў сіні парашут*", эпітэтамі "*у туманах беласонных*", "*нямая няўтульнасць забытых садоў*".

багаты арсенал такой лірыкі ("Зорка мая", "Ягадамаліна", "Да цябе, да цябе, да цябе", "Вальс", "Да цябе"). У адным з іх ён па-свойму разважае так:

*Зорка мая!*
*У вечар позняга лета*
*ты й на зямлі,*
*хоць далёка, а ёсць...*
*...А ці будуць шчаслівымі*
*нашы ў выраі сэрцы,*
*між планетаў – адзіныя,*
*між людзей – адзінокія?*

У вобразе каханага ён прызнаецца, што "*аб спакоі не зведае многа той, хто думае пра цябе*", "*і цябе не забудзе ніколі той, хто бачыць і чуе цябе*", "*за*

Здаецца, што свет, наваколле, прырода, уся тая рэчаіснасці, якая часцей сустракаецца з чалавекам, пры дотыку, пры позірку Івана Сцяпанавіча нібыта казачна ажывае, дыхае, гаворыць з чытачом, як у чароўную ноч на Купалле.

Пад выказваннем "Малы залатнік ды дарагі" падразумець можна і кніжку лідскага творцы Івана Гушчынскага. Яна, як і люстэрка бачання адваротных з'яў жыцця, прапануе прайсці ў яго і адчуць лёсавызначальныя затаемнасці, але і напамінае чытачу, што неабходна адтуль і вярнуцца ў гэты жыццёва-бурлівы свет: "Ідзі і вяртайся!"

**Алесь Хітрун,**
*кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Суквецце".*

*PS: Матэрыял Алеся Хітруна пра паэта Івана Гушчынскага можна прачытаць у газеце “Наша слова” пад назвай “Крокі ў затаемнасць з выйсцем у прастору жыццёва-бурлівага свету Івана Гушчынскага” (6 кастрычніка, 2010 год, № 40 (983), стар.4); а таксама падборку вершаў да юбілею “А за лугам гармонік грае песню даўніх шчаслівых дарог”у “Лідскай газеце” з уступным словам Уладзіміра Васько (5 ліпеня, 2011 год, № 74 (12036), стар.6); у літаратурна-мастацкіх часопісах “Ад лідскіх муроў” (2001, № 1/5, стар.23-26; 2010-2011, № 7, стар.53-57) і ў іншым друку.*

***Івану Гушчынскаму – даўняму і вернаму сябру, таленавітаму паэту.***

Нарадзіўся ты на Купалле,
У шчаслівую ліпеня ночку,
Мой сябрук-весялун Іване, –
І паэт, і каваль, і “свой у дошку”…

Ты жыў і жывеш у натхненні
І нялёгка, ды ў дружбе аддаены –
Не такі, як штучныя геніі –
Ад зямлі і жыцця пазваны.

Хай дасць Бог табе вечную сілу,
Жыццястойкасць і светлую долю,
Каб зямля цябе доўга насіла
На Пегасе ўтрапёным і вольным.

*1997 г. З павагай Міхась Мельнік.*

**Падборка вершаў Івана Гушчынскага**

**Пракляцце**

Пракляла, вядзьмарка, пракляла!
Скуль у словах гэтакая сіла?
Вокам, нібы брытвай павяла,
а на словах толькі дадала:
Каб цябе зямелька не насіла!

Прыкладуся толькі да віна,
да гарэлкі толькі прыкладуся –
слабнуць рукі, ногі і спіна,
не трымае плот, вушак, сцяна,
як зямля не носіць – то й валюся.

**Кум**

- Хто ў хрысціны на сяле
шкадаваў гарэлкі мне?
– Кум.

- Хто крычаў, што яму мала,
калі кумка падлівала?
– Кум.

- Хто пужаў, каб не маргала,
мяне локцем не штурхала?
– Кум.

- Хто куму павёў дадому
ля капы ржаной саломы?
– Кум.

- Хто да копкі не дайшоў,
п’яны плюснуўся ў роў?
– Кум.

- Хто не бачыў, як на полі
кумцы ржышча спінку коле?
– Кум.

**Вішні**

Стомленае сонца
ў кошык вішань ўпала.
Ой, чаму ж для хлопца
гэтых вішань мала?

Не частуй, красуня,
вішняй каля хаты:
нос суседка суне,
блізка мама, тата.

Пахне вішняй спелай
і салодкай самай
твая шчочка злева,
твая шчочка справа.

Не дрыжы ты голлем,
вішняк чырванюткі.
Ды за ўсё найболей
пахнуць вішняй губкі.

– У цябе, Ванюха,
нос – ой не дурак!
Толькі ты панюхай
лепей мой кулак.

І калі ты самы
сярод ўсіх насаты –
йдзем тады да мамы,
йдзем тады да таты.

**Эскіз**

Накрэйзаў у паўзмроку невыразна
туман пушысты лесу ўздых – эскіз.
Вясенні вецер хутка клямкай бразне,
вясна шугне, як з горкі стромкай, ўніз.

Зямля напухла пад падталым снегам,
шукаюць сонца сосны ў вышыні,
а недзе там, за лесам і за светам,
наш бусел лічыць да спаткання дні.





***2009 г. З Міхасём Мельнікам у скверы Францішка Скарыны і насупраць замка.***

Туманным гэтым ціхім раннем
і знізу ўверх, і зверху ўніз
гляджу – пішу эскіз чакання
і лесу лёгкі ўздых – эскіз.

**Зорка мая**

*Кацярыне*

Зорка мая!
Табой здзіўлены вечар.
Развітаемся з летам –
адлётным птахам.
Вандравалі мы доўга
да нашай сустрэчы
па халодных ваколіцах
Млечнага шляху.

Лёс надзяліў нас
гэтым казачнам светам,
назаўжды знепакоіў,
падарыў прыгажосць.
Зорка мая!
У вечар позняга лета
ты й на зямлі,
хоць далёка, а ёсць.

І хоць гэта пара
яшчэ летам завецца,
Спас буслоў устрывожыў
дарогай далёкаю.
А ці будуць шчаслівымі
нашы ў выраі сэрцы,
між планетаў – адзіныя,
між людзей – адзінокія?

**Наша слова**

*Міхасю Мельніку*

Падмануць паспытае Бога
падмануўшы даўно сябе,
аб спакоі не зведае многа
той, хто думае пра цябе.

Без развагі аб волі – няволі
з райскіх кратаў замкі саб'е,
і цябе не забудзе ніколі
той, хто бачыць і чуе цябе.

Не скрадзе пуцявіна сілы,
калі ты ўжо не сам па сабе.
За спіною адчуе крылы,
хто ідзе ўсё жыццё да цябе.

Шчасце нават у гэтай дарозе.
І з крыніцы ратунку п'е,
у забытай тузе і знямозе,
хто абняў і цалуе цябе.

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Першая п'янка**

Адразу пасля ранняга вялікадня бацькі з сёстрамі перабраліся у Банева. Я застаўся адзін у даволі вялікім памяшканні. Хацелася неяк той факт увекавечыць. Адгэтуль задума арганізацыі першай кавалерскай гулянкі.

Паўжартам прызначылі яе на 1 траўня. Жарт не вельмі ўдаўся: уласна першага аказалася, што з чацвёрткі ўдзельнікаў (меў быць таксама Генрык Плунгус, кватарант Максімовіча) аж два, уласна Геня і Стах не былі дапушчаны да экзаменаў.

Не гледзячы на гэта, да гулянкі мы рыхтаваліся вельмі старанна. Купілі нейкіх вяндлін, кансерваў, слодычаў і нешта з пяць бутэлек гарэлкі. Ажно столькі, бо ні адзін з нас не меў разумення, што гэта на практыцы абазначае. Што яшчэ горш, кожная бутэлька была інакшай: нейкая лімонаўка, вішнёўка, нешта там яшчэ. На дэсерт узялі бутэльку фантастычнага лікёру "Абрыкаціна", бо так прыгожа памяранцава пераліваўся.

У цудоўным гуморы – не гледзячы на аж двух "зарэзаных" – уселіся за стол. Першыя кілішкі гумор той яшчэ паправілі. Папраўдзе гарэлка мае, як аказалася, смак агідны, але пры дробку волі можна было гэта вытрымаць. Тым больш, што наступныя кілішкі ішлі што раз лацвей.

Гаварылі, крычалі ўсе адразу. Плунгус, моцны, невысокі, самаміты, спакойны літовец, таксама раскруціўся. Мы ўтраіх папросту шалелі. Потым як бы ранні змрок засланіў нам вочы. Потым раптам мы спасціглі, што Плунгус недзе прапаў. Са страшнай сумятнёй мы кінуліся яго шукаць, бо нам раптам здалося, што яго адсутнасць нясе нам невядома якую пагрозу. Неверагодна, ні ў адным з пакояў яго не было. Упалі ў паніку, пачалі лазіць на чацвярэньках. І ато пад ложкам Плунгус, таўсматы, ужо з жывоцікам, ляжыць адзірвянела на тым сваім жывоціку, ногі ў паветры, галава ў паветры і ўсміхаецца не без страху. Кідаемся на яго, як на злачынцу, цягнем да сталовай, уліваем яму у рот штрафныя келіхі гарэлкі. Скончылася жоўтая лімонаўка, пераходзім нарэшце да абрыкатыну. Якая ж латвая гэтая п'янка. Пяць бутэлек на чатыры нямоцныя яшчэ, здавалася б галавы, а між тым усё цудоўна. Як ні паглядзі. Астатняя бутэлька аказалася найлепшая. Такое салодкае! Такое пахучае! Такое прыгожае! Кропля ўпадзе на стол, застывае як кроў ці жывіца, толькі што пахне амаль як парфума.

Зноў нейкі закалот нехта спрабуе ўцячы, напэўна Шрэдар. Хапаем яго ўпол. Вырываецца, дабягае да дзвярэй, і раптам бухае яму з роту казачны каляровы струмень.

Трагічна хуткі пераход ад эйфарыі да прастрацыі. Недапіты келішак абрыкатыну, ліпкая чырвань, водар парфумы – і вось па чарзе ўсе вылятаюць і "едуць у Рыгу".

Пераможца той, каму ўдаецца дабегчы да кухні. Потым засынаем абы дзе, чартоўскі лёгка, з агідным але няясным, агульным пачуццём граху. Прачынаемся назаўтра з тым жа пачуццём, памножаным на бруд і беспарадак. Цверазеем у імгненне вока: праз пару гадзін мае прыехаць сюды бацька. Добрыя справы: усё памяшканне – гэта нават не гумно, гэта звычайны хлеў. Падымаю ўсіх астатніх на ногі. З гвалтам кідаемся да парадку. Усё ўдалося неяк вычысціць, толькі тая сцяна ў сталовай, дзе Шрэдар... Раптоўна прыдумваем версію пра атручванне страўніка. Нічога. Неяк абышлося. Бацькі здавалі сабе справу, што не трэба ў тыя дні акурат мяне нерваваць: а то ж экзамены на атэстат сталасці.

**Ягміновы і экзамены на атэстат сталасці**

Як раз у той час прыехалі да іх у адведзіны даўнія суседзі, кватаранты бабкі, Ягміновы. Яны стала жылі ў Вільні за кошт малой пенсіі. Пэўна, каб трохі паправіцца, праз кожныя некалькі месяцаў прыязджалі да нас на даўгаваты побыт. Ён меў ужо гадоў семдзесят з нечым, белую, як тая папера (гэта значыць лёгка жаўтаватую) бародку а ля Напалеон III, вялікі жывот і, як казалі, плюгавы язык. Яна малодшая за яго на гадоў, хіба, трыццаць, маленькая, поўная, набожная, пляткарка, някепская гаспадыня. Усе іхнія побыты мелі аднолькавы шаблонны характар. Маці вітала абоіх, як блізкую радню. Першы дзень мінаў у бясконцых размовах пра Менск. На другі дзень было горай. Стары пачынаў нудзіцца, спрабаваў свае не дасціпныя, але затое ардынарныя жарты, лазіў па кухні, заглядваў у посуд. На трэці дзень маці была ўжо досыць расчараваная ў Ягміне. Выганяла яго паўжартам з кухні. Чацвёртага дня даходзіла да першай спрэчкі з Ягміновай на тэму рэлігіі. Маці па сутнасці, размаўляючы з ёю, станавілася што раз больш зацятай атэісткай. Пятага дня сварка ўзнікала ў цэлым абы за што. Ягмінова сядзела ціха на табурэтцы,

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POLWIEKU. Mlodosc."** Czytelnik, Warszawa, 1962.

звесіўшы кароткія, тостыя ножкі, і з прытворным уздыханнем цадзіла праз зубы чарговую, нявінную, здавалася, рэпліку, якая неадкладна выклікала выбух у маці. На шосты дзень маці дэманстратыўна пазбягала размовы з ёй. І той стан "халоднай вайны" трываў у наступныя дні: сёмы, восьмы, дзевяты - да дзесятага. Часам да чатырнаццатага. Ягміновы не зрушваліся раней, пакуль ім не аплачваліся выдаткі на чыгуначны білет, хаця яны як чыгуначныя пенсіянеры мелі вялізныя скідкі.

Ну дык прыехалі: у выдатных настроях (бо гэта быў яшчэ першы дзень) усе рушылі ў Банева.

Я тым часам пасля "цудоўнай" п'янкі ўзяўся за экзамены. Як я пераканаўся потым, усялякая падрыхтоўка да экзамену дзялілася ў мяне на тры этапы. Першы, які трываў вельмі доўга - гэта тады, калі нічога не рабіў, цалкам перакананы, што гэта ўсё глупства, што спраўлюся з усім адным пальцам. Потым, калі ўсё ж заглядваў да кніжкі, агортвала мяне паніка, што нічога не ўмею. Гэтае мілае перакананне ўзрастала па меры вучэння, дасягаючы кульмінацыйнага пункта ў момант прыступлення да экзамену. Выкліканы камісіяй ці сядаючы да століка з тэмай - быў ужо абсалютна спакойным. Думаю, што такая схема пачуццёвых станаў з'яўляецца тыповай для маладзёнаў гультаяватых і амбітных, якія маюць спартовы падыход не толькі да спорту, але і да навукі, і, нават, да многіх спраў намнога важнейшых.

Мы здавалі экзамен разам з дзяўчатамі з 8-б. Не было сярод іх больш цікавых за Марыам Рабіновіч. Былі толькі больш працавітыя. У суме сабралася нас трыццаць з нечым, каб ударыць у страшны тон пальшчызны "дамска-мужчынскай".

Тры дні пісьмовых экзаменаў. Цёмная гімнастычная зала, шырока парасстаўляныя столікі, папера з пячаткай, тэмы. Вокны перапоўненыя асляпляльным травеньскім сонцам, далёка маячыць якраз толькі што расцвілы бэз.

Па польскай тры тэмы. Нешта пра "Трэнаў". Нешта з Міцкевіча. Нарэшце нейкая "вольная" тэма. Але, як вядома, можна было выбіраць: польская ці гісторыя. І гэта ўжо ўплыў выкладчыка: выбраў гісторыю, так мне абрыд Неснар з яго Аршулькамі, Густавамі, Ангелямі... Не памятаю, якую гістарычную тэму я выбраў. Памятаю толькі схіленыя плечы таварышаў, выкладчыкаў на сцэне, якія сумавалі начале з Неснарам і тое пачуцце, якое маеш падчас гульні ў маджонгу ці латарэю: кожная чарговая лічба можа прывесці да таго, што нехта з суседзяў устане і спакойна скажа: "Я закончыў..."

Я закончыў адным з першых. На наступны дзень - матэматыка або фізіка. Выбраў першую. І тут пайшло не кепска, хоць быў у ёй значна слабейшы. Справа ў тым, што пару разоў, яшчэ ў папярэднія гады, хварэў, прапускаў часам аж некалькі тыдняў. Потым не хацелася мне вяртацца, хапаў тое новае, што прыносіў Калесон, і заставаліся ў мяне досыць значныя дзіркі. На шчасце цяпер ні на што такое не трапіў. Нарэшце трэці дзень: выбраў лаціну, а не французскую. Быў гэта пераклад, здаецца з Вергілія. Тым часам функцыянавала школьная "самадапамога". Левінсон, здаецца, падрыхтаваў шпаргалку, якую потым пераказвалі ўрыўкамі тым, каму найбольш было трэба. Мне яна не была патрэбная, кавалак быў мне з большага знаёмы, зрэшты лаціну я любіў. Ці завалілі каго на пісьмовым? Здаецца, што так. Але дакладна не памятаю. Вусныя праляцелі бліскавічна і цалкам без клопатаў. Памятаем, што мы ўчацвярых: Левінсон, Файштэйн, Шрэдар і я ахвяраваліся пайсці першымі, таму што астатнія хацелі ўрваць пару дзён, ці пару гадзін, каб хоць трохі падцягнуцца. Мы хадзілі з аднаго класа ў другі, ад аднаго настаўніка да другога. Ішло не кепска, добра, пад канец па-простую прыемна.

Па сутнасці справы я пачуваўся на тых экзаменах неяк дзіўна: як чалавек, які рыхтуецца несці цяжкі чамадан, бярэ яго і ўжо загадзя нахіляецца ў супрацьлеглы бок. А тут чамадан аказваецца намнога лягчэйшым, чым думаў.

Але атэстат меў сярэдні: зашмат чацвёрак. Замала пяцёрак, хоць і без троек. Левінсон меў мусіць адны пяцёркі. Файнштэйн таксама, Клебан бадай што выглядаў "лічбава" лепей, хоць напрыклад Шрэдар меў нават тройкі. Адзін заваліўся па вусным: згаданы ўжо Бронак Здановіч.

Не памятаю анічога з выдання атэстатаў, з нейкага сціплай супольнай бяседы. Бачу сябе ўжо толькі ў дарозе да Банева. Сонечна, тым ярчэй, што перш за ўсё гэта травень, бярозкі толькі што пачалі выпускаць свае блякла-зялёныя, амаль ружовыя лісцікі, пясок блішчыць, і толькі сосны здаюцца чарнейшымі, чым на самай справе.

Калі з адкрытых лугоў пад Пескамі ўязджаю ў першыя загайнікі - агарняе мяне цяпло і цудоўны водар маладой зелені. Я ў трансе. Лячу, што сілы. Хутчэй бы дадому. Паказаць атэстат наслухацца кампліментаў абоіх Ягмінаў. Прыняць стрыманае паляпванне па плячы бацькі, гарачыя абдымкі маці, нямое захапленне сясцёр. Тая вясна мяне акрыляла. Вось канец "Нямецкай шашы", злева далёкія Месяцавыя горы. Дарога з Ганчароў на Дакудава, хутчэй, хутчэй. Паварочваю на сцежку, мінаю ўжо саснякі, лячу, фінішую, яшчэ два павароты. Высокі плот, брама, падворак. Ускокваю на ганак. Званю няспынна, каб прасігналіць пра сваё вяртанне. Канешне, маці выходзіць у сені. Усміхаюся ва ўвесь твар, нешта крычу. Маці глядзіць на мяне дзіўным поглядам, без ценю ўсмешкі. Я ўжо каля яе, гаворыць у паўголасу:

- Пан Ягмін памёр!

Ён ляжаў у тым вялікім пакоі. Таксама вялікі, белы, з западлымі шчокамі, Ягмінова плакала збоку.

Адвезлі яго ў Ліду. Там адбылося пахаванне. Часам я хадзіў на могілкі, глядзеў на белую таблічку. Яго ўдава прыязджала да нас аж да выбуху вайны. Перажыла яе, яшчэ сёння, праз трыццаць гадоў, даходзяць да нас весткі - жыве ў Вільні, амаль аслепла, але жыве. Пісала да мяне ў 1952, мабыць, годзе, просячы... "Рэчаіснасці".

**Рэкорды**

Лета, чароўнае наднёманскае лета выбухнула цяпер ва ўсёй сваёй пышнасці. Каля Асяродка быў вялізны залацісты пляж. Мы вылежваліся там цэлымі

днямі. Плавалі. Было сумна, але прыгожа. Здаецца ў той час адбылася паездка ў Познань на PWK. Нічога з яе не запомніў, можа толькі заапарк з вельмі прыгожымі мядзведзікамі і страўсамі.

Што раз усё больш пачаў мяне цікавіць спорт і асабліва лёгкая атлетыка. Можа часткова ад нуды. Я рэгулярна купляў "Спартовы агляд". У нейкім мейсцы вычытаў, як ангельскі высакародны аматар з вельмі заможнай сям'і зрабіў сабе ў маёнтку па ўсіх правілах бегавую дарожку і нічога не рабіў, адно бегаў, захоўваючы недатыкальным цвет аматарства. Вельмі гэта на мяне падзейнічала. Агледзеў нанава ўсё наша Банева. Участак налічваў трыццаць га. На жаль былі гэта вельмі змарнелыя сасновыя ляскі. Сосны старыя, нават не саджаныя, выраслыя стыхійна на тых няўдобіцах, былі моцныя, разложыстыя, нізкія, з галінамі вычурна павыцягнутымі ва ўсе бокі. Некалькі кавалкаў ворнай зямлі ў разлік не ішлі. Нарэшце выбраў пад стадыён прадаўгаваты кавалак маладых, досыць рэдкіх кусцікаў. Размеціў круг для штурхання ядра. Зрабіў поле для кідання дыска і дзіды, ямы для скачкоў ўдалеч і ўвысь, нават бегавую дарожку на 110 метраў з бар'ерамі. Для гэтага цэлы дзень пілаваў альховыя жэрдкі, потым хадзіў, мераў, утыкаў тыя палкі. Бегавую дарожку на кароткія дыстанцыі я зрабіў каля дарогі, якая бегла цераз участак каля таго стадыёна. Збоку ад каляін там была вузенькая сцежка, выезджаная раварамі, не такая ўжо і кепская.

Адмерыў на ёй сто метраў, дзвесці, чатырыста. Наступныя дыстанцыі былі лёгкія: дабягеаш да канца, робіш раптоўны паварот на 180 гр. і імчышся назад. І наогул бег быў разнастайны: дарожка пачыналася досыць роўна, потым трохі спадала, пазней лезла пад гору.

Можна сабе ўявіць час, які на такой дарожцы дасягаўся. Цікавай, зрэшты, была і методыка засечкі таго часу. Я атрымаў ад бацькі вялізную цяжкую цыбуліну "Амега", вырабленую яшчэ перад вайной. Браў яе ў левую руку і прыкленчыўшы глядзеў, калі стрэлка секундамера пачынае даходзіць да якой-небудзь больш саліднай лічбы. Тады ўставаў з калень, сам сабе камандаваў: “На мейсцы, гатовы, гоп!” - і вырываўся з нізкага старту. Імчаўся наперад, рэзка размахваючы абедзвюмя рукамі, у тым ліку і той левай з заціснутым гадзіннікам. Калі дасягаў мэты, зноў жа належала было своечасова зыркнуць на стрэлку. Секунды - гэта было яшчэ глупства. Але тыя дзесятыя! Стрэлка ішла неяк скачкамі ад адной секунды да другой мела іх з тры. Трэба было вызначаць "на вока".

Вызначаў. Была гэта смешная і знакамітая забава з самім сабой. Я ўстанавіў лісты банеўсскіх рэкордаў. Магу засведчыць: гэта вельмі ажывіла спартовую дзейнасць. Жаданне перакрэслення аднаго і ўпісванне другога выніку вельмі выдатна падганяла мяне на бегавую дарожку, у сектар для кідання і яму для скачкоў.

Па чарзе разыгрываў у сваёй душы спектаклі некалькіх розных спартовых прафесій. Найперш спарцмен: вельмі яму хацелася таго рэкорду. Потым суддзя: таксама хацеў, але як так нацягваць, самому сябе ашукваць?.. Потым арганізатар: о гэты гатовы на ашуканства, асабліва калі набліжаецца канец нейкага перыяду, тыдня, месяца, і адсутнасць новага рэкорду становіцца відавочным довадам заміраньня, упадку ўсёй той лёгкай атлетыкі. Заблытаўшыся ў той унутранай вазьні, бываў наведваны (хоць рэдка) прыступамі здаровага сэнсу: каго ж ты хочаш ашукаць? Каму патрэбныя тыя дутыя вынікі?

Бо былі і дутыя, прызнаю. На 100 метраў меў у гімназіі афіцыйны час 13,2 сек. Канешне, потым паправіў яго, але на колькі? Пасля ваганняў згадзіўся на 12,2 сек. Таксама не шмат, але выглядала больш зносна. Скачкі ў даўжыню трэніраваў заўзята. Тут вынікі ўдавалася мерць аб'ектыўна. Скакаў 570, 580. Пару раз з поўнай дакладнасцю меў на 590. Але ж не ўстрымаўся і нейкі вельмі ўдачны скачок "дацiснуў" да 602 см. Тыя два дадаў ужо цалкам нахабна, каб "гучала больш праўдападобна". Тое самае было са скачкамі увышыню. 150, 155 браў шматразова. Восенню наступнага году ў Лідзе трапіў выпадкова па агульнагарадскія лёгкаатлетычныя спаборніцтва і пайшоў на скачкі ўвышыню. Не гледзечы на адсутнасць хоць якога стылю, перамог усіх, дасягнуўшы 157 см. Не было гэта ўжо і так трагічна. Таму што ў 1927 годзе чэмпіёнам Польшчы стаў Мераеўскі, скокнуўшы ледзьве 165 см. Я тут скакаў, скакаў, а 160 скочыць не мог, і калі адчуў, што ўжо не пасоўваюся наперад, нейкі са скачкоў "выцягнуў" на 160,5 см.

Яшчэ смяшней было са скачкамі з тычкай. Аніяк не патрапляў абаперціся на той кій і выкінуць цела ўверх. Рабіў так: бег да стоек з тычкай, у пэўны момант кідаў яе ўбок і звычайна, ножнамі скакаў. Вынікі былі адпаведныя: рэкорд дасягаў 145 см.

У кідках было яшчэ горш. Але якое гэта мае значэнне? Кідаў, бегаў, скакаў. Лета мінала. Я вучыўся падганяць бег часу ва ўмовах абсалютнай самотнасці. Спорт быў адным са спосабаў, не адзіным. Калі мяне адвозілі на цягнік, то са страху, каб не спазніцца выязджалі так загадзя, што на мейсцы марнаваў гадзіну і болей на чаканне. Як жа латва яе запоўніць, калі ёсць тая спартовая жылка і драбніца ўяўлення. Дастаткова старой бляшанкі і жмені сасновых шышак. Кідай так, каб патрапіць усярэдзіну. Навучыўся? Ну то бі рэкорды: колькі патрапіш на сто кідкоў. Глядзі толькі, каб не праваронiць цягніка.

**Перад ад'ездам**

Мінойты былі першым прыпынкам на лініі Ліда-Баранавічы. Была тут толькі будка дарожніка. Колькі тут насядзеўся, накідаўся тых шышак, намарыўся...

Напэўна ў жніўні прыехаў сюды з бацькам. З мноства дарог, якія павінен быў выбраць, адкінуў усе. І абедзве хіміі як "чыстую", так і тэхнічную, і паланістыку. Па-просту пасварыўся з бацькам. Сам не памятаю, за што. Сам факт сваркі ўжо быў доказам майго ўзвышэння: дагэтуль я мог толькі выслухваць чарговыя наганяі. Пэўна і цяпер сам сябе пераканаў, што пасварыўся з бацькам, а напраўду ён мне нешта папросту прыгадаў. Здаецца, што сцвердзіў відавочны факт: я знаходжуся на яго ўтрыманні.

Абразіўся. Пастанавіў сыйсці з яго ўтрымання. Былі толькі два спосабы, якія давалі адразу такую магчы-

масць: духоўная семінарыя і школа падхарунжых.

І вось бацька вязе мяне на ўступны экзамен у школу падхарунжых. Хоча нейк сваёй прысутнасцю павысіць мае шанцы: няхай бачыць, што гэта ўжо другое вайсковае пакаленне...

Едзем праз Ваўкавыск, нейкі час хуткім цягніком. У тамбуры, о дзіва, сапраўдны англічанін. Вылупіўся на яго: вось той ідэал Шрэдара і Маслінскага. Англічанін сапраўды ідэальны - шэрая спартовая вопратка, люлька ў зубах, чытае "Таймс". Калі газета яго падае на падлогу, я раблю амаль "ластаўку", каб падняць газету. Цэдзіць праз зубы, нешто падобнае на "дзякуй".

Не аднаго ўспаміну з экзамену ў Астрове Мазавецкай. Ведаю толькі, што адзінай перашкодай была медкамісія. Прызналі, што сэрца не ідэальнае, што зрок не добры. Але бацькоўскі мундзір сыграў сваю ролю, мяне прынялі.

Апошні месяц, ці трохі больш, быў у Баневе. Я хадзіў па асеннім лесе, збіраў грыбы. У зараслінах перад Месяцавымі гарамі, на велізарных шапатлівых палях брусніц траплялiся вялікія, пераважна старыя баравікі. У нашых загайніках былі "зінвентарызаваны" ўсе "грыбныя" мейсцы. Было вядома, што пад кустамі ядлоўцу сядзіць сям'я брунетаў з практычна чорнымі галоўкамі, а ў гэтых сасняках размнажаюцца такія больш шатэнавейшыя. Што, колькі разоў пойдзеш у невялікі загайнік асін пры ўчастку суседа Лявончыка, столькі разоў знойдзеш пару прынамсі ярка-чырвоных падасінавікаў.

Той шматок лесу я знаў як свае пяць пальцаў. Канешне, я і тут паназываў усё, што ўдалося. Быў Вялікі Бор - гэта паласа тых старэйшых, каржакаватых сосен. Была Пушча - дваццацігадоўкі, густа саджаныя, цераз якія цяжка было прадрацца, так былі пераплецены сухія ніжнія галіны. І ў той Пушчы кожны лапік таксама называўся па-своему: Спрыпучая Пушча (нейкіх сто крокаў на сто пяцьдзесят), Небяспечная: бо тут расла прыкрая трава з вострымі крыямі, якая тэарэтычна магла пакалечыць неасцярожнага падарожніка, Пушча Зялёных Імхоў, найпрыгажэйшая, як сама назва паказвае.

На той вышэйшай палове ўчастка, на тых рудых пясках раслі толькі сосны, трохі бярозак, трохі асін. Зрэдку, дзе-нідзе, страляла ўгору цёмна-зялёная гатычная фігула ёлкі. Не паверыце, я абышоў усе загайнікі, паадкрываў усе ёлкі. Кожная з іх атрымала сваё імя, напісанае тушшу на лучыне, убітай у зямлю каля яе падножжа. Адна з найпышнейшых называлася Міранда.

Кожны такі крок, кожны жэст заставаўся. Выпрацоўвалася нейкая свойская блізкасць паміж чалавекам і тым шматком зямлі. Ці гэта інстынкт уладання. Канешне, нешта з пачуцця ўласнасці ў тым было: напрыклад зайздрасць і непрыязнь да іншых, якія лезлі па грыбы ў Скрыпучую Пушчу, а тым больш да Вялікага Бору. Было таксама і нешта іншае. Калі сёння ў Крыжах на Мазурах пераўжываю нешта цёплае, мінаючы жменю асінак з году ў год што раз буйнейшых, перажываю кожны раз тое самае, што адчуваў трыццаць гадоў назад, толькі ў форме больш лагоднай без тых перадумоў да зайздрасці і прэтэнзій да чужых.

**"Не кахай нікога акрамя сямнасткі..."**

Восень нарэшце разгулялася. Дажджы дзень у дзень. Імгла над Нёманам, на Багданцы. Над Жабіраем крычаць жураўлі. Заўсёды ў гэты час пачынаўся новы школьны год, новыя таварышы, новыя падручнікі, клас. Усё гэта сцірала непазбежны асенні смутак, тым больш кранальны на вёсцы, чым больш яскравыя былі яшчэ такія нядаўнія выбухі прыгажосці лета.

Я не мог дачакацца выезду. Атрымаў накіраванне ў 17-ты полк пяхоты, дыслакаваны ў Жэшаве. Раскіданы дзень. Каштан - наш конік - бяжыць трушком праз Пескі, Мінойты.

Наперадзе была доўгая дарога з цэлай кучай перасадак. Тут і там трэба было чакаць па добрых некалькі гадзін. У Лукаве швэндаўся па мястэчку. Быў ашаломлены: нешта яшчэ больш смутнае, чым Ліда. Ішоў гледзячы бессэнсоўна на будкі крамак, на дамкі, запалыя ў зямлю, на шынкі. І раптам адчуў нешта прыемнае. Гляджу, перада мною ідзе дзяўчына. Твару яе не відно, апранута сярэдне. Сярэдне зграбная, але я адчуваю да яе нейкую жывёльную сімпатыю. Іду за ёй, адна, другая, трэцяя вулачка, як на прывязі. Нарэшце яна заходзіць у нейкі домік і знікае. Ні разу не аглянулася, ніколі яе больш не бачыў. Але, не гледзячы на гэта, памятаю. Толькі таму, што пахла духамі, якія мне страшна спадабаліся. Здаецца, што ў дзяцінстве гуляў з пустым драўняным пудэлачкам, у якім у даўнія часы трымаліся бутэлечкі з духамі, і вось зараз мне прыпомніўся той знаёмы, запомнены з дзяцінства пах. Быў гэта вельмі нямодны сёння жоўты лубін.

Потым зноў дарога. На маім білеце напісаны толькі большыя станцыі, канкрэтна гэта бадай што: Люблін -Развадаў - Жэшаў. Развадаў - ужо ў Галіцыі. Адчуваю сябе, як за мяжой. Зусім інакшы вакзал, інакшыя вагоны, нават людзі як бы іначай апраналіся і размаўлялі. Апошняя перасадка, гляджу, дзве дарогі да Жэшава, карацейшая цераз Пшэворск (Праворск) доўжэйша цераз Дэнбіцу (Дубіцу). Але па той другой хутчэй. Сядаю ў цягнік. Ёсць яшчэ некалькіх, таксама едуць у 17-ты полк.

Кантроль. Кандуктар прычаліўся да мяне: чаму цераз Дэмбіцу, а не цераз Пшэворск? Гавару: на білеце не напісана, якую з тых дзвюх дарог я павінен выбраць. Кандуктар: трэба выбіраць карацейшую дарогу. Я: трэба пра тое пісаць на білетах. Кандуктар: плаці пан штраф! Таварышы, з якімі толькі што пазнаёміўся: пане, дай спакой, гэта бедны навабранец! Кандуктар вагаецца. Я абражаны: колькі той штраф? Кандуктар: дзесяць злотых! Таварышы: пане, адчапіся! Я: выцягваю 10 злотых. Таварышы: пане...

Кандуктар бярэ дзесяць злотых, глядзіць на мяне. глядзіць на таварышаў, усміхаецца, аддае. Таварышы гучна яму дзякуюць. Выходзіць.

Я не дзякую. Узяў дзесяць, аддаў пяць. Квітанцыю не выпісаў...

Першы раз сутыкаюся з хабарам. Здзіўлены, дэзарыентаваны, поўны абурэння, як бы наткнуўся на клапа. Адразу дуркаватая асацыяцыя: з цяжкасцю ўступілі ў Галіцыю...

Жэшаў мне вельмі спадабаўся. Зусім іншы тып

горада. Столькі зелені. Такія прыгожыя камянічкі каля цэнтра.

У палку нас прынялі не згорш, я патарпіў у трэцюю роту, камандзірам якой быў капітан Роля-Класоўскі, як само прозвішча паказвае - лігіянер. Быў высокі, тлусты тып з прэтэнзіямі, бо "грасіраваў" і быццам ужываў манокль. Здаецца, таму нас, "практыкантаў", аддалі ўсіх у яго роту.

Афіцыйна нас называлі "шарагоўцы з цэнзам". Нельга не сказаць, гэта давала пэўныя прывілеі. Падафіцэры глядзелі скрозь пальцы на тыя ці іншыя дробныя нашыя недахопы. Мы хадзілі ў звальненні. Нас не прызначалі на "чорныя" работы.

Зрэшты, былі на тое іншыя. Рота была нечувана стракатая на нацыянальным прызнаку. Было ў ёй пару яўрэяў, былі ўкраінцы, але не шмат, былі беларусы, былі перш за ўсё немцы. На нейкую сотню чалавек у роце трапіла іх каля дваццаці. Былі яны пераважна з Памор'я, сыны тамтэйшых "мужыкоў", хлопцы наогул высокія, адкормленыя. Або і не. Памятаю такога Зельке, які быў найвышэйшы ў роце, худы, згорблены з велізарным носам і ніякім падбародкам.

Адносіліся да іх па-рознаму. Памятаю да сёння, што адзін быў у фавары. Меў багатага бацьку, які яму часта прысылаў пасылкі, а той дзяліўся з падафіцэрамі. Да астатніх адносіліся больш востра. Я быў унутры неяк супраціўны таму адрозненню і да Зельке, які з прычыны пачварнасці сваёй губы, кепскай польскай мовы і адсутнасці пасылак належаў да цюхцяяў, я стараўся дэманстратыўна адносіцца з сімпатыяй.

Зрэшты цэнзавыя трымаліся групай. Заняткі былі лёгкія. Гэта мы ўжо рабілі ў гуфцах. Больш цяжкім былі маршы: на гразкіх паджэшаўскіх дарогах.

Была позняя восень. Але які ж інакшы клімат, чым у нас пад Лідай! Ранкі цёплыя, імглістыя. Мералі ржышча ботамі, тапталі меліяраваныя лугі. Збоку раптоўна вырасталі пагоркі, "сапраўдныя", не як у Вільні, поўныя зарасляў непраходных, бо былі аплпецены калючай ажынай. На лугах паўсюль цвілі кветкі, не глледзячы на канец настрычніка. Ліловыя падобныя да высокай сон-травы, але без лісцяў. Засушыў пару і хаваў у сваім дзённіку, які вёў ад пачатку восьмага класа. Некалькі пазней мне сказалі: кракосы *.

Спацелыя, цяжэйшыя на пару кіло гліны, начэпленай на боты, вярталіся ў казармы. Голад, абмануты стомай, цяпер праразаўся, станавіўся невытрымным. Кармілі нас не кепска, хоць без прысмакаў. З раніцы жудасная кава з чорным хлебам, на абед суп і мяса, на вячэру бульба і гарбата альбо "кава". Цікава, што квітнеў абменны гандаль: шмат салдат абменьвала свае чорныя хлебныя цагліны на белы хлеб, канешне даражэйшы - і гэта ў парытэтных суадносінах, кіло на кіло. Пад дротам каля казармаў заўсёды з вечара стаялі бабы, якія чакалі на тыя цагліны. Мы пыталіся, як гэта ім аплачваецца, гаварылі, што чорны хлеб больш сытны.

Але і мы апетыт мелі нястомны. Тыя самыя бабы прадавалі акрамя таго нейкія найпрасцейшыя, найтанейшыя прысмакі, напрыклад халодныя бульбяшы, дранікі. Калі мы ішлі ў горад, то не дзяўчаты былі аб'ектам мараў і пошукаў, але харч. Ніколі нідзе не еў такіх цудоўных слодычаў, як у Жэшаве. У гэтым як бы замежным горадзе і цукерні былі не падобныя да нашых. Элегантныя, чысцюткія, маленькія і з такім выбарам печыва! Аддавалі на іх астатнія грошы. Шыкарныя былі таксама шакаладныя бомбы.

Ляпанне ботамі перад любым начальнікам. Цяжкасці вучэбныя, адсутнасць уласнага часу, той расклад дня, у якім нехта за цябе распараджаецца кожнай пяцёркай тваіх хвілін - усё гэта канешне было непрыемна. Але на кожную такую развагу меўся ў запасе адказ: яшчэ два тыдні - і падхарунжаўка (школа падхарунжых)!

Была гэта вельмі наіўная жыццёвая пазіцыя. Зрэшты яна спрычынілася да таго, што ўся мая будучыня пакацілася так, як пакацілася.

Мы ішлі вуліцамі Жэжава і цягнулі палкавы гімн:

*Не адна дзяўчына*
*Ёсць па імені Настка,*
*Але нікога не кахай*
*Акрамя як сямнастку.*

Паўтаралася тое трохі вышэй потым другая страфа:

*Не адна дзяўчына*
*Ёсць па імені Маня,*
*Але нікога не любі*
*Акрамя трэцяй кампані (роты).*

Потым пачыналіся непрыстойнасці, зрэшты адносныя.

З нецярпеннем лічылі дні. Ужо паслязаўтра, паслязаўтра, паслязаўтра. Ужо паслязаўтра. Гэта такі мой спосаб паскарэння (ці скарачэння жыцця)

Ужо заўтра? Ужо заўтра не будзе тых усіх камандзіраў роты, тых Роля-Класоўскіх, тога ўсяго...

Пісаў пра тое ў сваім дзённіку. Ужо заўтра станем падхарунжымі, гэта значыць амаль афіцэрамі.

**Ружан**

Ад'езд. Вечар. Страшна заледзянелыя стаім ушасцярых на пероне. Доўгая дарога праз Варшаву, Тлушч да Ружана. Тлушч - перасадка. Што за кашмарная дзірка. Пасля ўсёй той Галіцыі ўбачыць такі жах - падвойная прыкрасць.

Тое самае з Ружанам. Я вывучаў "Сізіфавыя працы", вывучаў амаль усяго Жаромскага. Але якраз гэтае мястэчка дало мне поўны каларыт жаромшчыны.

Ужо не памятаю, як мы дабраліся да казармаў. Былі гэта доўгія двухпавярховыя будынкі з цмянай, быццам бы чырвонай цэглы. У сярэдзіне нешта трохі вышэйшае. З усіх бакоў выдзьмы (дзюны), пясчаныя выдзьмы, парослыя жалобнай сасной.

Больш ні дрэўца. Пясок, сасёнкі і цэгла.

Нас правялі ў спальню. Вялікая, панурая зала і цэлыя табуны нізкіх жалезных ложкаў. Выдзяляюць мне такое ж. З аднаго і другога боку нейкія незнаёмыя суседзі. Адразу пачуваюся фатальна: я, навічок, не разумею, што рабіць са страшнай сілай кантрасту, мной самім напампаванай тымі чаканнямі на “цуд” падхарунжаўкі.

* Толькі пасля гэтага выдання атрымаў два лісты, адзін з Уроцлава, другі з Афганістана, якія папраўлялі гэтае маё сцвярджэнне: гэта былі бясчаснікі (зімоўнікі) асеннія (*Colchicum autumnale*).

Уласна таму, што так чакаў гэтага Ружану, расчараванне яшчэ глыбейшае. А, сапраўды, на што спадзяваўся? - паняцця не маю. Шмат людзей у зале, так. Мы ўжо не крышку лепшыя ад звычайнага шарагоўца, другое так. А акрамя таго і кормяць намнога лепей, напрыклад, даюць цудоўны белы хлеб, і практыкаванні, як пакуль, то не страшныя. Бо зноў ужо ў трэці раз, пасля гуфца і сямнаццатага палка - успамінаем рэкруцкія азы: карабін, трохкутнік памылак...

А тым часам я адчуваю сябе з дня на дзень што раз горай. Пачынаецца гэта ад пабудкі, а па сутнасці яшчэ раней. Ніколі не быў соням. Але тое буджэнне! Той голас, які разлягаецца, здаецца, над тваім вухам: пабудка. Пабудка. Устаць! Дзень за днём я перажываю нярвовы шок. Дзень у дзень перасьледуюць мяне сны - без выключэння з Банева. Дзякуючы ім, ружанскі кантраст яшчэ мацнейшы. Даходзіць да таго, што прачынаюся на добрую гадзіну раней і ляжу ў цёмнай зале, чакаючы на крокі дзяжурнага, абы не перажываць той агідны стрэс. Цёмная зала, цяжкі дух некалькіх дзесяткаў разаспаных бычкоў, храп, свіст праз сон, размовы праз сон. Ляжу так страшна прыгнечаны. Адзін да аднаго, як дурань журыўся ў Жэшаве. Добра. Але якое выйсце?

Нарэшце недзе там крокі, дзверы, газавая лямпа жоўта асвятляе першыя тры ложкі. Крык пабудкі.

З дня ў дзень збіраліся ў мне нейкія роспачлівыя пачуцці. У канцы не вытрымаў; даведаўшыся, што як дапрызыўнік і перад прысягай магу быць звольнены дадому, падаю рапарт.

Не памятаю камандзіра роты, які мяне выслухоўвае. Ведаю, што нечым там такім нагадваў Ролю-Класоўскага. Маю нялёгкую задачу патлумацыць яму, чаму я хачу кінуць тую школу падхарунжых. Можа мяне хто пакрыўдзіў? Не. Ці не магу справіцца з практыкаваннямі? Не. Як жа яму патлумачыць, што кідаю шляхетную перспектыву афіцэрскай прафесіі, бо не магу вытрымаць пабудкі?

Сам не памятаю, як з тым справіўся. Не памятаю таксама, чаму здарылася такая сцэна: стаю пры сваёй шафцы і адкрываю дзённік. Камандзір роты стаіць побач. Я павінен яму нешта паказаць, ліст, дакумент ці фатаграфію. Адкрываю дзённік, дзе тое ляжыць. Камандзір роты глядзіць. І раптам пытаецца, а гэта хто? Паказвае пальцам на прозвішча Роля-Класоўскі. Я камянею.

Справа ў тым, што Роля-Класоўскім заканчвалася думка. А гучала яна так: “Гэты наш тутэйшы камандзір роты - дакучлівы, непрыемны, яшчэ горшы, чым Роля-Класоўскі”.

Аддаю яму належнае. Пасля такой страшнай характарыстыкі ён і вокам не маргнуў, і, што больш дзіўна, не ўчыніў супраць мяне ніякага свінства ў адказ.

Нарэшце кіраўніцтва школы дало згоду на маё адлічэнне. Заставалася яшчэ некалькі дзён да свята Божага Нараджэння.

О, цяпер адчуў сябе намнога лепей. Ведаючы, што неўзабаве з гэтым усім развітаюся, адчуваю нават пэўнае задавальненне. У салдацкай сталоўцы, напрыклад, былі дасканалыя ракавінкі з вафлі, напоўненыя нейкім крэмам колеру кавы і дробкамі трускалкавых канфіцюр. Усё, што меў, пусціў на тыя ракавінкі. Мела гэта замашкі марнатраўства.

У нядзелю мы маршыравалі ў Ружан да касцёла. Грукалі па драўняным мосце цераз Нараў. Касцёл стаяў адразу збоку. На пляцы, вялікім, бо так малыя, жабрацкія, чорныя былі дамкі, якія там былі пастаўлены ў правільны квадрат.

Той тагачасны Ружан застанецца мне да смерці ў вачах як месца жаромшчыны. Галечы, цемнаты, крыўды, нуды. Нізкага хмурнага неба. Чорнага гарызонту за Наравам, чорнага з-за тых сасёнак на выдзьмах. Кульгавых бальзамінак у ліліпуцкіх акенцах. Худых дзяўчат, затуленых ў хусты. Яўрэяў, пейсатых, у чорных аксамітных шапачках, вельмі гаротных, з зялёнымі шчокамі, запалымі вачыма, з нейкай пакутнай паходкай. Далёка ім да яўрэяў жэшаўскіх, галасістых, тоўстых, у лісіх шапках.

Найдзіўнейшым у тым адчуванні Ружану было тое, што гэта ўсё разам не выклікала ўва мне ані агіды, ані непрыязні, а хутчэй не пазбаўлены прыемнасці смутак і нават нейкае, як бы прыцягненне. З-за гэтага неаднаразова ў рознароднейшыя хвілі жыцця наведвалі мяне - зрэшты кароткачасовыя - жаданні пасланць "усё гэта" да ста д'яблаў і пасяліцца ў нечым кшталту Ружана.

Тым часам зноў "скарачаў" жыццё... пасляпаслязаўтра, паслязаўтра, заўтра... У цягніках была цесната. Падхарунжыя - зрэшты яшчэ без гэтага звання - штурмавалі вагоны, штурхаліся ў тамбурах, крычалі на прыпынках, абменьваліся канікулярнымі адрасамі. Я не абмяняўся адрасам ні з кім. Быў ужо не з імі, цывільны ў пашарпаным паліце.

**Куцця**

Быў снег і мароз. Каштан дыміўся як рота курцоў. У Мінойтах-вёсцы пяцьдзесят роўненькіх слупоў ружовага дыму. Усё зрэшты было ружовае: сонца толькі ўсходзіла і тое марознае. Нават снегіры, што скакалі па прыдарожных кустах не выдзяляліся. Іхняя чырвань была толькі лёгкім перабольшваннем.

Атулены ў кажух, ехаў. Бацька і словам не адазваўся на тэму маіх ганебных уцёкаў. Размаўлялі, зрэшты, скупа: вецер з усходу, з-за Нёмана напаўняў марозам рот, як толькі яго адкрываў. З горкі Каштан патрусіў подбегам. Вецер зрабіўся нязносны, залазіў праз любые дзіркі пад кажух. Якой палёгкай быў дом!

Цёмныя сені, цёплая кухня. Маці цалуе мяне, як бы нармальна на свята... Сёстры падскакваюць. У той "галоўнай" хаце зялёны стаяк раскалены так, што нельга дакрануцца.

Я прыехаў якраз перад Куццёй. Вельмі добра, бо столькі перадсвяточных заняткаў, што можна прамаўчаць усялякія прыкрыя тэмы.

Ёлка ўжо стаяла ў той цвэртцы хаты, якая выконвала функцыі "салону". Відаць, высеклі яе недзе па-за ўчасткам: ні адной з "нашых" нельга было зачапіць. Я мусіў быў узяцца за клеянне ланцугоў (гірляндаў) з глянцавай паперы, саломы і да таго падобных традыцыйных інгрэдыентаў. Маці ў перадбанеўскі перыяд мела больш часу, колькі гадоў перад Божым Нараджэннем рабіла сама розныя, цалкам добрыя цацкі: арлекінаў, Святых Мікалаяў, страўсаў, неграў. Вечарам

мы засядалі пры вялікай газавай лямпе, павешанай над сталом і браліся за работу. Некалі маці гэта рабіла для мяне і трохі без мяне - бо было пастаноўлена, што да апошняй хвілі я не павінен нічога пра тыя забаўкі ведаць Потым я быў дапушчаны да ўдзелу: рабілася без старэйшай сястры. Цяпер і яна даступілася да таго гонару. Засталася толькі малодшая. Тую ўкладвалі спаць, і толькі потым маглі мы, старэйшыя, прыступаць да паважнай работы.

Перад куцёй "дзяцей" выстаўлялі на двор, прыбіралі ёлку, і толькі потым дапускалі выгнанцаў на яе паглядзець. Гэтай шляхетнай традыцыі я не захаваў у сваёй уласнай сям'і, сын мой ад самых ранніх гадоў быў дапушчаны да ўдзелу ў ёлачнай містэрыі і таму адносіцца да яе надзвычай лёгка.

Запаленыя свечкі, халодныя агні (бянгальскія), што сыплюць іскрамі маюць сваю абыяльнасць, "іграюць" толькі на фоне газавай лямпы, у дадатак зусім патушанай. На фоне замкнёных акяніц, з-за якіх выглядаюць заснежаныя шапкі найбліжэйшых сасёнак і блакітрыя зоркі марознай ночы. На фоне самога марозу, цемнаты і цішы, якія атачалі засыпаны снегам дом.

Але ёлка - на "пасля вячэры". Містэрыя пачыналася з куці.

Мы мелі ў сям'і ўсталяваны рытуал, у якім на фоне традыцыйна рэлігійным многія гады квітнелі ўстаўкі часцей чыста звычаёвыя, вузка сямейныя.

У прынцыпе стол на куцю складаўся са страў посных. Селядзец з цыбулькай, боршчык з вушкамі, шчупак фаршыраваны або смажаны, найчасцей і такі, і гэтыкі, нарэшце лазанкі (лапша ў выглядзе квадрацікаў) з цёртым макам і кампот з сушанай садавіны.

Падавалася гэта ўсё з першай зоркай. Спачатку пост быў абсалютны, ад самага ранку. З бегам часу з'явілася сціплае снеданне з гарбатай, хлебам, селядцом.

Элементам традыцыі былі не толькі стравы, але і дзейнасць, звязаная з іх прыгатаваннем. Было прынята, напрыклад, што гэта я мусіў смажыць вушкі для баршчу. Гэта быў надзвычайны прысмак: крохкае цеста і начынка з грыбоў, спачатку сушаных, потым вараных, потым прысмажаных з цыбулькай. Тады рабіліся вушкі, ставілася на вялікі агонь патэльня, давалася шмат шмальцу, калі ён даходзіў да кіпення, кідаўся тузік вушак. Іскраў было без меры, тлушч трашчаў і пырскаў агністымі кропкамі, у імгненне вока вушкі румяніліся, пераварочвалі іх на другі бок і ўжо наступная партыя магла падаць на чорны круг патэльні.

Я прыехаў якраз на куцю. Гэта стала адной з першых прычын маёй занятасці, пэўна, каб цяжэй было дайсці да размовы пра мой правал.

Голад перамагаў. Перад змяркannем то той, то гэты выскакваў на марозны паполудзень, шукаючы зорку. Маці прынесла бярэмя сена. Паклала яго на стол, прыкрыла сурвэтай.

Вострую атаку перажывала першая страва. Селядзец з бульбай - варанай у мундзірах - і з кружкамі тонка нарэзаных бурачкоў знікаў у імгнене вока. Боршч з маімі вушкамі ішоў, як вада. Ужо смажаны шчупак дэманстраваў выразна зніжаныя тэмпы наступлення. Дэсерт у вялікай меры заставаўся не кранутым. Елі яго ўсё свята, асабліва кампот.

Ёлка запалена. Сoннасць. Выходзім на двор. Снег па калена, толькі сцежкі, як злучальныя равы - да брамы, да студні. Сабака Бурак, названы так насуперак салонным выдумкам, скакаў на ланцугу пры сваёй будзе. Атрымліваў большую порцыю яды і танцаваў, прадчуваючы яе загадзя. Ноч поўная, зорная, марозная, ціхая. Можа толькі цяпер прыгадваю сабе ўсю глыбіню той цішыні і яе значнасць. За шэсць кіламетраў брахалі сабакі ў Дакудаве. За дванаццаць кіламетраў ішоў цягнік у Мінойтах. Вялікія асіметрычныя шкілеты дубоў выглядалі з-за даху. Які́м цёплым і блізкім станавілася святло газавай лямпы ў шчыліне акяніцы!

Пасля ішлі спаць, і сны прыходзілі дзівосныя, недалёкія ад кашмараў, якія перарываліся мармытаннем і крыкам.

**Банева, зіма**

Па святах бацька паехаў у Ліду. Мы засталіся адны, г.зн. маці, сёстры, служанка і я.

Снягі былі вялікія. Безсэнсоўнасць існавання ў Баневе набірала вагі. Лыжаў я не меў. На каньках ездзіць не было дзе, бо ўсе сажалкі і сам Нёман былі засыпаны на добрыя паўметра.

Таму сядзеў дома. Нанава перачытваў раз-пораз "Бялоны", колькі дзесяткаў кніжак са сваёй "бібліятэкі", галоўным чынам дзіцячай і моладзевай. Выдумваў розныя гульні, перш за ўсё вайсковыя. Чуў, што ёсць нешта такое, як "ваенная гульня". Пастараўся прыдумаць нешта ў тым родзе. Такія "гульні", як вядома, прымяняюцца для тактычнага ўдасканалення малодшых афіцэраў, камандзіраў звязаў, ротаў. Робіцца з гіпсу макет кавалка зямлі, ставяцца домікі, дрэвы, ручаі, вёскі, масты. Вельмі цікава.

Я зрабіў нешта такое, але ў большым маштабе. "Цікавілі" мяне тыя справы толькі на ўзроўні камандуючых армій і галоўнакамандуючых. Мушу пацвердзіць - светлая забава. Патрапляў сядзець над чарговай аперацыяй цэлы дзень і толькі вячэра змушала мяне скручваць рулон паперы і пакаваць "вялікія падраздзяленні" ў пачак ад запалак.

А потым і гэта даводзіла мяне да пазяхання і хандры. Я ішоў на двор, затулены ў што траплялася, рабіў адкрывальніцкія падарожжы да дакудаўскай дарогі, да Дзітвы. Бель снегу там і сям падзяўбаная ланцугамі слядоў вавёрак, зайцоў, варон. Вароны пачалі збірацца каля сядзібы Лявончыка. Сядзелі на вяршынях дубоў і крычалі, прадказваючы мароз.

Не ведаю, што ў такіх прагулках было важнейшым: сама дарога ці вяртанне. Уваходзіў у сені, першыя, халодныя. Тут доўга тупаў. І каб ногі разагрэць, і каб снег абтрэсці. Другія сені цёплыя. Такое прыемнае цяпло дому!

Мароз нарэшце лопнуў. Вечар у хмарах. З раніцы мяне адвезлі ў Мінойты. Было цёмна, і толькі пачынала развідняцца. Нізкае неба, пушыстае і попельнае. Церушыліся адзінкавыя, вялізныя шматкі снегу, кружыліся, бясшумна сядалі на кажуху. Усё стала аднолькавае: неба, зямля, дрэвы, дарога - усё попельнае, мяккае, пушыстае. Задуменная цішыня. Попельнае павольна становіцца шэрым. У ім чырвоныя вочы - першая хата Мінойтаў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**У Маскве ў выдавецтве “Росмэн”, выйшла кніга Валерыя Васкабойнікава “Довмонт, князь Псковский”, 64 ст. Наклад 7000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі”, г. Менск, выйшаў 2-гі том энцыклапедыі “Культура Беларусі”, 704 ст. Наклад 3000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Харвест”, выйшала кніга В.У. Дзеружынскага “Забытая Беларусь” 496 ст. Наклад 3000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Кнігазбор”, выйшала кніга Леаніда Лыча “Магільнае ў часы нямецкай акупацыі (чэрвень 1941 - ліпень 1944 г). Успаміны”. 104 ст. Наклад 100 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Кнігазбор”, выйшала кніга Сяргея Чыгрына “Альбярцін”. 78 ст. Наклад 150 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Радыё Свабода”, выйшала кніга Аляксандра Лукашука “Сьлед матылька. Освальд у Менску” 390 ст.**



***Касцёл Святога Юрыя. Беліца, Лідскі р-н.*** *Здымак С. Судніка.*